ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ
ГАЗЕТА

# КУЛЬТУРА

№ 45 (358)
28 лістапада —
4 снежня
1998 г.
КОШТ
6000 РУБЛЁЎ





















**Як мы паведамлялі ўжо, у гасцёўні Галубка экспанавалася фотавыстава вядомага беларускага фотамайстра, карэспандэнта БелТА Яўгена Казюлі. Застылую ў кадры прыгажосць Браслаўшчыны, што экспанавалася ў Траецкім прадмесці сталіцы, зразумела, пабачылі не ўсе нашыя чытачы. Таму мы вырашылі адвесці на гэтай каляровай паласе месца хоць невялічкай колькасці фотаздымкаў майстра. На днях выстава паедзе ў Ліду і Гродна. Дарэчы, дапамагала нарадзіцца ёй і Браслаўскае музейнае аб'яднанне, куды ўваходзіць музей рамёстваў, краязнаўчы музей, музей прыроды і этнаграфіі, а таксама музей млынарства і земляробства.**

**"Выстава адкрыла нам вочы на свой край". Такі водгук — бадай што, самае высокае ўхваленне для творцы, і напісалі яго самі браслаўчане. Яўген Казюля сёння ўжо марыць стварыць эпічны сказ пра Палессе. На гэты раз майстар, магчыма, вернецца да чорна-белых кадраў, бо менавіта яны, на яго думку, найбольш востра раскрываюць магчымасці фатаграфіі.**

**Мы ж падпісваемся пад словамі, якія напісалі для Яўгена ўдзельнікі хору духоўнай музыкі: "Беражы, Божа, майстра, які апявае сваю Айчыну".**









# СКАЗ ПРА БЛАКІТНЫЯ АЗЁРЫ









**Афіцыйна**

*Зацвярджаю*
*Міністр культуры*
*Рэспублікі Беларусь*
*А. У. Сасноўскі*

# ПАЛАЖЭННЕ

## аб парадку выдачы суб'ектам гаспадарання спецыяльных дазволаў (ліцэнзій) на ўсе віды гастрольна-канцэртнай дзейнасці

*УЗГОДНЕНА*
*Міністэрства прамысловасці Рэспублікі Беларусь*
*Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь*
*Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый Рэспублікі Беларусь*
*Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь*

**1. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ**

1.1. Палажэнне распрацавана ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 16 кастрычніка 1991 года № 386 (у рэдакцыі пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27 верасня 1992 года № 573) "Аб парадку выдачы суб'ектам гаспадарання спецыяльных дазволаў на ажыццяўленне асобных відаў дзейнасці і дзяржаўнай рэгістрацыі прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы" і пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 8 ліпеня 1998 года № 1057 "Аб ліцэнзаванні гастрольна-канцэртнай дзейнасці" і вызначае парадак выдачы і адмены суб'ектам гаспадарання (юрыдычным асобам і падпрымальнікам, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы) спецыяльных дазволаў (ліцэнзій) (у далейшым — ліцэнзій) на ўсе віды гастрольна-канцэртнай дзейнасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Палажэнне з'яўляецца абавязковым для ўсіх суб'ектаў гаспадарання, якія зарэгістраваны і ажыццяўляюць адпаведную дзейнасць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Суб'екты гаспадарання, зарэгістраваныя за межамі Рэспублікі Беларусь, але якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць поўнасцю ці часткова на яе тэрыторыі, абавязаны атрымліваць ліцэнзію на ажыццяўленне сваёй дзейнасці ў парадку, устаноўленым гэтым Палажэннем.

1.2. Відамі гастрольна-канцэртнай дзейнасці, на ажыццяўленне якіх патрабуецца ліцэнзія на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, з'яўляюцца арганізацыя і правядзенне сольных і гала-канцэртаў выканаўцаў і мастацкіх калектываў, драматычных, оперных і балетных спектакляў, аўтарскіх вечароў, цыркавых праграм, канцэртаў-прэзентацый, іншых тэатральна-відовішчных мерапрыемстваў незалежна ад колькасці гледачоў.

1.3. Здзяйсненне на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь усіх відаў гастрольна-канцэртнай дзейнасці без ліцэнзіі, выдадзенай Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, забараняецца.

Ад абавязковага атрымання ліцэнзіі на ўсе віды гастрольна-канцэртнай дзейнасці вызваляецца Беларуская дзяржаўная філармонія і філармоніі абласнога падпарадкавання ў выпадку, калі яны займаюцца сваёй асноўнай дзейнасцю ў адпаведнасці са сваімі статутамі.

**2. ПАРАДАК ВЫДАЧЫ**

суб'ектам гаспадарання ліцэнзіі на ўсе віды гастрольна-канцэртнай дзейнасці

2.1. Ліцэнзіі выдаюцца Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь па заяве зацікаўленага суб'екта гаспадарання. Да заявы прыкладаюцца дакументы ў адпаведнасці з Пералікам, які дадаецца да гэтага Палажэння.

2.2. За выдачу ліцэнзій суб'ектам гаспадарання бярэцца плата ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Сродкі, атрыманыя за выдачу ліцэнзій, пералічваюцца ў рэспубліканскі бюджэт.

2.3. Рашэнне аб выдачы ці адмове ў выдачы ліцэнзіі прымаецца на працягу 30 дзён з моманту падачы заявы і неабходных дакументаў.

Ліцэнзія ці рашэнне аб адмове ў яе выдачы выдаецца заяўніку ў тэрмін да 5 дзён пасля прыняцця адпаведнага рашэння.

У рашэнні аб адмове ў выдачы ліцэнзіі павінны быць названы прычына адмовы і прававыя нормы, якія з'яўляюцца яго падставай.

У выпадку, калі для прыняцця рашэння аб выдачы ліцэнзіі патрабуецца правядзенне экспертызы, канчатковае рашэнне прымаецца ў 15-дзённы тэрмін пасля атрымання экспертнага заключэння. Пры гэтым экспертыза павінна быць праведзена на працягу 45 дзён з моманту падачы заявы і неабходных дакументаў.

Неабходнасць правядзення экспертызы вызначае Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Экспертыза можа быць праведзена ў выпадку прыпынення дзеяння ліцэнзіі для прыняцця рашэння аб аднаўленні ці спыненні яе дзеяння з-за выяўленых парушэнняў правілаў (умоў) ажыццяўлення дзейнасці суб'ектам гаспадарання.

Эксперты (юрыдычныя і фізічныя асобы) нясуць адказнасць за дакладнасць вынікаў экспертызы ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

У выпадку нязгоды суб'екта гаспадарання з прызначэннем экспертызы ці з яе вынікам ён мае права абскардзіць рашэнне аб яе прызначэнні і прадстаўленае заключэнне ў судзе.

Выдаткі за правядзенне экспертызы пакрываюцца за кошт заяўніка ў парадку, які вызначаецца Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь.

Тэрмін дзеяння ліцэнзіі — 5 гадоў.

Прадаўжэнне тэрміну ліцэнзіі ажыццяўляецца ў парадку, прадугледжаным для яе атрымання.

2.4. У ліцэнзіі ўказваюцца назва органа, які выдаў ліцэнзію, назва і адрас юрыдычнай асобы ці прозвішча, імя, імя па бацьку, месца жыхарства грамадзяніна, які ажыццяўляе прадпрымальніцкую дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, канкрэтны від дзейнасці і правілы яе ажыццяўлення, нумар рэгістрацыі ліцэнзіі, дата яе выдачы, тэрмін дзеяння.

Ліцэнзія, узор якой зацверджаны Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, падпісваецца міністрам культуры (першым намеснікам міністра культуры) і завяраецца пячаткай міністэрства.

Ліцэнзія афармляецца ў двух экземплярах. Адзін з іх перадаецца заяўніку, які распісваецца ў кнізе выдачы (прадаўжэння) ліцэнзій суб'ектам гаспадарання. Другі экземпляр ліцэнзіі захоўваецца ў Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь на працягу тэрміну, на які выдадзена ліцэнзія.

Ліцэнзія дзейнічае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь вядзе ўлік ліцэнзій.

У выпадку страты ліцэнзіі выдаецца дублікат з аплатай 50 працэнтаў сумы, якая бярэцца за выдачу ліцэнзіі.

**3. АНУЛЯВАННЕ ЛІЦЭНЗІІ**

3.1. Не дапускаецца распаўсюджванне арганізатарам канцэртна-гастрольнай дзейнасці рэкламнай прадукцыі мерапрыемстваў без выхадных дадзеных, прадугледжаных дзяржаўнымі стандартамі, а таксама без абавязковага ўказання спецыфікі правядзення мерапрыемства ("жывы гук" або "фанаграма"), з парушэннямі аўтарскага права, выкарыстанне звестак, якія складаюць дзяржаўную ці іншую спецыяльна ахоўваемую законам тайну; забараняецца правядзенне мерапрыемстваў, якія ўтрымліваюць заклікі да гвалтоўнага звяржэння існуючага дзяржаўнага і грамадскага ладу, прапаганду вайны, насілля і жорсткасці, расавай, нацыянальнай, рэлігійнай выключнасці або нецярпімасці, парнаграфіі, а таксама іншае злоўжыванне ў мэтах учынення крымінальна-каральных дзеянняў.

У выпадку парушэння суб'ектам гаспадарання ўказаных у першым абзацы гэтага пункта асобых умоў і правілаў ажыццяўлення названага віду дзейнасці, орган, які выдаў ліцэнзію, можа прыпыніць яе дзеянне на тэрмін да 6 месяцаў, пры паўторным ці грубым парушэнні — ануляваць яе. Ануляваная ліцэнзія вяртаецца Міністэрству культуры Рэспублікі Беларусь.

**4. АДКАЗНАСЦЬ ЗА ПАРУШЭННЕ ПАЛАЖЭННЯ**

4.1. Кантроль за выкананнем суб'ектамі гаспадарання гэтага Палажэння ажыццяўляецца Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і дзяржаўнымі кантралюючымі органамі Рэспублікі Беларусь.

4.2. У выпадку ажыццяўлення дзейнасці без ліцэнзіі суб'ект гаспадарання нясе адказнасць, прадугледжаную артыкулам 9 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб падатках і зборах, збіраемых у бюджэт Рэспублікі Беларусь".

4.3. Рашэнні аб адмове ў выдачы ліцэнзіі або пазбаўленні ці прыпыненні яе дзеяння могуць быць абскарджаны ў судзе на працягу 30 дзён.

4.4. У выпадку прызнання судом рашэння аб пазбаўленні ліцэнзіі неабгрунтаваным суб'екту гаспадарання выдаецца паўторная ліцэнзія без спагнання платы.

**ДАДАТАК ДА ПАЛАЖЭННЯ ПЕРАЛІК**

Дакументаў, якія неабходна прадставіць у Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь для атрымання ліцэнзій на ўсе віды гастрольна-канцэртнай дзейнасці

1. Заява суб'екта гаспадарання з указаннем дакладнага юрыдычнага адраса, прозвішча, імя, імя па бацьку, пашпартных дадзеных, відаў дзейнасці, прозвішча асобы, адказнай за ажыццяўленне гэтай дзейнасці.

2. Копіі ўстаноўчых дакументаў — статута (палажэння) прадпрыемства (установы), пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі.

3. Копія плацёжнага даручэння або квітанцыі аб аплаце за выдачу ліцэнзіі.

* * *

Аплата за атрыманне ліцэнзіі складае 1000, а за прадленне ліцэнзіі — 500 мінімальных заработных плат.

— ад аплаты за атрыманне ліцэнзій (сама ліцэнзія абавязкова патрэбна) на ажыццяўленне гастрольна-канцэртнай дзейнасці вызваляюцца дзяржаўныя тэатральна-відовішчныя прадпрыемствы.

Экспертызай і падрыхтоўкай неабходных дакументаў будзе займацца спецыяльная служба галаўной канцэртнай арганізацыі рэспублікі — Беларускай дзяржаўнай філармоніі (даведкі па тэлефонах: 284-44-22; 284-49-74; 284-44-33).

---

***Тры гады таму ў Мінск з Кіёта прыехала на вучобу японка. Знайшла тут, так бы мовіць, сваю долю, дый вырашыла застацца назаўсёды. Зараз яна працуе выкладчыцай японскай мовы ў галоўным універсітэце краіны.***

Пытаюся ў Масако Тацумі:

**— Як вы апынуліся ў Мінску?**

— Калі навучалася ў такійскім універсітэце Кэё, у другой палове 80-х, — у японцаў з'явілася вялікая цікавасць да СССР, выкліканая тагачаснымі рэформамі і, уласна, асобай Міхаіла Гарбачова. Узнік сапраўдны бум — у моду ўвайшлі руская мова і культура.

**— А дагэтуль цікавасці не было?**

— Раней было такое меркаванне: СССР — дрэнная краіна, таму і савецкая культура — дрэнная. Гарбачоўская перабудова зрабіла ў розумах маіх суайчыннікаў цэлую рэвалюцыю. Шмат хто пачаў вывучаць рускую мову, нават самастойна.

**— Але ж Савецкі Саюз разбурыўся...**

— Так, і эйфарыя ў Японіі спала. У той жа час застаўся невялікі пласт людзей, што зберaглі цікавасць і надалей. Пасля заканчэння універсітэта я вырашыла прыехаць у Расію, каб удасканаліць веды. Паступіла ў Далёкаўсходні універсітэт, што ва Уладзівастоку. Там мне не вельмі спадабалася. Галоўнае, я не мела магчымасці добра вывучаць рускую мову, бо разам са мною вучылася шмат маіх землякоў. Натуральна, пасля занядкаў мы адасабляліся ў сваё нацыянальнае кола і мова Дастаеўскага хуценька забывалася. Жадала мець мясцовых сяброў, але мае землякі перасцерагалі мяне, маўляў, рускія ўжо не тыя — іх цікавяць толькі грошы, таму сапраўднай сяброўны не будзе, да таго ж гэта проста небяспечна, бо вакол, маўляў, суцэльны крымінал.

**— І вы вырашылі змяніць краіну навучання?**



— У студзені 1995 года я прыехала ў Мінск, дзе паступіла на курсы рускай мовы для замежнікаў пры БДУ.

**— Чаму менавіта ў Мінск?**

— Да гэтага я ўжо была аднойчы ў вашай сталіцы, улетку 1992 года падчас майго падарожжа. Тады я наведала Хабараўск, Маскву, Мінск, Санкт-Пецярбург, Хельсінкі, Кіеў, Адэсу, Іркуцк. З пералічаных гарадоў адразу вылучыла чысты, зялёны і спакойны Мінск. Заўважыла таксама, што большасць мінчан размаўляла па-руску, у адрозненне ад Украіны, дзе хуткімі тэмпамі пачала распаўсюджвацца ўкраінская мова. Важна было і тое, што кошт навучання ў Мінску быў значна таннейшы за маскоўскі. Усё гэта мяне прывабіла. Але, адкрыю сакрэт, з вашым горадам я была злучана, праўда завочна, значна раней, падчас вучобы ў Токіо. Там, у знакамітым шматлікімі кнігарнямі раёне Канда — ёсць крама, у якой гандлююць літаратурай выключна на рускай мове. Каля касы ёсць дошка інфармацыі, на якую рэгулярна вывешваюць аб'явы з адрасамі тых, хто жадае наладзіць перапіску з японцамі. Там я і заўважыла мінскі адрас. У той час адрасатам быў 15-гадовы хлопец. І хаця я была старэйшай на некалькі гадоў, не раздумваючы, даслала яму ліст. Мы пачалі перапісвацца. Мінчанін не ведаў японскай мовы, таму ліставанне адбывалася праз рускую. Для мяне гэта была добрая практыка. Такім чынам, маё знаёмства з культурай Расіі адбылося праз пасярэдніцтва беларуса.

**— Аднак Беларусь — гэта не Расія. Вы заўважылі розніцу?**

— Пазней, калі ўжо прыехала сюды вучыцца, адчула розніцу паміж дзвюма краінамі. Менталітэт тутэйшых людзей значна адрозніваецца ад расійскага. Калі агромністая Расія, дзе шмат розных народаў, дзе ўсё намешана, дзе ўсходняя частка нават азіяцкая паводле духу і геаграфіі, дык маленькая, кампактная Беларусь, на мой погляд, еўрапейская краіна. Таму сваім сваякам, сябрам, знаёмым цяпер заўсёды кажу, што рускія і беларусы адрозніва-

---

# ЧЭРВЕНЬСКІЯ

***За вокнамі аўтобуса — марозная ветраная золкасць. Да пункта маёй камандзіровачнай вандроўкі — раённага цэнтра з настальгічна-"цёплай" назвай Чэрвень — ехаць гадзіны паўтары. Чаму б, заплюшчыўшы вочы, крыху не пафантазіраваць? Напрыклад, аб тым, што гэта не звычайны аўтобус, а машына часу, якая можа перанесці мяне на колькі месяцаў назад, у самы што ні на ёсць спякотны чэрвеньскі Чэрвень. Альбо яшчэ далей, у паслярэвалюцыйную віхуру, калі старажытная назва гэтага гарадка — Ігумень — была скінута ўслед за купаламі і званамі шматлікіх навакольных храмаў. Фантазёры-бальшавікі вырашылі перайменаваць Ігумень у Ліпень (справа адбывалася ў ліпені), аднак своечасова ўспомнілі, што гэтым найменнем з лёгкай рукі іхніх таварышаў ужо было адорана суседняе мястэчка. Чым скончыліся далейшыя разумовыя высілкі па перайменаванні — вядома... Альбо перанесціся б у канец XVIII стагоддзя, калі быў створаны Ігуменьскі павет, які распасціраўся на добрую палову цяперашняй Мінскай вобласці...***

Зрэшты, аўтобус ужо прыбыў да месца прызначэння, а значыць, час і нам вярнуцца з мройнага далёка ў сцюдзёную лістападаўскую рэчаіснасць райцэнтра Чэрвень.

Сёння найбольш хвалюе работнікаў культуры, якія працуюць у правінцыі, ужо, мабыць, традыцыйнае пытанне: як перазімаваць? Не стаў выключэннем і Чэрвеньскі раён. Як паведаміла загадчыца аддзела культуры райвыканкама Марына Калтовіч, мінулай зімой многія клубныя ўстановы ўвогуле не апальваліся, хаця не перапынялі сваёй працы. Таму на пачатку гэтага года на ўзроўні гарвыканкама было прынята рашэнне аб тэрміновым умацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы сельскіх клубаў і бібліятэк, правядзенні рамонтных работ будынкаў і, у прыватнасці, ацяпляльных сістэм. М.Калтовіч запэўніла, што самыя вострыя пытанні па ацяпленні ў раёне ўжо практычна вырашаны. Аднак наўрад ці клубы набудуць прыцягальную моц толькі ад таго, што перастануць нагадваць лядовыя палацы. "Недаравальна ставіцца да сельскага жыхара як да "деревни", думаючы, што ён можа спакойна наведваць клуб, дзе цячэ дах, і танчыць пад незразумелыя гукі, якія вывяргае дапатопны магнітафон, — кажа Марына Аляксандраўна. — Натуральна, ён хоча прыходзіць у сапраўды культурную ўстанову, дзе тыя ж дыскатэкі ладзяцца няхай і без дыск-жакеяў, але пры належнай музычнай апаратуры, жадае бачыць на сцэне прафесійных артыстаў і сам удзельнічаць у самадзейнасці. Безумоўна, на ўсё гэтае патрэбныя грошы. А наўрад ці сітуацыя зменіцца ў лепшы бок, пакуль наша культура будзе трымацца на рэштакавым прынцыпе фінансавання. Адно застаецца шукаць нейкія мясцовыя і фінансавыя, і кадравыя рэсурсы".

Нягледзячы на тое, што да сталіцы — "кузні" культурных кадраў — рукой падаць, Чэрвеньскі раён нагадвае нейкую глухую глыбінку. Недахоп спецыялістаў адчуваецца тут даволі востра. На 66 культурных устаноў прыпадае 140 работнікаў, прычым частку з іх складаюць "практыкі" — без спецыяльнай адукацыі. У гэтым годзе ў вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя ўстановы культуры паступіла толькі 12 юнакоў і дзяўчат з усяго раёна. Перыядычная адпраўка культработнікаў, і ў першую чаргу "практыкаў", на абласныя і рэспубліканскія курсы перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі, правядзенне адпаведных семінараў у межах раёна, іншыя захады мясцовага характару (напрыклад, агітацыйна-растлумачальная работа сярод школьнікаў), пэўна ж, не змогуць запоўніць гэты прагал ні ў бліжэйшай, ні ў аддаленай будучыні. Што і казаць, куды прасцей і зручней падлетку набыць прафесію — і да таго ж больш удзячную ў наш час — у мясцовым ПТВ.

Накіроўваючыся ў выканкамаўскім "рафіку" ў саўгас "Новыя Зелянкі", мая спадарожніца, спецыяліст аддзела культуры Ірына Верына распавядала, што тамтэйшы Дом культуры быў пераведзены на баланс бюджэтнага фінансавання ў канцы мінулага года. На працягу апошніх трох гадоў будынак не апальваўся, то там, то сям праводзіліся ўнутраныя будаўніча-рамонтныя

# ЯК СТАЛА МІНЧАНКАЙ МАСАКО ТАЦУМІ

юцца. У вас свая адметная гісторыя, культура, мова.

**— Вашыя землякі мала ведаюць пра нас?**

— Пра Беларусь у Японіі наогул амаль нічога не ведаюць, хіба што пра Чарнобыль, ды і тое вельмі мала.

**— Пасля заканчэння сваёй вучобы вы прынялі рашэнне застацца ў Мінску. Чаму?**

— Тут у траўні 1996 года адбылося вяселле і маім мужам стаў Сцяпан. У вашай сталіцы мне прапанавалі цікавую працу — выкладчыцы японскай мовы. Праўда, спачатку выкладала некалькі месяцаў у Лінгвістычным універсітэце, але там не склаліся адносіны з адміністрацыяй. На шчасце, я хутка атрымала запрашэнне ад загадчыка кафедры ўсходніх моў факультэта міжнародных зносін БДУ, дзе з верасня 1996 г. я і працую выкладчыцай. Дарэчы, атрымала беларускую працоўную кніжку, стала тут, як мне сказалі, першай замежніцай. Варта дадаць, што ў Японіі зараз вельмі складана стаць настаўніцай, бо ў школах багата выкладчыкаў і мала вучняў, а значыць — браке свабодных працоўных месцаў. Вось такі вынік дэмаграфічнага крызісу ў краіне. Нашы сем'і не выказваюць жадання заводзіць дзяцей.

**— А я ведаю, што ў Японіі пануе ўсходняя традыцыя шматдзетных сем'яў...**

— У сярэднім тры — пяць дзяцей, але так было раней. У наш час дзеці — раскоша, таму што ўсё надзвычай дорага, непамерна дарагое жыллё. Калі многа дзяцей — дык неабходна мець вялікую кватэру. Але апартаменты ў чатыры пакоі для большасці японцаў проста не па кішэні.

**— Беларусь таксама зараз перажывае не лепшы час, а як спадарыні Масако жывецца тут? Ці хапае зарплаты? Які ваш побыт?**

— У Японіі выкладчык атрымлівае ў сярэднім каля чатырох тысяч долараў ЗША, тут я атрымліваю прыкладна 50. Зразумела, працуе муж. Жывем не ў раскошы, у звычайнай двухпакаёвай кватэры панельнага дома ва Уруччы. Пакуль дзяцей няма, і грошай хапае.

**— Як вам беларускія жыллёвыя стандарты ў параўнанні з аналагічнымі японскімі?**

— Беларускія кватэры значна лепшыя за японскія. У вас адзін пакой абавязкова вялікі, кухня і перадпакой адасобленыя... Мае бацькі, калі прыязджалі сюды ў госці, нават войкнулі ад нечаканасці.

**— Хто на кухні гаспадар: вы альбо ваш муж? Хто робіць пакупкі?**

— Гаспадыня на кухні я. Традыцыйныя японскія стравы, у аснове якіх — марская рыба і асобныя гатункі рысу, на жаль, не гатую. Вядома, чаму. У нашым штодзённым меню — мясцовая кухня. Хаця муж, ён беларускі ўкраінец, вельмі любіць варэнікі і выдатна гатуе іх сам. У крамах набываю той жа харч, што і беларускія жанчыны: хлеб, малочныя прадукты, мяса...

**— А радыяцыі на баіцеся?**

— Як вам сказаць... Сама рэдка спажываю малако, а вось мясцовыя сыры, масла, маянэз вельмі люблю. Дазваляем сабе і грыбы. Харч набываю штодня ў звычайным гастраноме, побач з домам, а на Камароўскі рынак, як правіла, на машыне ездзіць муж.

**— Ну, а ці падабаецца абслугоўванне ў мінскіх крамах?**

— Як вам сказаць. Японія — капіталістычная краіна. У нас усе гандляры ветлівыя, бо калі таго не будзе, пакупнік праігнаруе гэткую краму і не зробіць неабходнай пакупкі. Тым больш, што ў гарадах і мястэчках мноства гандлёвых кропак. Таму, калі раптам прадавец нахаміць, што выключна ўвогуле, то я паклічу начальніка, гандляра строга пакараюць, а ў мяне будуць прасіць прабачэння. У Беларусі ж культура абслугоўвання горшая, на маю думку. Таму, мабыць, што не было сапраўднага рынку. Усё, як бачна, залежыць ад эканамічнай сістэмы.

**— Калі выпадае вольны час — што робіце?**

— Люблю наведваць Траецкае прадмесце — напамін даўніны. З задавальненнем хаджу ў мінскую оперу, аб якой склалася вельмі добрае ўражанне. Неабходна адзначыць, што квіткі на спектаклі танныя і даступныя большасці беларусаў. Гэта ўражвае. Для параўнання: у Японіі сярэдні кошт білета — 100 долараў ЗША, таму паход у тэатр недазвальняльная раскоша.

**— У якіх беларускіх гарадах вы яшчэ былі?**

— У Брэсце, Гродне, Барысаве. Вельмі спадабалася Гродна, асабліва стары горад, дзе шмат прывабных дамкоў. Замкі і касцёлы, Каложская царква, Нёман — усё разам зрабіла на мяне моцнае ўражанне.

**— Знешні выгляд тутэйшых людзей?**

— Людзі добра апранутыя, асабліва кабеты, большасць з іх выглядаюць элегантна.

**— Цікава, ці надта беларускія мужчыны і жанчыны адрозніваюцца ад японскіх? Хаця б вонкава?**

— Японскі мужчына дужа многа працуе. Як правіла, з 7 раніцы да 23 гадзін ён — па-за домам. Толькі начуе дома. Беларускі ж мужчына любіць бавіць свой час дома, ён можа дапамагаць сваёй жонцы ў побытавых справах. У Японіі муж — галава сям'і, а тут амаль роўнасць. Японская сям'я не лічыцца ідэальнай, калі ўладарыць жонка, калі ж падобнае здараецца, такому мужчыне ўсе спачуваюць. У пераважнай большасці выпадкаў японская кабета традыцыйна енчыць: нічога не магу, не маю правоў, і хаваецца за спіну мужа. Вашыя ж жанчыны, вобразна кажучы, стаяць на ўласных нагах. Самі вырашаюць свае праблемы. Яны сябе шануюць як асобу, усведамляюць сваё "Я". Гэта добра. Акрамя таго, нават ва ўмовах крызісу ў вас ёсць сякія-такія сацыяльныя гарантыі, ёсць законы, накіраваныя на абарону маці і дзіцяці, дзяржава выплочвае хоць і невялічкую, але ж грашовую дапамогу. Нічога падобнага ў Японіі няма.

**— А як наогул вам падаліся беларусы?**

— Спакойныя і добразычлівыя.

**Гутарыў Аляксей СТРЭЛЬНІКАЎ**








*"Культура Японіі унікальная, жадаю, каб грамадзяне Беларусі больш ведалі пра яе, а мы, японцы, — пра вашую краіну".*

**Правінцыйны рэпартаж**

# СУСТРЭЧЫ

"мерапрыемствы", якія перыядычна заціхалі — альбо з-за недахопу сродкаў, альбо з прычыны надыходу маразоў. Між тым, дзверы гэтай установы былі адчыненыя для наведнікаў круглы год. Улетку, зразумела, народ ішоў, бо іншага выбару проста не было, а вось узімку жадаючых культурна адпачыць у "лядоўні" было значна менш. З'явіцца без "падагрэву" на танцпляцоўку, якая, хутчэй, нагадвала каток, многія не адважваліся. А там, дзе правіць баль "зялёны змій", вядома, не абыходзіцца без "разборак". Увогуле, зазначыла Ірына Казіміраўна, вёска гэтая — самая крыміногенная зона Чэрвеньшчыны. Многія яе цяперашнія жыхары былі "пераселены" сюды з месцаў пазбаўлення волі.

Зараз становішча Дома культуры крыху нармалізавалася: ажылі дзіцячыя дэкаратыўна-ўжытковыя гурткі, бібліятэка, трэнажорная зала... Іх наведнікам ужо не трэба апранаць на сябе па сем адзежын. Аднак з новай сілай заявіла пра сябе іншая праблема, якая, бадай, з'яўляецца класічнай адметай нашага трагікамічнага жыцця. Тычыцца яна так званых платных паслуг. Здавалася б, гэта вельмі разумная ініцыятыва: з аднаго боку, сельскія клубныя ўстановы, якія, як вядома, ледзь трымаюцца на паверхні, маюць магчымасць зарабіць такім чынам нейкую капейчыну на ўласныя патрэбы, а з другога — кошт на гэтыя паслугі чыста сімвалічны, што, па ідэі, наўрад ці змагло б сур'ёзна адбіцца на таўшчыні кашалька радавога працаўніка мясцовага саўгаса. На справе ж аказалася інакш. "Асноўны прыбытак мы атрымліваем з продажу білетаў на дыскатэкі, кошт якіх — 10 тысяч рублёў, — кажа дырэктар Валянціна Наркевіч. — У месяц набіраецца адзін-два мільёны, з якіх мы вымушаны плаціць 70 працэнтаў падаткаў. Не цяжка падлічыць, якія грошы застаюцца на руках. На правядзенне ж дыскатэкі патрабуецца значна большая сума (святло, апаратура, касеты і г.д.). У выніку нярэдка даводзіцца раскашэльвацца з уласнай кішэні. Да таго ж, работнікі нашага саўгаса апошні раз атрымалі зарплату толькі за жнівень. Іх дзеці прыходзяць, таўкуцца на вуліцы ля ўваходу, не маючы гэтых няшчасных 10 тысячаў на білет. Што тут зробіш? Вядома, пускаем "за так"..."

З "Новых Зеленкоў" едзем у Чарнаградзь. Тутэйшы Дом культуры апякуецца калгасам імя Фрунзе. Багатым яго не назавеш, але, у адрозненне ад іншых гаспадарак раёна, выглядае ён даволі аптымістычна. Праўда, тыя ж дыскатэкі члены калгаса па распараджэнні начальства наведваюць бясплатна — з прычыны беднасці.

Адметны чарнаградскі сельскі Дом культуры ў першую чаргу тым, што ў яго сцэны даўно дзейнічаюць два — дзіцячы і дарослы — фальклорныя харавыя калектывы. Ужо не адзін год яны паспяхова выступаюць на розных абласных і рэспубліканскіх конкурсах, мерапрыемствах. "Наш рэпертуар налічвае каля 600 мясцовых самабытных песень, — кажа мастацкі кіраўнік Наталля Юшчанка. — Вядома, працягваем і зараз збіраць мясцовы фальклор, але робіцца гэта даволі марудна. Мяркуйце самі: у нас няма свайго транспарту, не кажучы ўжо пра магнітафон для запісу песень альбо відэакамеру. Тыя ж сцэнічныя касцюмы шыем самі альбо шукаем, дзе ўзяць напракат". І тым не менш, энергіі і аптымізму Наталлі Леанідаўны не займаць. Стварыць у Чарнаградзі раённы Дом фальклору — таксама яе ідэя. І хочацца верыць, што, у рэшце рэшт, яна здзейсніцца.

Вандруючы па Чэрвеншчыне, я ўпэўніўся, што сельскія Дамы культуры, у якім бы стане яны ні знаходзіліся, усётакі з'яўляюцца для мясцовых жыхароў, асабліва для дзяцей і моладзі, ці не адзіным асяродкам для правядзення вольнага часу. На жаль, гэта разумеюць не ўсе. Напрыклад, пасёлак Астравы, што раскінуўся непадалёк ад Чэрвеня, яшчэ даволі малады, а ўжо адзін з самых буйных у раёне. Тутэйшы Дом культуры раней знаходзіўся на балансе прафсаюзаў, а калі апошнія не змаглі яго ўтрымліваць, аказаўся нічыйным і — зачыненым. Замок на ягоных дзвярах вісіць ужо гадоў шэсць. Зрэшты, як я даведаўся, калі хтосьці мае намер арандаваць памяшканне на сутკі-другія для правядзення вяселля альбо якога забаўляльнага мерапрыемства, дастаткова звярнуцца ў дырэкцыю "Аграпрамтэхнікі", на тэрыторыі якой заходзіцца Дом культуры, і замок падае долу. Спартзала, што месцілася побач, нейкім чарадзейным чынам былаператворана-пераабсталявана ў пілзавод. Засталася адно бібліятэка, але і яна гіне на вачах. Атрымліваецца, што ні дырэктар "Аграпрамтэхнікі", ні мясцовыя ўлады проста не зацікаўленыя ў тым, каб у пасёлку меўся хоць нейкі культурны асяродак.

Але вернемся зноў у Чэрвень. Бадай, ягоная асноўная славутасць — гэта краязнаўчы музей. Многім экспанатам, што захоўваюцца ў трох ягоных невялікіх залах, маглі б пазайздросціць і сталічныя адпаведныя ўстановы. Тут табе і асабістая пячатка падскарбія Вялікага княства Літоўскага (1662 — 1676 гг.), і мядзяны звон 1756 г., і костка маманта (паводле экспертызы, што правялі спецыялісты НАН), якую мясцовая дзятва знайшла колькі гадоў таму ў асушаных меліярацыйных балотных мясцінах, і шмат чаго іншага, не менш цікавага і каштоўнага. Сам музей размешчаны ў будынку канца XIX стагоддзя, фасад якога не "абцяжараны" слядамі рэстаўрацыі. На столі — спецыфічныя плямы. Старшы навуковы супрацоўнік Вячаслаў Мысліцын адказаў на гэта проста: "Дах у музеі цячэ даўно". Але больш за ўсё незадаволены В.Мысліцын наведнікамі, дакладней, іх адсутнасцю. "За восень, кажа ён, мы прынялі толькі вучняў з дзвюх сельскіх школ. А ўсё таму, што няма транспарту. Хаця, думаю, мясцовыя гаспадаркі, райана пры жаданні маглі б адрэгуляваць гэта самі". А што тычыцца пытанняў самой установы, дык іх пакуль, відаць, "вырашае" шкляная скрыня ля ўваходу, прызначаная "Для ахвяраванняў на патрэбы музея".

Самы час такімі ж скрынямі "аздобіць" і старажытныя палацава-паркавыя ансамблі "Раваніцкі" і "Смілавіцкі", і музей-сядзібу вядомага кампазітара Станіслава Манюшкі, што ў пасёлку Азёрны, ды і шмат іншых чэрвенскіх установаў культуры.

Але, як заўважыла напрыканцы Марына Калтовіч, які сэнс скардзіцца? Трэба проста працаваць і — чакаць лепшых часін.

**Алесь ФІЛІПОВІЧ**
*Мінск–Чэрвень–Мінск*

# КАБ МАЛЫЯ НЕ ГІНУЛІ Ў АГНІ...

***Асаблівае месца ў пажарнай статыстыцы займаюць пажары, што адбыліся ў выніку дзіцячага свавольства з агнём. Іхняя колькасць не вялікая, але яны хаваюць у сабе неверагодную небяспеку.***

Дашкольнікі, да прыкладу, часцей за ўсё спрабуюць даведацца, што такое агонь, праз "гульні" з запалкамі. Непатушаныя, яны могуць трапіць на якую-небудзь рэч і тады — пажара не пазбегнуць.

Так, двое малых (6 і 7 гадоў) у двары свайго дома па вул.Лясной, 2а "пазнаёміліся" з каварным полымем, падпальваючы запалкі і кідаючы іх праз шчыліны дзвярэй драўляных сараяў. Заўважыўшы праз некаторы час клубы дыму і полымя, малыя падпальшчыкі спалохаліся і паведамілі пра свае забавы суседцы, якая і выклікала службу "01". Тры гадзіны сем водных стваловў тушылі пажар, ратавальнікі спрабавалі "адваяваць" у агня маёмасць, што знаходзілася ўнутры, але, нягледзячы на ўсе высілкі, былі знішчаны альбо пашкоджаны 12 сараяў.

Старэйшыя дзеці, якія наведваюць пачатковыя класы сярэдняй школы, прыладжваюцца на балконах, робяць з паперы самалёты і іншыя лятальныя апараты, падпальваюць іх і кідаюць уніз. Вельмі часта такая "паходня" трапляе на суседні балкон. А ён, як вядома, рэдка бывае пустым, зазвычай, там заўсёды ёсць тое, што можа запаліцца. Узнікае пажар, які неўзабаве трапляе і ў кватэру. А калі, да ўсяго, гаспадароў няма дома, дык агонь яшчэ да прыбыцця пажарнай каманды здольны пашкодзіць і знішчыць усю тую ўласнасць, якую ў наш эканамічна нестабільны час цалкам аднавіць практычна немагчыма.

Вучні сярэдніх класаў наладжваюць больш складаныя феерверкі. Напрыклад, робяць спробы распаліць вогнішча, выкарыстоўваючы бензін альбо іншае вадкае паліва. Такія эксперыментатары ў лепшым выпадку трапляюць у апёкавы цэнтр, у горшым — у морг.

Падлеткі могуць пацярпець ад "дарослай" звычкі — палення. Неасцярожнасць пры гэтым — вельмі распаўсюджаная прычына пажараў. "Паленне небяспечнае для вашага здароўя", — сцвярджаюць медыкі. "І для жыцця", — дадаюць пажарныя.

Шаноўныя бацькі, цікаўцеся, калі ласка, як бавяць свой вольны час вашы дзеці. Знайдзіце для свайго дзіцяці цікавы і карысны занятак па-за сценамі школы. Гэта дапаможа засцерагчы яго ад усяго згубнага і, магчыма, захавае самае дарагое — здароўе, а не выключана, і жыццё.

**Аляксандр ЯКІМЕНКА, інспектар пажарнай часткі Цэнтральнага раёна г.Мінска.**

# "БЫЛА Ў ЖЫЦЦІ Я ВЕСНЯЙ..."



У Яўгеніі Янішчыц ёсць верш, які называецца "Ода кладцы" і пачынаецца ён радкамі:

*Дарога йшла наўпрост*
*Ў шаснаццаць без аглядкі.*
*А пачынаўся мост*
*З вясковай, тонкай кладкі.*

І сапраўды, з вясковай, тоненькай кладкі, "пакладзенай дзедам Яўсеем", з тых "хісткіх лёстак" пачынаўся мост, што вёў "Палесся мілае дзіця" ў студэнцкае жыццё, у гарадскі побыт, у свет літаратуры. І яна заўсёды памятала пра гэта, яна з нязменнай удзячнасцю і замілаваннем пісала пра свой "ціхі", свой "загадкавасіні" край, прысвяціла сваім бацькам і сваякам, сваім аднавяскоўцам і настаўнікам, сваім родным мясцінам, сваёй Ясельдзе такія цудоўныя вершы, як "З зялёнага Палесся", "Бацькаўшчыне", "А мне ў мілай старане...", "Вёсцы", "Палескае", а таксама непаўторную паэму "Ягадны хутар".

Цана любові — любоў. Землякі адказваюць ёй тым жа — любоўю і пашанай. Пра гэта красамоўна сведчаць урачыстасці, што ладзіліся 20 — 21 лістапада на Піншчыне ў гонар 50-годдзя з дня нараджэння паэтэсы. Урачыстасці пачаліся вялікім літаратурным вечарам у памяшканні гарадской канцэртнай залы. Назаўтра адбылося адкрыццё абноўленай пасля пажару раённай бібліятэкі, якой нададзена імя Яўгеніі Янішчыц. Затым удзельнікі святочных мерапрыемстваў накіраваліся ў вёску Рудку і наведалі хаціну, дзе, як сведчыць мемарыяльная дошка, "з 1948 па 1966 гг. жыла вядомая беларуская паэтэса Яўгенія Іосіфаўна Янішчыц". Нарадзілася і жыла яна ў Рудцы. А вучылася спачатку ў Мерчыцкай сямігадовай, а потым у Парэцкай сярэдняй школе. І вось у Парэцкай школе адбылося адкрыццё музея Яўгеніі Янішчыц. Пра гісторыю яго стварэння гаварыла і потым правяла першую экскурсію настаўніца паэтэсы Антаніна Паўлаўна Сідарук, намаганнямі якой перш за ўсё і быў сабраны багаты матэрыял для музея.

У адным з вершаў паэтэса назвала сябе "бярозкай". Ля клуба ў Велясніцах была пасаджана бярозка і тым самым закладзены сквер імя Янішчыц. А вечарам у перапоўненым клубе прайшла ўрачыстая вечарына "Ластаўка Палесся". На ёй, акрамя гасцей, выступалі родныя і блізкія паэтэсы, яе аднавяскоўцы і настаўнікі, мясцовыя літаратары і мастакі.

Ва ўсіх мерапрыемствах бралі ўдзел кіраўнікі горада і раёна, прадстаўнікі Саюза беларускіх жанчын на чале з яго старшынёй, намеснікам Старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу РБ Тамарай Дудко, вялікая група пісьменнікаў на чале з намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў Вольгай Іпатавай. Цёпла віталі прысутныя маці паэтэсы Марыю Андрэеўну і сына Андрэя. І пяшчотна гучалі цудоўныя, пранікнёныя вершы Яўгеніі Янішчыц, у прыватнасці, гэтыя вось радкі:

*Была ў жыцці я весняй*
*Пляжкай на узмах —*
*Над соснамі у лесе,*
*Над жытам у палях.*

**Наш кар.**

Multum in parvo

# ІЗРАІЛЬ СТАНОВІЦЦА БЛІЖЭЙ

23 лістапада ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы распачаўся Тыдзень культуры Ізраіля. На адкрыцці прысутнічалі Часовы Паверэны у справах Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь Рына Джарасі, прадстаўнікі Упраўлення культуры Мінгарвыканкама, адміністрацыі Маскоўскага раёна сталіцы, супрацоўнікі бібліятэкі і, канешне ж, юныя чытачы. А дапамаглі бібліятэцы ў арганізацыі гэтага свята Пасольства Ізраіля ў Беларусі і Культурна-інфармацыйны цэнтр пры ім.

У межах тыдня культуры праводзіцца цэлы шэраг мерапрыемстваў. Сярод іх — завочныя падарожжы па Ізраілі, гутаркі пра культуру, звычаі і гісторыю гэтай краіны. Гадзіна экалогіі знаёміць юных наведнікаў бібліятэкі са "скарбамі" Мёртвага мора, гадзіна музыкі — з любімымі і папулярнымі ізраільскімі мелодыямі, відэагадзіны раскрыюць некаторыя загадкі Біբліі, свяшчэннага горада Іерусаліма, Ноевага Каўчэга, Майсея. Іх мэта — пазнаёміць моладзь з краінай, яе асаблівасцямі. А між іншым, нават не кожны дарослы ведае, што габрэйская культура — гэта зусім не тое ж самае, што культура ізраільская.

Адным з самых яркіх мерапрыемстваў стала выстава літаратуры. Тут сабраны кнігі, што ілюструюць не толькі гісторыю Ізраіля, але і яго цяперашні дзень. Сярод літаратуры можна ўбачыць кнігі, выдадзеныя ў Ізраілі як на іўрыце, так і на рускай мове. Да ўсяго, Пасольства Ізраіля і Культурна-інфармацыйны цэнтр падарылі бібліятэцы шэраг дзіцячых выданняў.

Тыдзень культуры Ізраіля ладзіцца з нагоды 50-годдзя Дзяржавы Ізраіль.

Дарэчы, гэта — не адзіны прыклад мерапрыемства такога кшталту. За два апошнія гады ў бібліятэцы прайшлі тыдні культуры такіх краін, як Германія, Польшча, Францыя, Англія, Кітай, Японія, Італія. Гэта дае добры плён. У бібліятэцы адкрылася зала дзіцячай літаратуры на замежных мовах, з дапамогай Міжнароднага інстытута імя Гётэ тут арганізавана бясплатнае навучанне дзяцей нямецкай мове. Спадзяемся, што і Тыдзень культуры Ізраіля пакіне добры след, зробіць свой унёсак у справу адукацыі маладога пакалення нашай краіны.

**Таццяна КОМАНАВА**

*У працяг падтрымкі "Культурай" маючага адбыцца фестывалю "Блюз жыве ў Мінску" мы прадстаўляем аднаго з яго ўдзельнікаў. Гэты музыкант безумоўна варты ўвагі, таму што ён —*

STAR CLUB

# ЖЫВАЯ ГІСТОРЫЯ САВЕЦКАГА ДЖАЗА

Гісторыя савецкага джаза такая кароткая, што мы маем магчымасць стасункаў са сведкамі ягоных ранніх этапаў, юнацкага сталення і пачатку дарослай сталасці. Аркадзь Эскін — саліст Дзяржаўнага канцэртнага аркестра РБ — не толькі сведка гэтай гісторыі, але і ўдзельнік яе, пачынаючы з канца 50-х гадоў.

Праўда, у адрозненне ад многіх джазменаў свайго пакалення, Эскін пачынаў з музычнай адукацыі — вучыўся ў Харкаўскай спецыяльнай музычнай школе і кансерваторыі. А потым — яскравы, поўны падзей музычны лёс. А.Эскін быў удзельнікам некалькіх аркестраў: з 1959-га — джаз-аркестра, арганізаванага маскоўскім дырыжорам Юрыем Пятровым, з 1965-га — кіеўскага джаз-аркестра "Дніпро", затым — калектыў Леаніда Уцёсава, і вось — Дзяржаўны канцэртны аркестр РБ пад кіраўніцтвам М.Фінберга. Не менш актыўнай была і практыка працы ў малых калектывах — джазавых і не толькі: ансамбль "Чангі", які працаваў са спявачкай Гюлі Чахелі, беларускі філарманічны ансамбль "Тоніка", у які яго запрасіў Віктар Вуячыч, нашы "Песняры", у Галандыі Эскін працаваў з Уральскім дыксілендам, цяпер вось — уласнае трыо, з якім пачынае выступаць маладая спявачка Ірына Дарафеева.

Але лёс джазавага музыканта значна багацейшы, чым проста выканальніцкая практыка, удзел у буйных і малых праектах, гэта яшчэ і — сустрэчы, стасункі. Аркадзь Эскін заспеў найцікавы час пачатку дзейнасці нашых джазавых фестываляў і першыя выезды музыкантаў на замежныя джазавыя форумы ў сярэдзіне 60-х гадоў. Падчас такіх музычных святаў адбываецца шмат знаёмстваў, запамінальных сустрэч, як, да прыкладу, у Эскіна — са знакамітым саксафаністам Стэнам Гетцам і піяністам Оскарам Пітэрсанам. А знаёмства з музычным крытыкам Аляксеем Баташавым прывяло да таго, што імя Аркадзя Эскіна апынулася на старонках кнігі Баташава "Савецкі джаз", якая была выдадзена ў 1972 годзе.

На пачатку творчага шляху быў і перыяд рэстаранных практыкі, якую "праходзіць" большасць джазавых музыкантаў. І праца ў харкаўскім рэстаране "Цэнтральны" — гэта таксама ланцужок незабыўных сустрэч (у 60-я гады "Цэнтральны" быў настолькі ж прыцягальным для джазменаў, як крыху пазней — "Каменная кветка" ў Мінску). Там Аркадзь Эскін пазнаёміўся з Юрыем Саульскім, Леанідам Уцёсавым.

Цяпер ужо маладыя музыканты — у тым ліку, студэнты Беларускага універсітэта культуры, дзе выкладае піяніст, — ганарацца знаёмствам з Эскіным. Але ягоны выканальніцкі стыль не страціў віртуознасці, ягоны аптымізм па-ранейшаму скарае любую аўдыторыю. У гэтым зможа пераканацца кожны, хто наведае 30 лістапада бенефіс Аркадзя Эскіна ў канцэртнай зале "Мінск".

**Ганна АЛАДАВА**




# НАВУКА + ПРЭЗЕНТАЦЫЯ = ?

Доўгі час прэзентацыя і музыказнаўчая навука лічыліся амаль несумяшчальнымі. З аднаго боку — засяроджаная праца, вынікі якой тычацца спецыялістаў, з другога — нешта накшталт невялікага шоу, разлічанага на эфектнае скарэнне публікі. Тым не менш, Беларускі Саюз кампазітараў і Аўтарскі фонд маюць практыку правядзення прэзентацыі буйных музыказнаўчых прац: некалькі месяцаў таму ў зале творчага саюза быў адзначаны выхад з друку даведніка М.Мдзівані і Р.Сергіенка "Кампазітары Беларусі". Чарговая імпрэза — з нагоды кнігі Р.Сергіенка "Гукавышынная асновa музычнай кампазіцыі XX стагоддзя" — адбылася ўчора, 27 лістапада. У манаграфіі закранаюцца тэарэтычныя праблемы музыкі сучасных аўтараў не толькі Беларусі, але і Расіі, Украіны. Ну, а для аматараў статыстыкі паведамім: даследаванне аб'ёмам 239 старонак утрымоўвае 106 нотных прыкладаў, інфармацыю пра 134 кампазітараў і 224 музычныя творы. Пачытаем?

**Наш кар.**

# ЗЗЯЕ КОЛЕРАМІ "ВЯСЁЛКА"

Сапраўднае свята для хлопчыкаў і дзяўчынак мінскіх садкоў і школ наладзілі 25 лістапада ў Доме літаратара калектыў часопіса "Вясёлка". Праходзіла яно з нагоды выхаду ў свет 500-га нумара любімага дзятвой выдання.

Прысутных у зале віталі галоўны рэдактар часопіса Уладзімір Ліпскі і дасціпны Вася Вясёлкін (Жэня Цымбаліст). Цёплыя словы ў адрас "Вясёлкі" казалі галоўны спецыяліст Дзяржкамдруку Уладзімір Матусевіч, пісьменнікі — аўтары часопіса Артур Вольскі, намеснік галоўнага рэдактара "Маладосці" Казімір Камейша, галоўны рэдактар "Бярозкі" Уладзімір Ягоўдзік, Ніна Галіноўская, Ніна Маеўская, а таксама Аляксандр Трухан — намеснік прэзідэнта Беларускага дзіцячага фонду, які з'яўляецца сузаснавальнікам часопіса, і кампазітар Кім Цесакоў. Перад удзельнікамі свята выступілі вакальны калектыў дзіцячага садка "Ліхтарык", фальклорны ансамбль "Пралеска" Мінскага Палаца дзяцей і моладзі, чытальнікі СШ № 148, школьны народны цырк.

**Наш кар.**

# ЯК ЗАВАБІЦЬ ДА СЯБЕ НАВЕДНІКА?

***Гэтае пытанне стала, бадай што, асноўным на навукова-практычным семінары "Музей і наведнік", які адбыўся 24 — 25 лістапада на базе Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Яго арганізатарамі выступілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і ўласна сам музей.***

Хто сёння наведвае музеі? З якой мэтай? Як арганізаваць належную працу з наведнікамі не толькі ў сценах музеяў, але і ў пачатковай школе, дома? Вось той спектр пытанняў, адказы на якія паспрабавалі знайсці ўдзельнікі семінара: загадчыкі аддзелаў навукова-асветніцкай працы, музейнай педагогікі, навуковыя супрацоўнікі.

Паводле дадзеных сацыялагічных даследаванняў, ад 56 да 62 працэнтаў наведнікаў музеяў — дзеці, прычым, самых розных узростаў: ад пачатковец да старшакласнікаў і навучэнцаў ПТВ. А тры чвэрці ад агульнай колькасці наведнікаў складае моладзь да трыццаці гадоў. 51,1 працэнта наведнікаў прыходзяць у музей за новымі ведамі, 39,1 працэнта — каб паглыбіць веды ранейшыя. І таму асветніцка-адукацыйная праца ў музеях павінна развівацца нароўні з навукова-даследчыцкай. Пры гэтым неабходна ўлічваць спецыфіку аўдыторыі.

Сёлета музеі краіны правялі шэраг мерапрыемстваў у межах акцыі "Міласэрнасць", закліканай наладзіць працу з абяздоленымі дзецьмі. Удзельнікі семінара падзяліліся не толькі тэарэтычным, але і практычным вопытам: вучні былога 3 "Д" (цяпер 4 "Д") класа СШ № 90 прадставілі сваё "Калядныя вячоркі". Апрача гэтага, удзельнікі семінара абмеркавалі праблемы ўзаемадзеяння музея і пачатковай школы, накірункі супрацоўніцтва музея і сям'і, вопыт падрыхтоўкі музейных імпрэз і перспектывы ўзаемаадносін паміж музеямі і іх наведнікамі.

**Наш кар.**

# БІЯГРАФІЯ Ў КАРЦІНАХ

***Днямі ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрылася выстава твораў беларускага мастака-графіка Уладзіміра Сакалова, прысвечаная 90-годдзю з дня яго нараджэння.***

Творы мастака — гэта яго біяграфія. Працы Уладзіміра Сакалова ў поўнай меры адпавядаюць гэтаму. "У маракоў Балтыкі", "На заставах заходняй граніцы", "Лукомльская ДРЭС", "У нямецкім палоне", "Няскораныя", "Мінск будуецца"... Гэтыя і іншыя тэматычныя серыі жывапісных палотнаў, графічных аркушаў узніклі пад уражаннем ад шматлікіх вандровак мастака па краіне, тады яшчэ — СССР.

Ваенная, гераіка-патрыятычная тэма была вызначальнай у мастацкай і грамадскай дзейнасці Уладзіміра Сакалова. Шмат гадоў ён узначальваў ваенна-шэфскую камісію Саюза мастакоў Беларусі. За плённую працу па ўслаўленні воінаў-пагранічнікаў у сваёй творчасці мастак быў узнагароджаны медалём "За адзнаку ў ахове дзяржаўнай граніцы СССР" (1966), нагрудным знакам і граматай у сувязі з 50-годдзем пагранічных войскаў СССР (1968 г.). Аднак да гэтага лёс прынёс яму шэраг выпрабаванняў: вызваленне ў 1939 годзе ў складзе Чырвонай Арміі Заходняй Беларусі, Вялікая Айчынная вайна, фашысцкі палон. Потым на радзіме яго чакалі сем гадоў зняволення ў лагерах Карагандзінскай вобласці і ў 1956 годзе — рэабілітацыя.

А дыяментамі экспазіцыі сталі працы мастака з асабістага архіва яго дачкі, выстаўленыя ўпершыню. Гэта — шэраг замалёвак, эскізаў, накідаў, зробленых Уладзімірам Сакаловым на пачатку 50-х гадоў — падчас самага драматычнага перыяду свайго жыцця.

**Т.К.**

# ДЫК ХТО Ж ЗОЙМЕ "ТРОН"?

Нягледзячы на тое, што да канца года яшчэ застаўся больш як месяц, страсці вакол сёлетняй "Рок-каранацыі" ўжо паступова пачынаюць разгарацца. Яшчэ колькі гадоў таму нават цяжка было сабе ўявіць, што нейкая лакальная рок-падзея можа выклікаць столькі эмоцый у традыцыйна санлівай мінскай публікі.

І цяпер, калі год яшчэ не скончыўся, ужо пачалі з'яўляцца прагнозы адносна таго, хто стане тым шчаслівым, які ўскладзе сабе на галаву бутафорскую шкляную карону. Рызыкнем і мы ўставіць нейкую там колькасць мядзяных грошаў.

Мінулы, 1997 год быў адзначаны з'яўленнем на беларускай сцэне цэлай плеяды маладых музыкантаў, вартых увагі. Спіс такіх гуртоў напраўдзе вялікі: "Крыві", "Пастскрыптум", "Happy Face", "Пані Хіда", "Voo Doo", "The Revens", "Плато"... І калі і была якая праблема з вызначэннем лаўрэата ў традыцыйнай намінацыі "Адкрыццё года", дык заключалася яна хіба ў тым, каго б выбраць, нікога не пакрыўдзіўшы. Цяпер жа сітуацыя трохі інакшая, і назваць хаця б аднаго напраўдзе годнага наміната як для мяне, дык складана. Хутчэй за ўсё, гэтая сітуацыя звязаная з тым, што амаль увесь год клубы ў Мінску не працавалі. А менавіта там, на малой сцэне, адбываецца станаўленне маладых каманд.

Затое з лідэрамі аніякай праблемы няма. Калі летась былі пэўныя складанасці вызначыць, хто ж быў "самым-самым" (год прайшоў досыць роўна, і ніхто на працягу яго асабліва не вылучыўся) дык цяпер выкрышталізаваліся два рэальныя прэтэндэнты на карону. Перадусім гэта несвядомы "Нейро Дюбель". Галоўныя заслугі гурта за апошні год — выпуск новага альбома "Паляўнічы і сайгак", а таксама ягоная прэзентацыя ў канцэртнай зале "Кастрычнік". "Дзюбялі" далі ўсім зразумець, што выступаць на адной з найпрэстыжных мінскіх сцэн і збіраць аншлаг могуць не толькі поп-зорачкі з Усходу. Беларускія музыканты на гэта таксама здатныя.

Калі шырокавядомы сярод вузкіх колаў наведнікаў клуба "Три поросенка" гурт "Нейро Дюбель" выступіў на "Рок-каранацыі-95", шмат хто з прысутных паставіўся да цяжкаватага гуку і неўрастэнічнага шоу гэтай каманды даволі скептычна. Хаця галоўнаму арганізатару "Каранацый" Юрыю Цыбіну "Нейро Дюбель" спадабаўся. І пэўна гэты фактар абумовіў тое, што лідэр гурта Аляксандр Кулінковіч (менавіта так, праз два "л") атрымаў магчымасць увогуле пазубаскаліць са сцэны на наступных "каранацыях". "Дзюбялі" не з прыхільнікаў самой ідэі ўзнагароджвання найлепшых, але не выключана, што лаўрэатамі ў галоўнай намінацыі сёлета стануць менавіта яны.

Другі асноўны намінант, як ні дзіўна, усё той жа "НРМ". Калі летась яны атрымалі "Рок-карону" як бы авансам; дык сёлета ім удалося спраўдзіць сваю папулярнасць. Новы опус гурта "Песня пра каханне" стаў сапраўдным хітом, а канцэрты "НРМ" збіраюць проста неверагодную колькасць тынейджэраў. Асноўнымі прыхільнікамі гурта сталі цяпер менавіта яны — відаць, на старасці гадоў рокеру з больш як пятнаццацігадовым стажам Лявону Вольскаму закарцела спяваць для тых, хто яшчэ не хадзіў нават пад стол тады, калі каманда "Мроя" пачынала свой цярністы шлях да зорак. "Рок-карону" ў нас больш як адзін раз не даюць – не прынята, ці што?, — але калі да канца года выйдзе новы альбом "НРМ", гурт складзе належную канкурэнцыю іншым намінантам.

Цяпер пра аўтсайдэраў. Іх, як і мае быць, нашмат больш, чым лідэраў. І пад першым нумарам тут ужо каторы год выступае "Крама". Рэгулярныя змены ў складзе каманды не спрыялі таму, каб гурт часта з'яўляўся перад публікай. Не кажучы ўжо пра нейкі творчы рост. Хаця новы альбом "Што дапаможа нам?" гурт нарэшце выпусціў, але, нягледзячы на тое, што распрадаецца ён у прынцыпе някепска, гэты опус "Крамы" не ідзе ні ў якое параўнанне з папярэднімі. І ўвогуле, ну колькі ўжо можна спяваць гімны рок-н-ролу? За столькі гадоў магло б і надакучыць.

Мінулым годам здавалася, што цэлая плеяда перспектыўных каманд неўзабаве атрымае сапраўдную раскрутку. Сярод іх "Калі юга", "Пастскрыптум", "Hasta La Filista", "Пані Хіда"... Гэты год прайшоў для іх усіх са знакам "мінус". Зорачкі не запаліліся, а шкада.

Асноўным прэтэндэнтам у традыцыйнай "дайноваўскай" намінацыі "Традыцыі і сучаснасць" можна назваць гурт "Троіца". Фальклорныя матывы цяпер ужываюць вельмі шмат праектаў — мода, напэўна, такая, але ўсе яны альбо ўжо былі ўзнагароджаны летась ці пазалетась ("Палац" дык ажно тры разы), альбо пакуль што не дацягваюць да права называцца лідэрамі ў сваёй намінацыі.

З'явяцца, відаць, пэўныя складанасці з вызначэннем падзеі году. І не тое каб усё ўжо было тут настолькі ціха, але... Запомніўся за гэты год хіба што антыпірацкі рок-фэст у парку імя Горкага. Працэнтаў 95 аўдыёпрадукцыі ў нас па-ранейшаму выходзіць на фірме "Вясёлы Роджэр", але адцягнуліся мінчукі не слаба. І яшчэ дзве буйныя падзеі чакаюцца напрыканцы года. Гэта Першы фестываль відэакліпаў і ўжо традыцыйны блюзавы фэст. Каму будзе аддадзеная пальма першынства, меркаваць не наважуся, але асабіста мне хацелася б пажадаць, каб дзейнасць нястомнага рупліўца на ніве блюза Генадзя Старыкава ўсё ж была заўважаная і адзначаная.

Вось такія пірагі. Плануецца, што "Рок-каранацыя-98" адбудзецца, як заўсёды, напрыканцы студзеня. Сярод магчымых месцаў правядзення называюць нават найбуйнейшую закрытую пляцоўку Мінска – Палац спорту. Безумоўна, без скандалаў не абыдзецца і на гэты раз. Будуць і пакрыўджаныя, і "несправядліва ўзнагароджаныя", і намінацыі, прыдуманыя адмыслова дзеля таго, каб не пакінуць без "суцяшальнага прыза" якую вартую ўвагі каманду. Але што ўжо паробіш? Каралеўскі трон нікому не даставаўся лёгка.

**Жыгімонт ДЗЕВЯТЫ**

# "БАЙРАМ" — ГЭТА "СВЯТА"

**(Гартаючы старонкі квартальніка)**

Мне ў ліку першых даслалы квартальнік "Байрам. Татары на зямлі Беларусі". Першы нумар гэтага выдання Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" якраз супаў з першым годам новага, сёмага, стагоддзя, як атабарыліся людзі з усходнімі тварамі і мусульманскай рэлігіяй на тэрыторыі Беларусі. Як вядома, беларускія татары разам з усім нашым народам у мінулым годзе ўрачыста адсвяткавалі сваё 600-годдзе.

Упершыню фундатарам квартальніка выступіў Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей, фінансавую падтрымку рэдакцыі аказаў і Рамуальд Сабалеўскі. Менавіта з-за недахопу грошай і затрымаўся па часе выданне "Байрам", які перакладаецца на нашу мову, як "Свята".

У рэдактарскай групе Ісмаіл Александровіч, Яўген Гучок, Ібрагім Канапацкі, быў і Якуб Якубоўскі, апошні якраз з'яўляўся адказным рэдактарам квартальніка, але так і не паспеў яго патрымаць у сваіх руках, бо заўчасна пайшоў ад нас.

Аб'ём "Байрама", калі параўнаць яго з папярэднікамі, паболеў ажно на 24 старонкі. Тэматыка квартальніка разнабаковая. Тут пераклады Кур'яна, якія дзівосна пераказаў вядомы паэт і выдавец Яўген Гучок, рытуальныя азкары-напаміны і малітвы пасланніка, звесткі аб сходах і з'ездах мусульман Беларусі, нататкі А.Асановіча пра тое, як ён толькі пад старасць стаў уважліва чытаць Міхаіла Лермантава, працяг вялікага артыкула пра "Невядомы лёс варшаўскага імама", беларуска-рускі слоўнік татарскіх імёнаў, які склаў У.Сарока.

Пра татарскую літаратуру і Янку Купалу напісаў М.Мурадымаў. А вось назвы іншых матэрыялаў: "Славуты гісторык" А.Каўкі, "Гданьская мячэць" С.Хазбіевіча, "У нашых супляменнікаў у Польшчы", "Што такое беларусазнаўства?" Я.Ранковіча, "Ахмет Валееў" З.Валеевай, "Тутэйшы" Я.Сцёпінака, працяг энцыклапедыі для беларускіх татараў.

Пераклад славутага твора Максіма Горкага "Пра Сокала і Вужа" таксама займае пачэснае месца ў квартальніку (дадзены ўвесь твор, бо найбольш чытачам вядомы толькі ўрывак з яго. — **М.М.**).

Цікавая і разнастайная "Пошта "Байрама".

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**
*Баранавічы*

# ВІНШАВАЛІ ПАЭТА



Цэнтральная бібліятэка імя Герцэна ў Гомелі пастаянна наладжвае літаратурныя "Вечарыны на Замкавай". Яе калектыў адкрыў новыя таленты, пазнаёміў сваіх чытачоў з творчасцю Васіля Ткачова, Таісы Мельчанка, Ігара Журбіна, Міхася Башлакова, Юрыя Фатнева...

Нядаўна тут адбылася сустрэча з мясцовым паэтам Віктарам Ярацам — членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, аўтарам шматлікіх зборнікаў паэзіі. Вечарына ладзілася з нагоды юбілейнай даты пісьменніка — Віктару Ярацу споўнілася 50 гадоў. Таму ў бібліятэцы сабралася шмат гасцей, сяброў паэта, супрацоўнікаў Дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны. Прагучалі цёплыя словы, добрыя пажаданні юбіляру.

**Ганна АТРОШЧАНКА**
*Гомель*

*Выступаюць Аляксей Вітакоў і Алег Міронаў.*

Адбыўся традыцыйны фестываль аўтарскай песні "Віцебскі лістапад-98". У ім узялі ўдзел барды са Смаленска, Санкт-Пецярбурга, Рыгі, Таліна, Масквы, Мінска, Магілёва і іншых гарадоў.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# НОВЫ СДК

7 лістапада жыхары вёскі Вашэўка Бярэзінскага раёна бралі ўдзел у адкрыцці сельскага Дома культуры. На ўрачыстым вечары, які быў арганізаваны з гэтай нагоды, выступіў народны вакальна-этнаграфічны ансамбль "Лявоніха" раённага ДК.

**Алесь БЫЧКОЎСКІ**
*Беразіно*

Многае ў малым

**Сем вечароў з БТ**

# "...НАГАДВАЦЬ ЛЮДЗЯМ ПРА НЕБА"

Па якіх законах складаецца тэлевізійны тыдзень, ніхто не адкажа. Маю на ўвазе не той графік гадзін і рубрык, які фарміруецца ў аддзеле праграм і выпуску, а той збег імёнаў, думак, тэм, які, незалежна ад людзей, хутчэй за ўсё дыктуецца небам ці збегам зорак, як сказаў бы астролаг.

Чатыры паэтычныя зоркі на адным тыдні — справа не будзённая, асабліва на БТ. Прайшлі часы, калі паэтычнае слова гучала рэгулярна, як нядзельная справаздача. Нас прыцягваюць справы зямныя, калі бракуе часу зірнуць на неба.

Гэтую думку і імкнулася давесці сваім слухачам (і гледачам) Вольга Іпатава ў праграме "Сёння з вамі..." Шчырая споведзь пра місію пісьменніка-грамадзяніна, які хоча зрабіць свет лепшым, а жыццё годным, нібы свежы глыток паветра, напоўніла душы. А па-жаночы мудрыя адказы на самыя розныя пытанні ўсялялі надзею, што не згублена духоўнасць нацыі...

Пра тое ж, толькі паэтычным радком, гаварылася і ў фільме "Псалмы Давідавы", прэм'ера якога адбылася на тым тыдні. Фільм-малітва пра народ, Айчыну, сыноўнюю любоў да сваёй краіны на вершы Рыгора Барадуліна (рэжысёр С. Акімушкін) варты таго, каб увайсці ў залаты фонд БТ. Барадулін як паэт — гэта цэлая краіна са сваімі лясамі, доламі, зямлёю і небам. І вельмі няпроста пакласці яго на відэарад. Трэба сказаць, што стваральнікі фільма знайшлі адэкватныя кадры, магутную гукавую партытуру, каб стварыць гарманічны відэапаэтычны твор. Няхай знойдзецца для яго і адпаведнае месца ў праграме тэлебачання.

Менш важкай атрымалася перадача "Новай калекцыі" з удзелам паэта Андрэя Вазнясенскага. Прыгожа знятыя кадры на возеры Свіцязь нагадалі пра сустрэчы, паездкі, спатканні, расстанні паэта, яны адлавядалі яркаму сонейку, бляску вады, сонечнаму настрою суразмоўцаў (аўтар і вядучы — А.Лукашэвіч) і, канечне ж, вопыту інтэрв'юера. Мы шмат ведаем пра Вазнясенскага, часта бачым яго на экранах розных каналаў, аднак усцешна, што для выдатнага расійскага паэта і дарагая нашая зямля з яе сінімі азёрамі, і нашыя землякі-паэты, і тое, што нас яднае агульная чалавечая духоўнасць. Мне пакуль невядома, з якіх дыяментаў будзе складацца новая калекцыя, аднак пачатак яе пакладзены.

Імшою па паэтцы Яўгеніі Янішчыц прагучаў фільм "Непрыручаная птушка", паказаны ў адзін з дзён тыдня і прысвечаны яе 50-годдзю. Вершы, песні, успаміны, пакладзеныя на краявіды Палесся, роднай старонкі жанчыны, што жыла, як непрыручаная птушка і магла пра сябе сказаць: "мяне ў палёце не скарылі...", сталі дэталямі помніка, які застанецца для нашчадкаў. А яшчэ ўдзячныя нашчадкі назвалі яе імем адну з вуліц у Пінску, пра што паведаміла днямі агенцтва тэленавін.

Варта сказаць, што сярод іншых перадач тыдня было некалькі зусім прыстойных, як казаў адзін знаёмы рэдактар.

Назавем дзве апошнія перадачы цыкла "Чацвёртае вымярэнне", якія тычыліся не "розных бакоў банальнасці", а навуковых пошукаў у галіне медыцыны: сардэчна-сасудзістых і анкалагічных захворванняў. Тут было больш прафесіяналізму, логікі і дакладных фармулёвак, чымсьці у вызначэнні паняцця "эліта".

Утульна, цёпла пачувалася разам з мастаком Элеанорай Сямёнавай у перадачы "Маналог". Амаль што гэтаксама, як і з Ларысай Жаўруковіч, мастаком з перадачы "Вяскоўцы" (Уздзенскі раён). Кранальныя кадры сустрэчы бабулек, якіх малюе мастачка, з аўтарам, шчымліва-шчырыя размовы пра іх жыццё-быццё не пакідаюць гледачоў абыякавымі.

А яшчэ нельга не ўспомніць пра тэлеспектакль "Чужыя блізкія", хоць і не была гэта прэм'ера, аднак вытворчасці 1998 года, і я, прызнаюся, глядзела яго ўпершыню. Чыста тэлевізійны спектакль, як па жанры, так і па стылістыцы. П'еса А.Галіна, разлічаная на чатыры асобы, разыграная ў адным пакоі, пастаўлена рэжысёрамі Н.Арцімовіч і У.Восіпавым. Тэма абароны старых, маральнага абавязку перад імі — адно гэта вымагала патрэбу ажыццявіць пастаноўку на тэлеэкране. Рашэнне спектакля як дыялога за адным сталом не магло не ўразіць сапраўднага тэлевізійнага рэжысёра, каб натхніць на пастаноўку. А запрашэнне да выканання ролей нашых вядомых актрыс — Алімпіяды Шахпарон і Зоі Асмалоўскай — надало значнасці і забяспечыла цікавасць да спектакля. (Новымі рысамі праявіўся і талент Эдуарда Гарачага.) Спектакль-відовішча, спектакль-падзея. Бадай, апошняе нават больш пасуе ў дачыненні да дзейства, што адбывалася на экране і якое вартае ўхвалы за пачуццё дабрачыннасці, спагады да чалавека.

**Р.Б.**

# "ТАЛЕНТЫ І ПАКЛОННІКІ" — НАВАСЁЛЫ

Клуб "Таленты і паклоннікі" існуе ўжо два гады і за гэты час арганізаваў каля 15 мерапрыемстваў: канцэрты, сустрэчы з акцёрамі, святкаванні юбілеяў і конкурс "Лепшае прызнанне ў каханні". Конкурс спадабаўся і запомніўся.

Дагэтуль клуб не меў свайго сталага адраса, быў вымушаны яго двойчы змяніць. І, нарэшце, знайшоў "месца пад сонцам": памяшканне цэнтра "Дабрыня" сацыяльнай падтрымкі сям'і Маскоўскага раёна. Такую прыемную падзею сабраліся адзначыць 19 кастрычніка госці і члены клуба. Была падпісана дамова аб супрацоўніцтве паміж адміністрацыяй Маскоўскага раёна і клубам "Таленты і паклоннікі". Яе падпісала Галіна Махаева, дырэктар цэнтра "Дабрыня" і прэзідэнт клуба, і Ніна Гардзяюк, намеснік старшыні адміністрацыі. Згодна з дамовай, Маскоўскі райвыканкам будзе выдзяляць матэрыяльныя сродкі для дзейнасці клуба, які, у сваю чаргу, вызначыць дзень прыёму грамадзян раёна з усіх грамадскіх аб'яднанняў.

На свята навасёлаў прыйшлі разам з мастацкім кіраўніком В.Раеўскім таленавітыя і любімыя многімі акцёры-купалаўцы П.Дубашынскі, В.Філатаў, М.Захарэвіч, І.Усовіч, М.Кірычэнка,а таксама акцёр Рускага драматычнага тэатра В.Серада і мастацкі кіраўнік ТЮГа А.Андросік.

На вечары талентаў чакалі розныя конкурсы з прызамі. Яны прайшлі весела, з азартам і гумарам, якому пазайздросцілі б удзельнікі праграмы "Аншлаг". На радасць паклоннікаў артысты годна адказалі. Прагучалі вершы А.Твардоўскага, М.Танка, М.Лермантава, І.Бродскага, маналог з п'есы Астроўскага "Лес" і іншыя творы. Акцёры ўспаміналі першыя крокі свайго творчага шляху, дзяліліся з прысутнымі думкамі аб тэатральнай рэчаіснасці.

Даўно вядома — акцёру неабходна адчуць сваю запатрабаванасць, бо яна — талент. А публіка любіць тэатр і асабліва "зорак", бо яна — паклоннік. Менавіта мінскі клуб "Таленты і паклоннікі" дае магчымасць і адным, і другім сустрэцца. Што ў наш жорсткі час рэдкасць і раскоша.

**Ганна ВАШЧЫЛА**
**Іна РАДЗЬКО**

# КАМЕРТОН №1

Камертон, калі верыць энцыклапедычнаму слоўніку, — інструмент для фіксацыі і аднаўлення стандартнай вышыні музычных тонаў, які выкарыстоўваецца як эталон. Але хто сказаў, што больш аніяк яго выкарыстаць нельга? Прыстасаваўшы "Камертон" за назву нашай рубрыкі, мы менш за ўсё хацелі б быць э-э-э... талонам, "закампасціраваным" у былыя часы. Таму ўзялі і —"дзынькнулі" па ім, не пашкадаваўшы манікюру. А ён як "бомкне" ў адказ! Мы былі так уражаны, што ледзьве не ўзялі "БОМ" за назву рубрыкі. Ды ўсё ж вырашылі, што "Камертон" — хоць і традыцыйна, затое больш музычна. Да таго ж, як гэта рамантычна: "дзынькаць" па камертоне, чакаючы водгуку. І літаральна бачыць, як ад яго разыходзяцца вясёлкавыя хвалі дыяментаў-абертонаў.

Бо камертон — гэта яшчэ і люстэрка часу. Спецыялісты ведаюць: у розныя часы знакамітае "ля" гучала на рознай вышыні, маючы ўласную частату хістанняў. Частасць нашага "Камертона" будзе не 440 герц, а адно "ваганне"-намаганне ў месяц.

Што ж да тэматыкі "камертонавых" хваляў-хваляванняў... Ну, пра што могуць гаманіць дзве жанчыны, калі збяруцца разам? Вядома ж, пра мужчын:

— Як там БОБ наш пачувае? Нешта БОБа не відаць.

— Дык у БОБа — дзве "зазнобы".

— Болей — лепей?

— Дзве — не пяць.

Так што не хвалюйцеся: былая рубрыка "БОБ" застаецца. Але да музычнага тэатра далучаецца джаз, эстрада, музыка сімфанічная і камерная. І ўсім гэтым апякуецца "Камертон".

Ганна АЛАДАВА, Надзея БУНЦЭВІЧ

# НА ФОНЕ ВОСЕНЬСКАГА ЛІСЦЯ СМЯЯЎСЯ-ПЛАКАЎ САКСАФОН

## гульні, скокі і прызы на "ЗАЛАТЫМ ШЛЯГЕРЫ" ў Магілёве



Жэлька Ёксімавіч (Гран-пры).

— А чаму не песні? — спытаеце вы.

— А таму, што шлягер — гэта не проста тая ці іншая песня. Гэта стан душы, — адкажу я, — калі яна не толькі спявае, а смяецца і плача адначасова. Як той саксафон.

Можа, менавіта таму сімвалам гэтага фестывалю абраны саксафон? Гэта, бадай што, адзінае тлумачэнне, бо, прызнацца, саксафон не зусім адпавядае "палітычнаму рэтра", якое пануе вакол фестывалю. Да таго ж, выява саксафона на фестывальнай эмблеме глядзіцца пэўным "рэваншам" за нейкую "нядджазавасць" горада. Падставай для гэтай думкі сталі звышаншлагі на ўсіх мерапрыемствах фэсту, за выключэннем ... джазавага канцэрта. Ды з удзелам Юрыя Саульскага! Уявіць сабе, каб на такой імпрэзе ў Мінску альбо Віцебску засталіся "чорныя дзіркі" пустых крэслаў, проста немагчыма.

І з гэтай нагоды таксама можна смяяцца — калі б не хацелася плакаць. Асабліва на фоне восеньскага лісця: залатога, як цёплы сонечны акрайчык, і адначасова развітальнага, як сам жоўты колер-каларыт. Так паступова разумееш, што ўжо гэтыя няўлоўныя пераходы ад жоўтага да залатога і ад залатога да таго, што проста "блішчыць", не больш, чым

### ГУЛЬНІ.

Шчыра кажучы, кожны фестываль сам па сабе — ужо гульня: артыстаў з гледачамі, арганізатараў — з прэсай, спонсараў —з грашыма. На эстрадных фэстах гэты пералік дапаўняецца гульнёй з "фанерамі": нехта спявае пад "мінус" (акампанемент без голасу), нехта — пад "плюс", а нехта і ўвогуле не спявае, а толькі шамаціць вуснамі (маўляў, навошта псаваць добры студыйны запіс?).

На "Залатым шлягеры" плюсоўкі-мінусоўкі дадаткова класіфікуюцца на рэміксы (новыя аранжыроўкі) — і здуванне пылу са стужак 15-гадовай даўніны. Асаблівым жа попытам карыстаецца творчы метад Мусліма Магамаева: са сцэны — "мінус" (ці жывое гучанне раяля пад пальцамі спевака), а з залы — уласна спевы. І кумір у ролі хормайстра-дырыжора. Ці, больш дэмакратычна, у ролі настаўніка спеваў (варыянт Эдуарда Ханка), што развучвае новы шлягер пад акардэон.

Між іншым, само азначэнне шлягера на магілёўскім фэсце становіцца гульнёй "нумар раз". Для некага гэта — любімая мелодыя, песня, што застанецца ў гісторыі, для некага — сродак яднання людзей, для кагосьці — машына часу, што пераносіць у маладосць. Анатоль Салаўяненка ў якасці шлягера назваў ... оперу "Травіята", шчодра далучаючы да яе ўкраінскія народныя песні. А Юрый Багацікаў сціпла заўважыў: "Шлягер — гэта я". І меў рацыю, бо залежнасць песні ад папулярнасці выканаўцы самая непасрэдная.



Аляксандр Цыплякоў.



Эдзіта П'еха.

Тым не меней, ужо пасля канцэрта-адкрыцця самай папулярнай на "Залатым шлягеры" стала Надзея Чапрага. Не таму, што лепш за іншых спявала пад "фанеру", а таму, што пусцілася з Прэзідэнтам Беларусі ў

### СКОКІ.

А потым прызналася журналістам, што гэта была імправізацыя. Між іншым, магла б і парэпеціраваць: хаця б са службай аховы, каб тая не выглядала так разгублена.

А вось Мікалая Слічэнку менавіта скокі выратоўвалі ад разгубленасці. Спяваючы жыўцом, але часцей не па тых нотах, ён кідаў мікрафон долу і танчыў. Зала выбухала апладысментамі, а я разгублена адчувала, як губляецца прыгожая легенда.

Затое легендай стала, як Наталля Нурмухамедава, скінуўшы чаравікі, скакала на начной дыскатэцы — лепей за моладзь! Ці як моладзь на тых дыскатэках танчыла пад рэтра-шлягеры. Ці як Анжэліка Ют з Уладзімірам Станкевічам прымушалі ўсіх скакаць у экстазе пад калажы-парафразы па матывах вядомых песень. Ці — як перад пачаткам канцэртаў у Палацы школьнікаў іграў духавы аркестр, і ветэраны, запрошаныя на танец выхаванцамі бальнай студыі, кружылі ў вальсе. А потым нават атрымлівалі невялічкія памятныя

### ПРЫЗЫ.

Увогуле, шматлікіх прызоў на "Залатым шлягеры" было нават болей, чым песень, якія часта паўтараліся з канцэрта ў канцэрт. Усім удзельнікам дарылі кубачкі і шалікі з фестывальнай сімволікай, каляровыя фестывальныя газеты (гледачы маглі набыць усё гэта за плату). "Прызам для прэсы" станавіліся прэс-канферэнцыі з вядомымі артыстамі, прызам для артыстаў — для каго ганарары, а для каго і сам выхад на сцэну, што падштурхоўваў іх да плённай працы на працягу года: ад "Шлягера" да "Шлягера". Прызам для землякоў Марыі Пахоменка стала песня яе мужа Аляксандра Колкера "Краснаполле", напісаная ў традыцыях "і землякі так змогуць сачыніць". Прызам для аматараў bel canto — удзел вундэркіндаў:



Ірына Дарафеева (I месца).

Сашы Чаркаса з Пінска, Дзімы Бойчанкі з Санкт-Пецярбурга і Дзімы Літвінца з Кіева. Прызам для саміх вундэркіндаў стала, мяркуючы па гучанні голасу на фінальных канцэртах, неверагодная стомленасць пасля недзіцячай фестывальнай нагрузкі. Ну, а прызы для пераможцаў конкурсу маладых выканаўцаў мелі зялёнае адценне: 2000, 1000, 700 і 400 долараў адпаведна.

Конкурс уяўляў сабой не проста спаборніцтва, ён сумяшчаў у непадзельнае цэлае ўсе асобныя фрагменты фестывальнай палітры. І незаўважна задаваў пытанне, што ў ім усё ж галоўнае:

### ПРЫЗЫ, СКОКІ ЦІ ГУЛЬНІ?

... Смяяўся-плакаў саксафон на фоне спевака з Узбекістана. Гэта быў Саід Яг'я, які ў пройгрышах песні дэманстраваў свае пасажы на саксафоне. Дарэчы, саксафон быў не толькі ў яго руках, але і... у вуху, на што звярнулі ўвагу яшчэ на жараб'ёўцы і, нават не слухаючы папярэдне, як ён спявае, прарочылі яму галоўны прыз. Так і атрымалася — нягледзячы на яго III месца. Бо галоўным прызам стала прызнанне слухачоў, не зважаючы нават на тое, што афіцыйна прыз глядацкіх сімпатый дастаўся узбекскаму соул-квартэту "Сідэрыз".



Мікалай Слічэнка.

Гульнёй успрымалася жараб'ёўка, падчас якой канкурсанты мелі магчымасць паказаць "папярэднія выступленні": не для журы (ці не было парушэннем правілаў адсутнасць журы на жараб'ёўцы?), а для журналістаў і саміх сябе. Ну, а пост-конкурсным выступленнем стаўся не толькі ўдзел пераможцаў у заключным гала-канцэрце, але і шырокае знаёмства з усімі маладымі спевакамі падчас дыскатэк. Усё гэта яшчэ раз пацвердзіла, наколькі высокім быў узровень сёлетняга конкурсу. Практычна кожны з удзельнікаў даказаў, што ён — асоба, індывідуальнасць, мастак.

Як глядзеліся на гэтым фоне беларусы? Зразумела, бездакорным, адпрацаваным да дробязей было выступленне знакамітай Ірыны Дарафеевай (I месца). Аляксандр Зваровіч з Гродна (II месца), безумоўна, зрабіў значны крок наперад — у параўнанні нават з яго выступленнем на "Маладзечна-98": цудоўнае шматгалоссе аранжыроўкі цыганскай песні "Ой, вы не будите" стварала найлепшую аўру для голасу, расквечваючы яго багаццем фарбаў. Што ж да папуры з "Брэменскіх музыкаў", дык яно яшчэ чакае карпатлівай працы над кожным з кантрастных фрагментаў.



Анатоль Салаўяненка.

Аляксандр Цыплякоў (дыплом) — новае імя на беларускай эстрадзе. Як мне падалося, конкурс проста не раскрыў усіх яго магчымасцей, якія "прачытваліся" і ў голасе, багатым на абертоны, і ў адухоўленасці твару, што так шчыра, па-студэнцку рэагаваў на ўсе заўважаныя ім самім хібы, і, як ні падасца парадаксальным, у выбары рэпертуару. Бо наважыцца на выкананне ў эстраднай тусоўцы Шуберта, ды яшчэ "Ave Maria" — гэта, як ні кажыце, учынак. Іншая справа, што ён усё рабіў па прынцыпе "сам сабе рэжысёр", аранжыроўшчык, куцюр'е. Таму б вельмі хацелася, каб ён не кінуў справу "адухаўлення" нашай эстрады, яе павароту да інтэлігенцкасці, на які мы так спадзяемся.



Юрый Ғагацікаў.

Антон Ажыпа (дыплом), саліст Магілёўскай студыі "Рэмікс", на конкурсе скарыў унутраным, а не знешнім выказваннем пачуццяў. А на дыскатэцы — дуэтам з ужо ўзгаданым Саідам.

Ці не ў гэтым быў галоўны прыз "Залатога шлягера": у шчырым сяброўстве, да якога прыйшлі канкурсанты, у руху эстрадных зорак насустрач сваёй маладосці, а гледачоў — насустрач мастацтву? Бо калі эстрада жыве толькі сённяшнім днём, яна належыць побыту. А калі кідае позіркі назад, шукаючы класіку і ператвараючы яе ў неакласічныя рэміксы, яна пачынае адчуваць сябе мастацтвам. Дапаможам ёй у гэтым!

Надзея БУНЦЭВІЧ

Фота Алега ФАЙНІЦКАГА, Мікалая ЦІТОВА (БелТА).



Антон Ажыпа.

## Юрый САУЛЬСКІ:
# “ПА-РАНЕЙШАМУ ЛІЧУ ДЖАЗ ЛАДАМ ЖЫЦЦЯ”

***Тое, што Юрый Саульскі з’явіўся на “Залатым шлягеры”, на першы погляд, цалкам укладваецца ў звыклую схему: штогод фестываль прэзентуе выканаўцаў і кампазітараў, якія пакінулі прыкметны след у гісторыі савецкай, — ды і не толькі, — эстрады. Але гэты факт сведчыць і пра з’яву іншага характару: сёлетні “Шлягер” звярнуўся да рэтраспектывы савецкай джазавай музыкі, да якой Саульскі мае самае непасрэднае дачыненне (акрамя таго, некалькі маладых канкурсантаў прадставілі на суд журы амерыканскія шлягеры мінулых гадоў, прадэманстраваўшы неабыякавы, але, праўда, даволі своеасаблівы погляд на джаз). Больш за тое, на гэтым быў зроблены акцэнт: канцэрт “Залаты шлягер у джазе” арганізатары ўнеслі ў сталічную праграму. Таму сведкамі гістарычнага моманту — Юрый Саульскі дырыжыруе песняй “Таццянін дзень” у выкананні Мікалая Скорыкава і Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга — сталіся мінчане. Ну, а ўсе мы сталі сведкамі, як на сёлетнім “Залатым шлягеры” Юрый Саульскі выступіў яшчэ і ў ролі старшыні журы конкурсу маладых выканаўцаў.***

***Рухавы, энергічны, поўны аптымізму, Юрый Сяргеевіч толькі што адзначыў сваё 70-годдзе. Ён ужо — “жывая легенда” савецкага джаза, але ягоная гісторыя яшчэ працягваецца.***

***... Калісьці, у 1954 годзе, ён здзівіў усіх: скончыўшы тэарэтыка-кампазітарскі факультэт Маскоўскай кансерваторыі (а да гэтага — музычную школу імя Гнесіных, дзе ён вучыўся па класе фартэпіяна, а затым віяланчэлі, акрамя таго, у кансерваторыі ён спачатку іграў на валторне), Ю.Саульскі аддаў перавагу не аспірантуры — яму прадказвалі вялікую навуковую будучыню, а эстраднаму аркестру. І потым ён жыў і працаваў, паводле ягонага ўласнага выказвання, “шырокапалосна”.***

***Аркестраў у ягоным жыцці было яшчэ шмат: тэатральны і рэстаранныя, аркестры Д.Пакраса і Э.Рознера, маладзёжны эстрадны аркестр Цэнтральнага Дома работнікаў мастацтваў, аркестр Маскоўскага мюзік-хола. Але галоўнае ягонае “дзіця” — ”ВІА — 66". Арганізаваўшы яго, Саульскі ўвасабляў у жыццё ідэю, што да джаза больш дапасуюцца “аркестры салістаў”, а не “аркестры аранжыроўшчыкаў”, для чаго сцвердзіў у “ВІА — 66” ініцыятыву малой***



***інструментальнай групы.***

***Безумоўна, адным са штуршкоў да стварэння аркестра новага тыпу быў рэзананс ад выступлення нашых джазавых музыкантаў за мяжой — бо Саульскі разам з вядучымі выканаўцамі, кампазітарамі, крытыкамі ўвайшоў у адзін з першых савецкіх “дэсантаў”, закінутых на пражскі джазавы фестываль у 1965 годзе. Пасля ён з захапленнем пісаў у часопісе “Музыкальная жизнь” пра ўласныя ўражанні ад гэтай падзеі і пра тое, як успрынялі нашых джазменаў “зоркі” міжнароднага маштабу.***

***А колькі ягоных кампазіцый увайшлі ў “залаты фонд” айчыннай джазавай класікі! Хаця Ю.Саульскі ніколі не абіраў шлях стылістычнага рэфарматарства. Пасля распластавання савецкага джаза на пачатку 60-х гадоў на “сур’ёзны”, поўны эксперыментаў, і “лягчэйшы”, што захаваў песенна-танцавальныя рысы, Ю.Саульскі апынуўся недзе пасярэдзіне. Нямала ягоных песень, мюзіклаў, музыкі для тэатра і кіно маюць цалкам эстрадны характар, але гэта менавіта тая эстрада, якую можна ставіць у адзін шэраг з “высокай” акадэмічнай музыкай (тут трэба дадаць, што Ю.Саульскі — сябра Саюза кампазітараў СССР з 1962 года, а затым і ягоны сакратар, акрамя гэтага, — аўтар метадычнага дапаможніка “Аранжыроўка для эстраднага і джазавага аркестра”).***

***Аднак, з напаміну пра тое, што маскоўскі госць нядаўна адзначыў свой 70-гадовы юбілей, зусім не вынікае, што размова пра яго — гэта толькі ўспаміны, бо знізіцца (альбо ўзняцца?) да ўзроўню “вясельнага генерала” ён сабе дазволіць не можа. Па-ранейшаму з’яўляюцца новыя песні, музыка для кіно... Толькі цяпер гэта ўсё выходзіць з-пад пяра народнага артыста Расіі, прэзідэнта Маскоўскага джазавага ангажэмента, музычнага кансультанта на ГРТ, мастацкага кіраўніка музычнай вучэльні на Ардынцы (былая вучэльня імя Гнесіных) і, — па-ранейшаму, — чалавека джазавай генерацыі.***

— Я не стамлюся лічыць джаз станам душы і ладам жыцця. Хай ён цяпер не такі сацыяльны, як рок, затое ён зрабіўся больш абагульненым і агульначалавечым відам мастацтва. У нашага джаза не было сацыяльных тэкстаў, у нас не было джазавай паэзіі, але джаз заўсёды быў сацыяльны хаця б самім фактам свайго існавання як нефармальнага тыпу музычнага мыслення.

**— Вы прылічваеце сябе да джазавых фанатыкаў, якія не могуць пераджыць непрыманне джазавага мастацтва?**

— Я разумею і нават паважаю музыкантаў, напрыклад, класічных, якія не разумеюць джаз, а вось не музыкантаў, якія не разумеюць джаз, зразумець не магу.

**— А якую музыку вы слухаеце?**

— Я слухаю Шастаковіча і старажытны джаз. І яшчэ я перачытваю Дастаеўскага.

**— Слухаючы вашыя выступленні, тое, як вы ведзяце сходы, абагульніваеце прамовы выступоўцаў, міжволі звяртаеш увагу на вашае бездакорнае валоданне рускай мовай...**

— Я проста вымушаны ўмець размаўляць па-руску правільна і, магчыма, нават у нейкай ступені старамодна, бо нарадзіўся ў маскоўскай сям’і патомных інтэлігентаў дваранскага паходжання. Усе мае продкі з боку бацькі былі духоўнымі асобамі, а з боку маці — Булгакавы, Трубяцкія. У сям’і размаўлялі на найчыстым маскоўскім дыялекце, бацька і маці гралі ў чатыры рукі Бетховена і Чайкоўскага, і я ўзгадаваўся пад гэты акампанемент. Акрамя таго, я скончыў кансерваторыю як музыказнаўца, чытаў шмат лекцый, вёў у вучэльні тэарэтычныя дысцыпліны. Потым я шмат працаваў як журналіст.

**— Многія сталыя джазмены выдаюць цяпер кнігі ўспамінаў, разважанняў. Ці ёсць што-небудзь падобнае ў вас?**

— Так. Зусім нядаўна ў выдавецтве “Кифара” выйшла кніга нашых дыялогаў з вядомым джазавым крытыкам Аркадзем Пятровым “Чорны кот” in blue”.

**— А як вы ствараеце музыку?**

— Перад тым як напісаць што-небудзь у любым жанры, я доўга іграю на раялі блюз. Гэта для мяне нібыта малітва.

**— Але ці азначаюць для вас што-небудзь іншыя музычныя напрамкі?**

— Я вельмі люблю і высока цаню класічную музыку, асабліва — сучасную сімфанічную. Песня — гэта мая асобная сфера, яна ў мяне з’явілася пазней. Я не мог прамінуць і рок таму, што я — чалавек цікаўны. Рок для мяне — гэта і юнацтва майго сына Ігара, і, у нейкай ступені, лікбез.

**— Раскажыце, калі ласка, пра Маскоўскі джазавы ангажэмент.**

— Ён стварыўся ў 1991 годзе як Маскоўская джазавая асацыяцыя для развіцця розных форм джазавага жыцця ў расійскай сталіцы. МДА — гэта пастаянна дзейная дырэкцыя Маскоўскіх міжнародных джаз-фестываляў, гэта база для правядзення джазавых канцэртаў, творчага абмену паміж замежнымі і расійскімі джазавымі музыкантамі, клубных джазавых вечарын. Гэта эфектыўная форма падтрымкі маладых таленавітых музыкантаў і форма яднання ветэранаў айчыннага джаза. Хачу адзначыць, што МДА захоўвае традыцыі і развівае вопыт Камісіі джазавай музыкі Саюза кампазітараў Масквы.

**— Ці працягваеце вы лічыць, што джазаваму музыканту неабходныя спецыяльныя веды?**

— Вывучэнне джазавай традыцыі вельмі важнае. Але калі адзін музыкант можа захраснуць і нават “згаснуць” на гэтым этапе вучнёўства, дык для іншага ён можа зрабіцца перыядам назапашвання ведаў і вопыту, перыядам, які дапамагае рухацца далей. Пабдлажлівае ж стаўленне да вывучэння таго, што ўжо створана ў джазе, як сведчыць практыка, у рэшце рэшт абавязкова адаб'ецца на творчасці імправізатара: ён выкажа сваю “непісьменнасць” і ў выніку — непераканаўчасць таго, што ён іграе.

**— Ужо гадоў сорак ідуць спрэчкі пра тое, наколькі магчымае ўзаемапранікненне джаза і фальклору, у прыватнасці, — рускага. Што вы думаеце на гэты конт?**

— У 50-я гады рабіліся неаднаразовыя спробы зрабіць “рускія факстроты”, што выклікала пярэчанні і ў музыкантаў, і ў слухачоў. Затое тэмперамент закаўказскіх альбо малдаўскіх мелодый і рытмаў вонкава (менавіта вонкава, не больш!) супадаў з тымі элементамі джаза, якія прысутнічалі тады ў эстраднай музыцы. Многім здаваліся пераканаўчымі песні Рашыда Бейбутава, кампазіцыі Арцемія Айвазяна, малдаўскія рапсоды і фантазіі Віктара Кнушавіцкага і Барыса Карамышава. Ва ўяўленні большасці джазавых музыкантаў рускі фальклор быў неверагодна далёкі ад джаза. Былі рэдкія спробы ў гэтым накірунку, у якіх тэма і імправізацыя нязменна нібыта “размаўлялі” на розных музычных “дыялектах”.

**— Значыць, зліццё немагчымае?**

— Асабіста я мяркую, што сапраўдная асіміляцыя рускага фальклору з джазам тады дасягае мэты, калі яна выказваецца не толькі ў нацыянальным характары тэмы, але — што значна цяжэй — у яе імправізацыйным развіцці. У гэтым напрамку ў джаза вельмі вялікія перспектывы.

**— Джаз заўсёды меў цяжкасці — суб’ектыўныя і аб’ектыўныя...**

— На Захадзе джазу супрацьдзейнічалі паклоннікі класічнай музыкі, і нават — лёгкай, а таксама царква і істэблішмент. А ў нас... Мінулі тыя часы, калі джаз меў безліч цяжкасцей — больш аб’ектыўных, безумоўна, але даволі было і суб’ектыўных. Напрыклад, у 50-х гадах узнік канфлікт паміж “як” і “што”. Раней было неістотна, як ты іграеш, — абы было пачуццё. Пазней стала зразумелым, што без прафесіяналізму нічога не атрымаецца. Гэта былі суб’ектыўныя цяжкасці. А аб’ектыўныя ўсім вядомыя: кепскае стаўленне да джаза.

**— Джаз у нас ніколі не быў “музыкай тоўстых”...**

— Неяк адзін дзеяч на нарадзе ў Міністэрстве культуры ўзгадаў словы Ніцшэ пра тое, што лёгкая музыка — гэта музыка натоўпу. Я так і не здолеў зразумець: Горкі кажа — “музыка тоўстых”, Ніцшэ — “музыка худых”... Чыя ж гэта музыка? Цяпер, калі ўсё дазволена, у нас зноў цяжкасці — на гэты раз камерцыйныя. Джаз зрабіўся “сур’ёзным” відам мастацтва, і на ім цяпер “гараць” дырэктары філармоній. Але калі нам было цяжэй, мы былі з’яднаны. Цяпер мы сталі жудасна адасобленыя — гэта тады, калі нас ніхто не цісне, калі нам стала добра...

**— Складваецца ўражанне, што ваша грамадская дзейнасць у апошні час “пераважвае” музычную. Ці так гэта?**

— Калі я часта з’яўляюся на экране — ці то як старшыня альбо сябра разнастайных журы, ці то як джазавы каментатар, у мяне ўзнікае занепакоенасць, што ўсё гэта прываблівае тэлебачанне больш за маю творчасць. А я ж музыкант — і як кампазітар, і ў тым, што я раблю як грамадскі дзеяч. Гэты дысбаланс вельмі засмучае мяне...

**Гутарыла Ганна АЛАДАВА**

# АЛЯКСЕЙ ШАДЗЬКО — АМФІТРЫЁН І ЦАРЭВІЧ АЛЯКСЕЙ У АДНОЙ АСОБЕ



Мне даводзілася быць суразмоўцам гэтага “складанага” ці нават “панурага” чалавека. Павінен заўважыць, што ён хутчэй улюбёнец сваёй уласнай страсці, чым яе ахвяра. З іншага боку, вельмі цяжка вызначыць, якімі праблемамі і якімі імкненнямі ён жыве на самой справе, — тое, чым звычайна цікавіцца публіка. Напэўна, гэта ягоны сакрэт, ды і наўрад ці хто-небудзь здолеў бы падзяліцца гэтым, калі не мець на ўвазе здольнасць прыгожа і пераканальна “адкруціцца” ад пытання. Зразумела адно: наперадзе яго не чакае забыццё, і ён не будзе выкінуты хваляй на пясок, бо не шукае сабе месца пад сонцам і не плыве па цячэнні.

Маленькая, сціплая афішка ў пераходзе метро “Кастрычніцкая”, змерзлая прадаўшчыца кветкоў і несупынны натоўп людзей... А праз тыдзень — перапоўненая зала, прычым тут будуць і 17-гадовыя дзяўчаты і старыя дзядкі. І зноў — ціхае захапленне і непаўторная атмасфера чыстай шчырасці, якая аднолькава ўздзейнічае на ўсіх. Цяжка распавесці потым, што гэта было. Цяжка адназначна перадаць гэта тым, хто не бачыў. У кулуарах, сярод шэпту час ад часу чутныя водгукі аднаго імя — і зайздросныя, і цалкам адмоўныя. На маю думку, гэта і ёсць факт прызнання велічыні таленту і прафесіяналізму.

Увесь мінулы год Аляксей Шадзько рыхтаваў свой новы, трэці па ліку альбом “Я буду чакаць”, якому быў прысвечаны ўвесь ягоны творчы расклад. Альбом убачыў свет, і можна упэўнена сказаць, што ён цалкам сугучны характару і ладу жыцця свайго героя з усімі ягонымі імкненнямі і супярэчнасцямі. Не ведаю нікога, хто, праслухаўшы альбом Шадзько, застаўся б абыякавым. Тут няма фальшывай энергіі эстрадна-юбілейных мерапрыемстваў. Няма таго манументальнага грукату, які складаецца з пяці дзяжурных сугуччаў, перастаўленых для разнастайнасці “фанеры”. Затое ёсць сапраўдны ажыятаж, безліч прададзеных квіткоў, ёсць, нарэшце, вынік — бачны і адчувальны.

Ужо адбылася прэзентацыя ў начным клубе “Макс-шоу” — тры гадзіны несупыннага свята і чарга, каб узяць аўтограф. Адбыліся два канцэрты запар у Рускім тэатры, і вось яшчэ адзін — учора. 29 лістапада, я ўпэўнены, яго чакае — зноў аншлаг, зноў — трыумф, зноў — шчаслівы і стомлены твар Амфітрыёна і царэвіча Аляксея ў заваленай кветкамі цеснай грымёрцы. І гэта — учора, а заўтра...

Заўтра ён зноў паедзе на тралейбусе на рэпетыцыю ў тэатр, а ўвечары, зачыніўшыся на кухні, будзе пісаць свае цудоўныя песні і складаць іх у стол — “да лепшых часоў”. Хутчэй бы дажыць...

**Андрэй БЯРЭЗІН**
**Фота аўтара**

***На працягу доўгіх гадоў Барыс Бергер выкладае на кафедры агульнага фартэпіяна ў Беларускай акадэміі музыкі, разам з тым займаецца і канцэртна-выканальніцкай дзейнасцю. Сярод прафесіяналаў ён ужо даўно заваяваў рэпутацыю сур’ёзнага інтэрпрэтатара беларускай фартэпіяннай музыкі...***

**— Барыс Міхайлавіч! Чым абумоўлена ваша прага да фартэпіяннай музыкі беларускіх аўтараў?**

— Ведаеце, калісьці я выступаў толькі з творамі класіка-рамантычнага стылю. Пазней часта здаралася, што мае сябры-кампазітары прапаноўвалі выканаць некаторыя іх сачыненні. Я пачаў уключаць гэтыя творы ў канцэртныя праграмы, выконваў іх падчас аўтарскіх вечароў нашых творцаў, на пасяджэннях рэпертуарна-рэдакцыйных камісій Міністэрства культуры. Нават і не заўважыў, як па-сапраўднаму шчыра захапіўся гэтай музыкай. Так паступова пачалі складвацца цэлыя праграмы з фартэпіяннай музыкі беларускіх аўтараў. Першы канцэрт, дзе гучалі толькі беларускія творы, я прысвяціў Анатолю Васілевічу Багатырову. Ужо на той час я заўважыў, што публіка добра ўспрымае беларускую музыку.

**— Вы самі знаходзіце кампазітараў, музыку якіх хацелі б выканаць, ці яны знаходзяць вас?**

— І так, і гэтак. Для гэтага канцэрта, напрыклад, я сам адбіраў праграму, якая ўключала, на мой погляд, усё лепшае, што было напісана для фартэпіяна. Зразумела, у рамках аднаго канцэрта ўсё ахапіць было немаг-

# “ARS LONGA, VITA BREVIS...”

Хто мог уявіць амаль паўстагоддзя таму, якая будучыня чакае суровы і магутны будынак Камітэта дзяржаўнай бяспекі ў правінцыйным горадзе Маладзечна? Хто мог ведаць, якія людзі будуць наведваць яго праз дзесяцігоддзі ды яшчэ атрымліваць ад гэтых візітаў асалоду? Нарэшце, хто мог падумаць, што ў змрочных памяшканнях установы загучыць музыка, а ў невялікім унутраным дворыку будзе абсталявана Музычнае Падвор'е — месца правядзення разнастайных канцэртаў? Дзіўныя ператварэнні адбыліся, калі сорак гадоў таму пачала сваю працу Маладзечанская музычная вучэльня, паступова робячы грозны сімвал часу і ўлады аазісам натхнення і творчасці.

Здзейснім уяўную экскурсію па “ўладаннях” сённяшняй Маладзечанскай музычнай вучэльні імя М.К.Агінскага. Апошнім часам адміністрацыя прыкладае шмат намаганняў для таго, каб памяшканне выглядала сапраўднай храмінай мастацтва.

Канцэртная зала. Яе амаль што саракагадовая гісторыя беражліва захоўвае ўспамін аб выступленнях тут знакамітых выканаўцаў і калектываў: А.Абразцовай, М.Плятнёва, Г.Гаспаран, А.Вядзернікава, Н.Герасімавай, квартэта імя Камітаса, ансамбля Д.Пакроўскага, ансамбля салістаў “Класік-Авангард” ды шмат іншых. Неаднойчы выступаў тут і С.Рыхтэр, якому зала падабалася добрай акустыкай, атмасферай утульнасці і добразычлівасці. Увогуле, удалае геаграфічнае становішча заўсёды спрыяла таму, што многія сталічныя госці “па дарозе” наведвалі Маладзечна.

Напярэдадні свайго 40-годдзя канцэртная зала была рэканструявана і набыла цалкам еўрапейскі выгляд. Ідэя гэтага праекта, дасканала распрацаванага архітэктарам А.Утулкіным, належала дырэктару Маладзечанскай музычнай вучэльні, заслужанаму дзеячу культуры Рэспублікі Беларусь Рыгору Сароку. Цяпер усе адзначаюць, што зала вучэльні стала сапраўды адной з лепшых на Беларусі. Нават жартам, да вялікага гонару дырэктара, называюць яе залай імя Рыгора Сарокі.

Увогуле Р.Сарока — асоба незвычайная. Яго вылучае нястомная энергічнасць, працаздольнасць, дзелавітасць і пры гэтым — няўрымслівасць, дасціпнасць, абаяльнасць. Ён умее ва ўсім дасягаць сваёй мэты і з'яўляецца прыкладам усяму калектыву. Вось ужо 18 гадоў Рыгор Сямёнавіч займае пасаду кіраўніка, якую да яго змянілі шэсць дырэктараў. Ён здолеў шмат што павярнуць да лепшага, у першую чаргу — з'яднаць калектыў.

Удала атрымліваюцца ў дырэктара і справы творчыя. Ужо амаль 20 гадоў ён узначальвае гарадскі сімфанічны аркестр. Менавіта пад яго кіраўніцтвам калектыў атрымаў званне “народнага”, выйшаў на прафесійную музычную сцэну. Сімфанічны аркестр вядзе актыўнае канцэртнае жыццё, выступае на розных пляцоўках — у вялікай зале Белдзяржфілармоніі, на сцэнах Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета, Тэатра музычнай камедыі, палацаў культуры. Майстэрства калектыву зафіксавана ў запісах на радыё і тэлебачанні, аудыёкасетах, выдадзены буклет пра яго творчасць. З аркестрам супрацоўнічаюць многія выдатныя беларускія музыканты: кампазітары Я.Глебаў, В.Іваноў, выканаўцы І.Алоўнікаў, А.Алоўнікаў, В.Скорабагатаў, М.Жылюк, Н.Залатарова, В.Кучынскі, Л.Станевіч, У.Пятроў, дырыжор А.Сасноўскі. Увага гэтых майстроў красамоўна сведчыць пра адпаведны мастацкі ўзровень калектыву, які з'яўляецца ўдзельнікам і пераможцам розных творчых спаборніцтваў і фестываляў. Адно з апошніх дасягненняў — выступленне на сёлетнім фестывалі народнага мастацтва “Беларусь — мая песня” (Віцебск), дзе аркестр атрымаў усе найвышэйшыя ўзнагароды.



*Дырэктар вучэльні Рыгор Сарока.*



*Сімфанічны аркестр падчас выступлення ў Белдзяржфілармоніі.*

З нядаўняга часу калектыў стаў выязджаць за мяжу. Вялікім поспехам былі вызначаны яго канцэрты, што адбыліся мінулай вясной на музычным фестывалі студэнцкай моладзі ў французскім горадзе Белфор. Для першага ўдзелу ў такім форуме поспех музыкантаў можна лічыць выключным: на апошнім канцэрце зала стоячы вітала аркестр, былі зроблены запісы яго выступленняў на французскім радыё. Фестываль сабраў нямала сімфанічных аркестраў — з Ліёна (Францыя), з розных гарадоў Італіі, Германіі, нават з Афрыкі, але слухачы аддалі перавагу менавіта маладзечанцам, разважаючы накшталт: “Калі ў невялічкіх гарадах Беларусі існуюць гэткія калектывы, дык што казаць пра сталіцу? Там, напэўна, творчае жыццё “б'е ключом”...”

Вучэльня ганарыцца не толькі сімфанічным аркестрам. Высокім прафесіяналізмам, яскравасцю, зладжанасцю выканання вылучаюцца аркестр рускіх народных інструментаў (мастацкі кіраўнік і дырыжор Тамара Бялькова), а таксама духавы аркестр пад кіраўніцтвам Марцэліна Дабравольскага. Яны неаднаразова дэманстравалі сваё мастацтва на розных конкурсах і фестывалях, у тым ліку і за мяжой — у Францыі, Германіі, дзе атрымлівалі высокія ўзнагароды; нездарма і народны, і духавы ўжо даўно маюць званне “народных” калектываў, а іх канцэрты праходзяць заўсёды пры перапоўненай зале.

Увогуле, педагагічны склад установы вылучаецца асаблівай творчай актыўнасцю, і калі пра іх першасны абавязак — рыхтаваць выканаўцаў і музыкантаў-выкладчыкаў — сведчаць шматлікія выпускнікі, якія не прыпынілі сваёй музычнай кар'еры і дасягнулі значных поспехаў, дык уласна творчая ініцыятыва дэманстравалася амаль з пачатку функцыянавання навучальнай установы на разнастайных рэспубліканскіх аглядах-конкурсах. Вось і зусім нядаўна, на апошнім рэспубліканскім аглядзе метадычных і творчых работ, маладзечанцы атрымалі 8 дыпломаў (найвялікшая лічба сярод іншых устаноў-удзельнікаў), што стала своеасаблівым цудоўным падарункам да юбілею вучэльні.

Пра вялікі творчы патэнцыял калектыву вучэльні можна распавесці яшчэ шмат. У прыватнасці, варта зазначыць наступнае.

Тое, што з верасня 1995 года было адкрыта аддзяленне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, навучэнцы якога садзейнічаюць аздабленню вучэбных памяшканняў; найбольш удалыя іх творы экспануюцца ў фае канцэртнай залы, прычым гэтая выстава ўвесь час абнаўляецца.

Тое, што жаданне творчага самавыяўлення дапамагло выкладчыкам вакальнага і харавога аддзяленняў стварыць вакальны ансамбль “Аніма”, які адна з газет Германіі назвала “маленькім цудам з Маладзечна”.

Тое, што, да гонару вучэльні, тут выкладае кампазітар Алена Атрашкевіч, арганізатар многіх цікавых канцэртаў і вечарын, аўтар эстрадных песень, твораў для дзяцей, харавых і інструментальных мініяцюр, музыка якой гучыць у эфіры.

Тое, што былой выпускніцай вучэльні, а цяпер — выкладчыцай Зояй Русель быў створаны фалькльорны ансамбль “Калядкі”, які не так даўно адзначыў сваё 15-годдзе, а ў 1993 годзе за ўдзел у Маскоўскім конкурсе народнай творчасці ўнагароджаны дыпломам I ступені.

Тое, што студэнты вучэльні неаднойчы станавіліся лаўрэатамі абласных і рэспубліканскіх выканальніцкіх конкурсаў, а яе выпускнікі працуюць цяпер у розных музычных калектывах як роднай Беларусі, так і бліжняга і далёкага замежжа. Сярод іх — оперныя і эстрадныя спевакі, артысты хароў і аркестраў, кіраўнікі і выкладчыкі навучальных устаноў, навукоўцы, супрацоўнікі музычных рэдакцый...

... Невыпадкова сцяну канцэртнай залы вучэльні ўпрыгожваюць словы “Vita brevis, ars longa...” — “Жыццё кароткае, мастацтва — вечнае...”

**Яўгенія МАЦКЕВІЧ, Ірына СЫРЫЦА, студэнткі Беларускай акадэміі музыкі**

# БАРЫС БЕРГЕР ПРА ТВОРЧАСЦЬ І РАМЕСНІЦТВА

чыма. Я выконваю столькі твораў беларускіх аўтараў, што іх хапіла б яшчэ на два ці нават тры канцэрты. На гэты раз гучалі і тыя сачыненні Дзмітрыя Смольскага, Генрыха Вагнера, якія я іграю ўжо амаль дзесяцігоддзе, і зусім новы твор — Саната Веранікі Швец. На маю думку, гэта, напэўна, новае адкрыццё ў нашай музыцы.

**— А што вас прываблівае ў беларускай музыцы менавіта як выканаўцу?**

— Я не падзяляю ўсю музыку на беларускую і небеларускую: ёсць музыка добрая і дрэнная. Але чамусьці на працягу многіх гадоў існавала меркаванне, што ўсё сваё — дрэннае, а ўсё астатняе заслугоўвае ўвагі. У нас нямала таленавітых твораў, якія могуць гучаць на самай прэстыжнай сцэне. І, на мой погляд, у нас, як і ў любой іншай культуры, адбываецца натуральны працэс адбору лепшага, таго, што вытрымала праверку часам. А чым мне падабаецца выкананне беларускай музыкі? Найперш, тым, што я атрымліваю магчымасць асвойваць зусім новы, нязведаны пласт музыкі. І, што асабліва важна, — у пэўнай ступені я з'яўляюся сааўтарам кампазітара. Увогуле, гэта вельмі цікава — быць першым выканаўцам твора.

**— Ці лёгка сумяшчаць выканальніцкую дзейнасць з педагагічнай?**



— Адно з другім я спалучаю ўвесь час. Калі пасля заканчэння асістэнтуры-стажыроўкі пачаў працаваць як выкладчык, штогод выступаў з сольным канцэртам ў зале кансерваторыі, на іншых імпрэзах. Хутка заўважыў, што гэтыя дзве сферы ўзаемазвязаныя: адна ўзбагачае другую. Калісьці я не вельмі любіў даваць студэнтам тыя творы, якія ўваходзілі ў мой канцэртны рэпертуар. Лічыў, што тым самым буду навязваць ім сваю асабістую трактоўку. Пазней мая думка змянілася. Падчас развучвання я быццам бы нанова адкрываю музыку, што гучыць у маіх канцэртах.

**— А як студэнты рэагуюць, калі вы ім прапануеце беларускі рэпертуар? Не адмаўляюцца?**

— Наадварот! Два гады таму я прапанаваў ім зрабіць канцэрт беларускай музыкі ў зале Саюза кампазітараў. І, уявіце сабе, ніхто не адмовіўся. Больш за тое, усе настолькі захапіліся, што нават да выканання класічных праграм не рыхтаваліся так, як да гэтага канцэрта. Я лічу, што выкладчык павінен быць у той ці іншай ступені выканаўцам. Без гэтага ён ніколі не “адбудзецца” як сапраўдны педагог. Калі педагагічная работа перастае быць творчасцю, яна адразу ж становіцца рамесніцтвам.

**Таццяна ЗАБЛОЦКАЯ, студэнтка Беларускай акадэміі музыкі**

# ... А ЗАРАЗ — ДЗВЕ ГАДЗІНЫ БЕЛАРУСКАЙ МУЗЫКІ

***Быў калісьці на радыё такі анекдот: “Гучалі творы беларускіх кампазітараў, — гаворыць дыктар. — А зараз паслухайце музыку”. Даказаць, што творы беларускіх кампазітараў — таксама музыка, ды яшчэ з вялікай літары, падуладна не кожнаму выканаўцы. Барыс Бергер, прысвяціўшы свой аўтарскі вечар выключна нацыянальнай фартэпіяннай спадчыне, зрабіць гэта здолеў.***

Глыбінёй традыцый, высакародствам пачуццяў вылучаліся прэлюдыі А. Багатырова. Радасная экспрэсія зіхацела ў скерца Г.Вагнера. Бляск фартэпіяннай тэхнікі і амаль аркестравая моц адчуваліся ў транскрыпцыях оперных партытур У.Солтана, рамантычны падыход да апрацовак “старадаўняга стылю” — у п'есах В. Карэтнікава. Гучалі паэтычныя жанравыя творы Міхаіла Бергера — бацькі выканаўцы, які выхаваў цэлую плеяду беларускіх піяністаў. Упрыгожваў праграму і твор, без перабольшвання, геніяльны: “Інвенцыя sonore” А. Друкта, вырашаная ў тэхніцы мінімалізму.

Але не абышлося без “пікантнай падрабязнасці”: некаторыя аўтары, творы якіх гучалі ў першым аддзяленні, сыходзілі, ледзь дачакаўшыся перапынку. І я, нарэшце, зразумела, чаму піяніст не выклікаў іх на сцэну для паклонаў: тады б яны, відаць, сышлі б адразу пасля “рэверансаў”.

Зразумела, гэта “чорны гумар”, бо выклікаць на сцэну кампазітараў усё ж трэба было: не толькі, каб з імі пазнаёмілася публіка, але і каб усе яны пераznаёміліся з Веранікай Швец — аўтарам з Гродзеншчыны. Яе Саната была не толькі не горш, а шмат у чым куды лепей за некаторыя опусы знаных членаў творчага саюза. Бо ў ёй была і відавочная канцэпцыя, і безліч гукапісных эпізодаў, і россыпы бліскучай піяністычнай тэхнікі, і, галоўнае, значны прагрэс у параўнанні з вядомымі мне папярэднімі сачыненнямі той ж аўтаркі.

Затое шмат весялосці ў публікі выклікала Фантазія Б. Бергера на тэмы аперэты А.Чыркуна “Калі заспявае певень”. Успамінаючы колішнюю пастаноўку гэтага спектакля, я зразумела: кампазітар увойдзе ў гісторыю не толькі востра крытычным “круглым сталом” напярэдадні зняцця спектакля з рэпертуару, але і гэтай апрацоўкай, што бянтэжыла наіўна-“піянерскімі” інтанацыямі першавытоку.

Таму, нягледзячы на ўсю ўрачыстасць моманту, канцэрт схіляў і да не вельмі аптымістычных роздумаў. Ці ж гэта добра, калі выкананне нацыянальнай спадчыны становіцца амаль сенсацыяй? Ці не павінны лепшыя творы ўваходзіць у штодзённы рэпертуар музыкантаў? І чаму, пры ўсёй рэдкасці гучання беларускай музыкі, захоўваецца нешта накшталт “манаполіі”, калі і без таго між лічанымі “беларускамоўнымі” піяністамі, што не цураюцца нашай музыкі, падзелены “сферы ўплыву”: кожны іграе толькі “сваіх” кампазітараў, не звяртаючыся да твораў, што ўжо гучалі ў нечай інтэрпрэтацыі.

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

## Бамонд: ОперА Балет

# АЛЕНА ШВЕДАВА І Ў ЖЫЦЦІ ПАДОБНАЯ ДА РАЗІНЫ

Шматлюддзе на спектаклі опернага тэатра "Севільскі цырульнік" было не выпадковым. Прыйшлі ўпершыню пазнаёміцца з операй школьнікі, студэнты, былі і вопытныя аматары музычнага мастацтва. Вабіла яркая, філігранная музыка славутага Джаакіна Расіні і, вядома ж, выканаўцы. Шмат гадоў выступае ў партыі доктара Бартала Віктар Чарнабаеў. Заўсёды карыстаецца поспехам у публікі ўладальнік цудоўнага баса Яраслаў Пятроў, які выконваў партыю настаўніка музыкі Базіліо. Ну, а партыю Разіны ў той вечар выконвала Алена Шведава.



Усё ў яе гераіні прыцягвае — непасрэднасць, вясёласць і, зразумела, цудоўны, як званочак, голас з яркімі вярхамі. Артыстка скарыла сваёй прыгажосцю, шчырасцю, лёгкасцю. Кожны яе рух прадуманы, выразны, перакананьны. Разіна Алены Шведавай выклікае сімпатыю публікі сваёй абаяльнасцю, жаноцкасцю, зграбнасцю, цеплынёй. Здаецца, гэтая жвавая, гарэзлівая дзяўчына жыве лёгка, быццам бы бесклапотна, і ўсё ў яе выходзіць як бы між іншым. Яна любіць смех, жарты, гумар. Але за гэтай лёгкасцю тоіцца ўменне вытрымліваць усе выпрабаванні лёсу. Можа, таму партыя Разіны — самая любімая ў Алены Шведавай. Яна лічыць, што сама ў жыцці такая ж, як яе гераіня.

Дырыжыраваў спектаклем у той вечар заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Леў Лях — на думку Алены Шведавай, адзін з нямногіх дырыжораў, хто інтэлігентна адносіцца да спевакоў. Калісьці ён працаваў у опернай студыі Беларускай кансерваторыі і запрасіў Алену, на той час яшчэ студэнтку, выконваць партыю Фані ў оперы "Шлюбны вэксаль" Расіні, якую тады ставіла Маргарыта Ізворска-Елізар'ева. Алена стварыла прывабны вобраз лірычнай гераіні, наіўнай дзяўчыны. У адрозненне ад сённяшняй пастаноўкі, больш набліжанай да сучаснасці, гэта быў класічны спектакль. І ўжо ў студэнцкія гады яе партнёрам быў Рыгор Палішчук — таксама, як і Алена, лаўрэат міжнароднага конкурсу.

У цяперашняй пастаноўцы "Шлюбнага вэксаля" Алена Шведава — ізноў Фані. Ізноў вабіць яе абаяльнасць, жаноцкасць. Алена адзначае, як цікава ёй працаваць з дырыжорам Андрэем Галанавым, які, на яе думку, дае магчымасць спеваку выказаць сябе, не навязваючы сваё бачанне:

— Калі Галанаў за пультам, мне спакойна, — гаворыць спявачка. — Ён умее слухаць, а гэта рэдкі дар дырыжора.

Спявачка вельмі ўдзячна ўсім тым, хто дапамагаў ёй на творчым шляху:

— Люблю працаваць з такімі таленавітымі людзьмі, як канцэртмайстар, заслужаная артыстка Беларусі Ларыса Сямёнаўна Талкачова, якая ад душы стараецца дапамагчы. Наогул, усім, чаго дасягнула, як спявачка, я абавязана менавіта ёй, а таксама сваёй першай настаўніцы па вакале Доры Захараўне Кроз, якая вяла сольныя спевы ў Палацы Белсаўпрофа, калі я яшчэ вучылася ў школе. Яна належала да плеяды першых артыстаў Беларускага опернага тэатра. На жаль, Доры Захараўны ўжо няма з намі. У кансерваторыі я вучылася ў класе Тамары Мікалаеўны Ніжнікавай.

Сярод удалых оперных партый Алена называе Царыцу ночы ў "Чароўнай флейце" Моцарта, марыць выканаць даўно падрыхтаваную партыю Джыльды ў оперы Вердзі "Рыгалета".

Зараз у тэатры ідзе падрыхтоўка оперы Даніцэці "Лючыя дзі Ламермур", якая раней ніколі не ішла на мінскай сцэне. І ёй вельмі хочацца выканаць партыю Лючыі.

А пакуль Алена Шведава імкнецца дапоўніць свае сцэнічныя магчымасці выступленнямі ў канцэртах. Разам з "Беларускай капэлай" выконвае старадаўнюю музыку, шмат выступае на філарманічнай сцэне, па радыё, тэлебачанні.

З духавым аркестрам акадэміі музыкі "Фанфары Беларусі" пад кіраўніцтвам Аркадзя Берына яна спявала ў Люксембургу. Мінулай зімой з аркестрам опернага тэатра пад кіраўніцтвам Вячаслава Чарнухі ўдзельнічала ў каляднай праграме з твораў Іагана Штрауса, выступала ў іспанскіх гарадах Гранадзе, Барселоне, Мадрыдзе. Усюды — аншлагі, атмасфера цеплыні, узаемаразумення. Яе прыгожы голас спадабаўся публіцы. З такім жа поспехам гэтая канцэртная праграма была выканана на сцэне роднага тэатра. Зноў — шмат кветкак, працяглыя апладысменты.

На сённяшні дзень салістка Беларускага опернага тэатра Алена Шведава ў росквіце творчых сіл. Вельмі добра было б, каб на сцэне нашага тэатра часцей мы бачылі гэтую абаяльную, сімпатычную спявачку і слухалі яе прыгожы голас.

**Вера КРОЗ**




Ах, балет... Калі вымаўляеш гэтае слова, уяўляеш нават не чароўныя гукі партытур Чайкоўскага, а зграбныя, вытанчаныя постаці артыстаў. Самае няўлоўнае з мастацтваў, якое і дасюль не знайшло спосабу занатавання рухаў з дапамогай літар альбо нот, як гэта зрабіла музыка, яно імкнецца да вечнасці праз фота і відэаздымкі.

Праграмкі балетных спектакляў Вялікага тэатра Беларусі — гэта ўжо не проста мастацтва, гэта — Яго Вялікасць Балет: менавіта так, з вялікіх літар. Бо трымаеш іх у руках, і з'яўляецца адчуванне, што гэтыя постаці — заварожаныя феяй, як у "Спячай прыгажуні". А пройдзе... не, не стагоддзе — хвіліна, і паляціць Жар-птушка.

Так, як "прыляцела" яна на старонкі "Культуры".




Неўміручая "Жызэль", не паспеўшы з'явіцца на балетных афішах Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі ў якасці прэм'ернага адкрыцця сезона, адразу ж рушыла ў Швейцарыю. На пачатку лістапада балет і аркестр тэатра наведаліся ў знакамітыя горна-лыжныя гарады-курорты Шафхаўзен, Цуг, Вісп. І распешчаныя, па словах імпрэсарыо, швейцарцы змаглі даведацца, якія ў нас цудоўныя артысты.

Болей за ўсіх, як распавядаюць у тэатры, хваляваўся менавіта імпрэсарыо. Бо крыху раней за беларусаў там выступалі зоркі перадпенсійнага ўзросту, якіх не выратавала нават прыналежнасць да вядомага ва ўсім свеце маскоўскага тэатра. Нашыя аказаліся лепей — нават тыя, што ўжо лічацца на пенсіі (сярод "каралеўскай світы" на замежную сцэну выходзіла цяперашняя загадчыца літаратурнай часткі тэатра Людміла Рабушка). Ну, а салістам — лаўрэатам міжнародных конкурсаў Юліі Дзятко і Канстанціну Кузняцову — у Шафхаўзене апладзіравалі амаль чвэрць гадзіны.

Што да гэтага дадаць? Толькі імёны арганізатараў і стваральнікаў. Гастролі прайшлі пад патранажам Пасольства РБ у Швейцарыі. Пастаноўку спектакля ў харэаграфіі Ж.Перо, Ж.Каралі, М.Пеціпа ажыццявіла Ніна Дзячэнка. Музычным кіраўніком і дырыжорам выступіў Міхаіл Сінькевіч. А сцэнаграфію і касцюмы здзейсніла Вольга Жалонкіна.

**Наш кар.**

# "СВЕЦКАЯ ВЫТАНЧАНАСЦЬ"

## (Маладым кампазітарам)

***У кароткіх выказваннях пра оперу я паспрабаваў вынайсці формулу гэтага складанага жанру. Хацелася таксама звярнуць увагу кампазітарскай моладзі на оперу, бо ў нас гранічна рэдка задумваюцца пра яе будучыню.***

Опера мацней за які-небудзь іншы тэатральны жанр уздзейнічае на чалавека.

Опера — гэта цудоўная казка пачуццяў і душэўных памкненняў.

Опера зачароўвае "прыгожай маной", "узвышаным падманам" — тым, што нагадвае нам пра шчасце.

Опера дорыць мару і надзею.

У аснове оперы закладзены унікальны сінтэз жыцця і мастацтва.

Спецыфіка опернага спектакля патрабуе, каб музыка пераважала над драмай, а эмоцыі — над сэнсам.

Сцэнічная ігра, дэкарацыі, касцюмы дапамагаюць асэнсоўваць музычную драматургію оперы.

Сімфанізм оперы насычаны яскравымі вобразамі.

Лепшыя оперныя арыі — крыніцы святла і дабрыні — ніколі не вянуць.

Опера — гэта жыццё, упрыгожанае суквеццем мастацтваў.

Оперу любіць той, у каго палкае сэрца.

Без шырокай аўдыторыі опера ператвараецца ў рэдкі экспанат для кунсткамеры.

Оперы, як паветра, патрэбныя багатыя фундатары і страсныя паклоннікі.

Залаты век оперы надыходзіць тады, калі на яе сцэне зіхацяць славутыя спевакі.

Не зрабіўшыся сумленнем народа, оперны кампазітар не здолее напісаць вялікі нацыянальны твор.

Опера — гэта перамога генія, ягоны энтузіязм, ягоная невычэрпная прага ствараць Харацтво.

Опера ўпрыгожвае і саграввае жыццё.

Опера робіць пачуцці высакароднымі.

Опера прываблівае свецкай вытанчанасцю.

Опера кліча ў шчаслівую будучыню.

***Як опера ставіцца да сваіх творцаў? Яна іх ацэньвае па-рознаму:***

Моцарт — вытанчаны,

Гайдн — немудрагелісты,

Бетховен — валявы і пераканальны,

Расіні — улюбёнец лёсу: купаецца ў кветках і шампанскім,

Беліні — пяшчотны, чароўны рамантык,

Даніцэці — у любоўных пакутах гатовы плакаць,

Вердзі — з ім заўсёды весела і лёгка,

Пучыні — усхваляваны, страсны,

Меербер — палымяны,

Гуно — захоплівае пранікнёнай лірыкай,

Бізэ — жыццялюбны, святочны,

Вебер — настойліва вядзе ад бязвоблачнай ідыліі да трагедыі,

Вагнер — глыбокая, усеабдымная натура,

Глінка — яго рухаюць парывы натхнення,

Даргамыжскі — праставаты,

Барадзін — прыгожы, статны,

Мусаргскі — непрымірымы бунтар,

Рымскі-Корсакаў — разумнік,

Чайкоўскі — ветлівы, культурны, пакутуе ад самоты,

Пракоф'еў — дзейны, але адначасова непапраўны фантазёр.

***У вольны вечар пастаўце кружэлку з операй, і перад вамі расхінецца чароўны свет шчырасці.***

**Віталь РАДЗІВОНАЎ,
старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны.**

Творчы марафон

# ЧАРОЎНАЙ ГЛІНЫ ГУК

Не так даўно ўпраўленне культуры Мінаблвыканкама, абласны цэнтр народнай творчасці і Пухавіцкі райвыканкам арганізавалі выставу твораў народных умельцаў, дзе экспанавалася і гліняная пластыка Асура Тамразава. На гэты раз Асур Зарабавіч аддаў перавагу амурна-фалічным сюжэтам. Толькі пададзена ўсё было ў вельмі прыстойнай форме, з захаваннем разумнага, цнатлівага. Усе экспанаты зроблены якраз у рамках народнага этыкету, якім так добра вылучаюцца сярод іншых народаў беларусы.

А гэты момант патрабаваў ад майстра глыбокага пранікнення не толькі ў сутнасць мастацкіх традыцый старадаўніх умельцаў, але і разумення народнага характару, менталітэту беларуса. Тут, як кажуць, трэба валодаць, акрамя мастацкага густу, яшчэ і здольнасцю падняцца да асэнсавання пэўных псіхалагічных тонкасцей. Што і прадэманстраваў майстар у сваіх творах.

Аднак яго шлях да творчасці аказаўся надзвычай працяглым і складаным. Пасля заканчэння васьмі класаў Асур хацеў паступаць у Кіеўскі мастацкі тэхнікум, бо яшчэ з дзяцінства адчуваў цягу да работы з глінай. Толькі па іроніі з'едлівага лёсу на адным з экзаменаў дарога да таямніц мастацтва і яго навук была раптоўна перакрыта.

Давялося заканчваць сярэднюю школу. Потым — ваенную вучэльню. Верай і праўдай адрабляў афіцэрскі хлеб у розных ваенных акругах былога Саюза. Апошнім месцам службы стала Мар'іна Горка. Тут ён і пайшоў у адстаўку.

У нядаўняга вайскоўца пры наяўнасці вялікай колькасці вольнага часу ажыло жаданне вярнуцца да любімай справы — заняцца керамікай. Яго работы экспанаваліся на гарадскіх, раённых выставах, потым на занальных і абласных.



Цяпер Асур Зарабавіч вядзе гурткі мастацкай керамікі ў раённым цэнтры пазашкольнай работы "Світанак", а таксама ў мар'інагорскай сярэдняй школе № 5. Ён імкнецца не толькі перадаць дзецям тэхніку работы з глінай, але і навучыць выкарыстоўваць пры гэтым народныя традыцыі. А яны тычацца не толькі механічных прыёмаў апрацоўкі гліны, але і матываў, увасобленых у керамічных вырабах.

Вядома ж, для таго каб перадаць нешта іншым, як мінімум, гэта самае "нешта" трэба мець самому. Таму майстар гліняных спраў у заўсёдным пошуку, кожную вольную хвіліну працуе. Ні адна з колькі-небудзь значных выстаў не застаецца па-за яго ўвагай, бо добра ведае, што там можна знайсці шмат цікавага, неабходнага і патрэбнага для сябе. І потым вучыць дзяцей.

Узнікаюць цяжкасці не толькі педагагічнага характару, але і чыста матэрыяльнага. Для кераміста асноўны матэрыял — гэта гліна. Здавалася б, чаго-чаго, а гліны ў нас хапае. Яно так, але не ўсякая гліна прыдатная для працы. А інструменты?球 Featured Рознае дробнае начынне даводзіцца рабіць уласнымі рукамі, тое-сёе ўдаецца здабыць у знаёмых. Але ж не ўсякім неабходным прыладдзем разжывешся ў іх, бо і самі яны не з багатых.

Дзякуй Богу, дырэктар сярэдняй школы № 5 А.Ралькевіч і дырэктар Дома піянераў С.Дарохіна купілі печ для абпальвання керамікі. Ды вось бяда, змяшчальнасць прыстасавання не надта вялікая, таму ў ім можна падвяргаць керамічнай апрацоўцы толькі рэчы малых памераў. І тут Асур Зарабавіч пайшоў на такое, што па сённяшніх часах у пераважнай большасці абывацеляў не ўкладваецца ў галаве — прадаў сваю машыну і на ўласныя грошы зрабіў такую печ, якая адлавядае пакуль што ўсім патрабаванням.

Працаздольнасці і энергіі Тамразава можа пазайздросціць кожны, хто займаецца творчасцю. Дыяпазон творчай зацікаўленасці Тамразава надзвычай шырокі, а вырашэнне абранага сюжэта вызначаецца самабытнасцю, дасціпнасцю, высокім прафесіяналізмам.

Да таго ж ён шмат робіць для паляпшэння гуртковай працы, часта выступае перад аматарамі народнай творчасці, прымае дзейсны ўдзел у мерапрыемствах, звязаных з прапагандай традыцыйнай культуры, творчасці самадзейных умельцаў.

За поспехі ў адраджэнні народнай керамікі, за адданасць гэтай справе Асур Зарабавіч Тамразаў у 1995 годзе атрымаў званне народнага майстра Рэспублікі Беларусь па кераміцы.

**Валянцін ЛЯШЧЫНСКІ,**
**галоўны рэдактар**
**Мінскага абласнога цэнтра**
**народнай творчасці**
**Фота Алега АНТОНАВА**

# МАСТАЦТВА "ТАЛЕНАВІТЫХ АДЗІНОЧАК"

Упершыню за даволі працяглы перыяд свайго існавання Віцебская вышэйшая прафесійная вучэльня народных мастацкіх рамёстваў наважылася наладзіць у абласным краязнаўчым музеі даволі прадстаўнічую рэтраспектыўную выставу твораў сваіх навучэнцаў. Яна не толькі дэманструе асноўныя накірункі падрыхтоўкі навучэнцаў, сярод якіх — мастацкая апрацоўка драўніны, кераміка, ткацтва, але і яскрава сведчыць аб густах і ўзроўні прафесіяналізму педагогаў. Менавіта яны вылучаюць асноўныя тэндэнцыі ў дзейнасці той ці іншай майстэрні. "Майстрамі ў вучэльні застаюцца працаваць толькі тыя, хто самааддана, з захапленнем займаецца абраным рамяством, не зважаючы на невялікія заробкі і поўную адсутнасць вольнага часу, — адзначае адзін з арганізатараў выставы, намеснік дырэктара вучэльні І.Дзямко. — На іх плячах і трымаецца прафесійная падрыхтоўка, узровень якой вы можаце вызначыць, пазнаёміўшыся з экспазіцыяй".



Набор мэблі. Аўтары В.Шышло, Т.Лебедзеў, Д.Іваноў.

Аглядаючы выставу, нельга не адзначыць імкненне будучых майстроў карыстацца традыцыямі і разам з тым развіваць іх. Абапіраючыся на прынцыпы народнай стылістыкі, навучэнцы звяртаюцца і да вопыту развіцця сусветнага дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Апошняя тэндэнцыя і садзейнічае больш дынамічнаму развіццю таго ці іншага рамяства, фарсіраванаму выкарыстанню дэкаратыўных і пластычных магчымасцей матэрыялу. У пераважнай большасці экспанатаў разьбы па дрэве, кераміці, ткацтва амаль згубіліся сімволіка-абрадавыя функцыі рэчы, а ўтылітарная функцыя вырабаў саступіла месца функцыі эстэтычнай. Галоўнай стала прыгажосць рэчаў, з'явіліся новыя сюжэты і вобразы.

У творах разьбяроў па дрэве знайшлі адлюстраванне ўсе віды разьбы, здаўна пашыраныя на Беларусі: контурная, выемчатая, рэльефная, скразная (ажурная), аб'ёмная. Адна з найбольш старадаўніх і асабліва часта сустракаемая ў творах народнага побыту плоска-выемчатая разьба надзвычай эфектна глядзіцца ў "Святочным" блюдзе С.Крашэўскага. Высокая якасць выканання точаных форм, аздобленых плоска-рэльефнай рэззю, характарызуе шэраг набораў бытавых рэчаў, зробленых Д.Казусевым, Д.Лабусавым, А.Храмцовым, В.Цімкіным, В.Ладыневым. Не саступаюць ім па майстэрстве "Сервіровачны набор" Ю.Мясаедава, з уражваючым наведнікаў пляцёным падносам, упрыгожаным імітаванай аб'ёмнай рэззю, карэц у выглядзе лебедзя Д.Новікава, дэкаратыўны камплект "Вялікдзень" С.Валевіч. Пластычнай распрацаванасцю, нейкай асаблівай улюбёнасцю ў абраныя вобразы вызначаюцца шматлікія творы драўлянай скульптуры. Для Беларусі гэты від аб'ёмнай пластыкі даволі характэрны. Таму асабліва прыемна бачыць у экспазіцыі "Жаночую фігуру з вінаграднай лазой" С.Гаршунова, у якой спалучаюцца традыцыі драўлянай алтарнай скульптуры і пластыкі наіўнага рэалізму. Сярод дэкаратыўных скульптурных кампазіцый дакладнасцю мастацкай апрацоўкі прыцягваюць увагу "Дракон" С.Кавалёва, "Антычнасць" Д.Тарасенкі, дэкаратыўныя падсвечнікі "Чарадзей" А.Мызнікава, "Дэльфін" А.Раменчыка, "Начны матылёк" С.Аўсяніка, "Стыхія" А.Смяшкова. Упэўненасць пластычнай мадэліроўкі і чысціня мастацкай апрацоўкі ўражваюць у аздобленых раслінным арнаментам рамах для люстэркаў, выкананых А.Баранком, В.Лебедзевым, Д.Скабловым, В.Шараметам. У экспазіцыі выставы прадстаўлены і ўпрыгожаныя аб'ёмна-рэльефнай разьбой наборы мэблі, выкананыя В.Шышло, Г.Лебедзевым, Д.Івановым, Е. Смольскім.



А.Грышанава. Лейкі.

Адметныя аўтарскія манеры і выразная агульная стылістыка творчых пошукаў вылучаюць творы выхаванцаў керамічнай майстэрні. Асаблівая лёгкасць і нейкая незвычайная гуллівасць формапластычных пошукаў прыцягвае ў трыпціху А.Грышанавай "Лейкі" і дэкаратыўных гаршках Н.Макаранкавай. Манументальнасць вобраза, стылістыка, уласцівая творам сучаснай скульптуры, характарызуе парную скульптуру А.Спрынгера "Янус". Нібыта дотык да адвечных таямніц зямлі адчуваеш, углядаючыся ў творы паркавай скульптуры В.Падзвінскай "Камяні".

У экспазіцыі круглай залы музея прадстаўлена ткацтва. Тут можна ўбачыць габелены І.Кавалёвай, А.Сарафанавай, В.Скуратавай, серыю монакампазіцый Л.Бушманавай.

Некалі ў гарадах Беларусі налічвалася каля 200 спецыялізаваных відаў рамяства. Сёння, безумоўна, у многіх з іх патрэба адпала. Але тыя, што засталіся, па-ранейшаму прыцягваюць да сябе маладых, апантаных творчасцю майстроў, падкрэсліваючы іх жаданне рабіць высокамастацкія рэчы ўласнаручна. У наш час народныя рамёствы ўжо не могуць развівацца як мастацтва таленавітых адзіночак. Патрэбна пэўная колькасць майстроў для падтрымання традыцый, для развіцця таго ці іншага народнага рамяства ў шэрагу рэгіёнаў Беларусі. І чым больш майстроў будзе сканцэнтравана ў адным месцы, тым мацней пачнуць адраджацца і развівацца розныя віды рамёстваў, тым больш жыццяздольнымі будуць традыцыі беларускага народнага мастацтва.

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ,**
**кандыдат**
**мастацтвазнаўства**
*Віцебск*

**З пошты "К"**

# У ПАДВАЛЕ ДОМА, ДЗЕ РАЗМЯСЦІЛАСЯ СТУДЫЯ...

Гэта было амаль пятнаццаць гадоў таму, але мастак Віктар Чарнавокі добра памятае, як да яго аднойчы падышла купка ляхавіцкіх школьнікаў. Андрэйка Лях, пераступаючы з нагі на нагу, працягнуў стос выкананых на ватмане акварэляў. Уласных і сваіх дружбакоў-аднакласнікаў. Мастак зрабіў некаторыя заўвагі, даў парады, падбадзёрыў хлопцаў. А неўзабаве пабываў у абедзвюх гарадскіх школах, пазнаёміўся з астатнімі хлопчыкамі і дзяўчынкамі, якія валодалі пэўнымі мастацкімі здольнасцямі. Такіх было шмат.

Гэта і навяло Чарнавокага на думку стварыць гурток выяўленчага мастацтва. У падвале дома, дзе размясцілася студыя, чуўся непрыемны пах цвілі і задаўненай праслай бульбы. На прыданне закінутаму склепу больш-менш "боскага" выгляду пайшоў увесь месячны заробак Віктара Францавіча. Заробак наступнага месяца быў выдаткаваны на набыццё столікаў і мальбертаў.

Тры гады праводзіліся тут заняткі. І ніхто з вучняў не скардзіўся на кепскія ўмовы.

З цягам часу гурток ператварыўся ў школу мастацтваў, якая размясцілася ў добра абсталяваным прасторным памяшканні, дзе знайшлося месца не толькі юным жывапісцам, чаканшчыкам, скульптарам, але і харэаграфічнай групе. Нягледзячы на эканамічныя і фінансавыя цяжкасці, адшукаліся сродкі для падтрымання школы. Іх выдзелілі з раённага бюджэту.

Упершыню творчасць юных мастакоў атрымала вядомасць пасля шэрагу выстаў у 1990—93 гадах. Але станаўленне студыйцаў як мастакоў пачалося раней. Напачатку яны пісалі амаль адны дэкаратыўныя рэчы, узяўшы за аснову традыцыйныя прыёмы беларускага жывапісу. Аднак вузкія рамкі дэкаратыўнасці перасталі іх задавальняць. І яны пачалі шукаць свой індывідуальны почырк, вывучаць народную культуру, побыт, творы народных умельцаў: керамістаў, ганчароў, чаканшчыкаў, разьбяроў...

Два разы на год наладжваюцца прагляды работ юных мастакоў. У гэтых праглядах разам з выкладчыкамі бяруць удзел вядомыя майстры пэндзля. Аналізуючы творчасць дзяцей, настаўнікі адначасова шукаюць адказы на пытанні, як лепш пабудаваць заняткі, каб поўнасцю захаваць індывідуальны погляд кожнага дзіцяці. Гэта і зразумела, бо ад пачатковай падрыхтоўкі залежыць далейшы поспех, а менавіта: ці змогуць вучні паступіць у мастацкую вучэльню, каб прадоўжыць сваю адукацыю.

У ваколіцах Ляхаўскага раёна ёсць шмат помнікаў культуры і архітэктуры, гістарычных мясцін. Гэта дае мастакам-пачаткоўцам ідэальныя матывы для жывапісных кампазіцый.

Ляхаўская школа мастацтваў дала пуцёўку для далейшай вучобы ў спецыяльных ВНУ многім яе выпускнікам. У іх ліку Андрэй Лях, Таццяна Багушэвіч, Дзмітрый Круглей, Алена Ліпская. Атрымаўшы вышэйшую мастацкую адукацыю, яны зоймуцца выкладчыцкай дзейнасцю. А Дзіяна Бойка, Вольга Цымбаліст, Дзмітрый Бурвель, Генадзь Шадура ўжо скончылі адпаведныя навучальныя ўстановы і паспяхова настаўнічаюць у той самай школе, дзе атрымалі пачатковую адукацыю.

Выхаваўшы за некалькі гадоў працы надзейную змену, Віктар Францавіч арганізаваў пры раённым Доме культуры з ліку здольных дзяцей унікальную студыю ўжытковага і выяўленчага мастацтва "Апалон" і стаў яе кіраўніком. За параўнальна кароткі перыяд студыя стала сапраўдным цэнтрам эстэтычнага выхавання школьнай моладзі. Выхаванцы "Апалона" пастаянна ўдзельнічаюць у міжнародных конкурсах і заваёўваюць высокія ўзнагароды. Яны атрымалі залатыя медалі на конкурсах, што праводзіліся ў ЗША, Індыі, Галандыі. Дарэчы, "Апалон" — адзіная мастацкая студыя, якая атрымала Гран-пры на Міжнародным конкурсе "Мастацкая творчасць дзяцей", што нядаўна адбыўся ў Канадзе. Разам з творчым ростам "апалонаўцаў" павышаецца і аўтарытэт студыі. Яна заслужана носіць званне народнай. А яе кіраўніку нададзена званне майстра педагагічных навук, а таксама ганаровага доктара Японскай Акадэміі мастацтваў.

**Фёдар ЛАПАНІК**
*Ляхавічы*

Творчы марафон

# "РАСКРУЦІЦЬ СПАЧАТКУ СВАІХ!"

***У 1958 годзе ў сям'і Кацянёвых нарадзіўся сын Анатоль. Падлеткам ён марыў скарыць марскія прасторы. Паслухаўшы ж расказы сябра, курсанта лётнай вучэльні, Анатоль вырашыў стаць лётчыкам. Але лёс распарадзіўся інакш: дзякуючы шчасліваму выпадку, Анатоль Кацянёў стаў вядомым артыстам кіно і тэатра. Многія ведаюць і любяць фільмы з яго ўдзелам: "Сакрэтны фарватэр", "Матрос Жалязняк", "Дэжа вю", "Дэзерцір" і іншыя. І цяпер ён працягвае здымацца ў новых стужках, апошняя з іх — "Кахаць па-руску — 3". Паклоннікі маюць магчымасць убачыць гэтага акцёра не толькі на экранах, але і на сцэне Тэатра-студыі кінаакцёра.***

**— Ці думалі вы падчас вучобы аб сваёй акцёрскай будучыні? Аб якіх ролях у тэатры і кіно марылі?**

— Калі я быў студэнтам Свярдлоўскай тэатральнай вучэльні, у мяне было шмат прапаноў здымацца, ды і сам я вельмі гэтага хацеў. Але кіраўнік нашага курса Іван Міхайлавіч Тарханаў забараняў удзельнічаць у здымках: ён хваляваўся, каб яшчэ не моцны акцёрскі "арганізм" не зламаўся ў руках чужога рэжысёра. А я марыў здымацца. І толькі, калі ўжо здаваў апошнія іспыты ў школе-студыі, мяне зацвердзілі на невялікую ролю ў трохсерыйнай тэлевізійнай стужцы паводле апавядання Аляксея Рыбакова "Невядомы салдат". Гэта і была мая першая роля ў кіно. Але я не жадаў быць толькі тэатральным альбо толькі кінаакцёрам. Хацелася і першага, і другога. Таму, калі Барыс Луцэнка, на той час мастацкі кіраўнік Тэатра-студыі кінаакцёра, у 1984 годзе прапанаваў мне працу, я згадзіўся і пераехаў у Мінск. Я думаў, што акцёраў тэатра, які існуе пры кінастудыі "Беларусьфільм", будуць абавязкова здымаць у кіно. Гэта сапраўды так, але нас бяруць, зазвычай, на маленькія, другасныя ролі. Напэўна, гэтым можна патлумачыць невялікую колькасць галоўных ролей, сыграных мною на "Беларусьфільме". Летась у мяне была вялікая роля ў карціне Віктара Дзяругіна "Бег ад смерці", на жаль, больш такіх ролей узгадаць не магу.

**— Ці былі ў вас запрашэнні з іншых тэатраў, акрамя Мінска?**

— Так. Мяне запрашалі ў Ленінградскі тэатр камедыі, у маскоўскі — імя Массавета. Але, калі б я пагадзіўся, адразу ж узнікла б праблема з прапіскі, бо кіраўніцтва гэтых тэатраў не брала на сябе адказнасць за забеспячэнне жыллём.

**— Ці былі ролі, ад якіх вы адмаўляліся?**

— Не. Ад галоўных ролей я не адмаўляюся, толькі ад эпізадычных, малых па аб'ёме і, галоўнае, нецікавых.

**— А ці прапаноўвалі вы калі-небудзь сваю версію паводзін персанажа?**

— Ніколі. Проста, магчыма, такой ролі яшчэ не было.

**— Ці можна па вашых ролях меркаваць аб вашых чалавечых якасцях? Альбо ў жыцці вы — іншы?**

— Мяркую, што ў жыцці я значна больш складаны. Мае героі даволі прасталінейныя, так бы мовіць, недалікатныя. Гэта абумоўлена не маім жаданнем, а жаданнем рэжысёра бачыць менавіта такі вобраз.

**— Ці хацелася б вам выканаць больш шматгранную ролю?**

— Зразумела. Мне здаецца, пра гэта марыць кожны акцёр. Але я ведаю, што такое наўрад ці магчыма: мая знешнасць не дае падстаў для дэманстрацыі "псіхалагічнай" ігры. Ад Кацянёва ўсе чакаюць вобразаў рашучага, валявога чалавека. На жаль, у мяне няма магчымасці самога сябе здымаць у кіно — я магу толькі паспрабаваць паўплываць на рэжысёра. Здараецца, што рэжысёр прыслухоўваецца да майго меркавання, але звычайна — не, бо ён дакладна ведае, якога героя хоча бачыць на экране. Яўгену Мацвееву было трэба, каб у адной са сцэн стужкі "Кахаць па-руску — 3" я запаліў. А я не паліў ужо 15 гадоў. Некалькі рэпетыцый, некалькі дубляў з цыгарэтай, і — у мяне закруцілася галава, падкасіліся ногі... Усё ж — 15 гадоў.



**— Спадар Анатоль, вы працавалі з многімі рэжысёрамі. У іх ліку Кастраменка, Хейфец, Махульскі, Астрахан... Ці змянілася вашае стаўленне да іх пасля сумеснай працы?**

— Вось вы спыталі пра рэжысёраў, а гэта, як правіла, тычыцца і акцёраў. З аднаго боку, даведваешся пра рэжысёра з прэсы, тэлебачання, і складваецца пэўнае ўражанне. Калі ж непасрэдна сустракаешся з ім, то бачыш — гэта зусім іншы чалавек, якога пачынаеш спазнаваць на здымачнай пляцоўцы. Ёсць людзі, з якімі мне працаваць цяжка. Нядаўна ў мяне былі пробы на фільм Вячаслава Нікіфарава. Мне было з ім цікава: мы прыслухоўваліся адзін да аднаго. Спадзяюся, узнікла ўзаемная цікавасць. Але я магу зразумець і рэжысёраў, якія вызначаюць рамкі дзеяння акцёраў. І тады цяжка дадаць нешта сваё. Часам здаецца, што ў кадры я выглядаю ненатуральна, але потым, на экране, вобраз атрымліваецца пераканальным.

**— Ці хацелі вы калі-небудзь зрабіць свой фільм?**

— Так. Хацеў і нават спрабаваў. Пакуль нічога не атрымалася. Пяць гадоў таму мы напісалі сцэнарый да камедыйнай стужкі, але фінансавыя праблемы перашкодзілі ажыццяўленню гэтай ідэі. Цяпер здзейсніць здымкі вельмі цяжка. Але калі б з'явілася такая магчымасць — я б стварыў фільм у прыгодніцкім жанры.

**— Складваецца ўражанне, што з кіно вы звязаны больш, чым з тэатрам.**

— Не, гэта не так. У мяне адна, максімальна дзве карціны на год. А быў час, калі я паралельна здымаўся ў чатырох карцінах. З гэтай прычыны ў мяне было шмат праблем у тэатры... А цяпер я заняты толькі ў спектаклі Аляксандра Яфрэмава "Таленты і паклоннікі".

**— Чым вы займаецеся падчас вымушаных перапынкаў у асноўнай працы?**

— Дзецьмі. А яшчэ — малюю. У жывапісе я эксперыментатар, цікавяць таксама нацюрморты і пейзажы. Мой улюбёны мастак — амерыканец Эндру Уайт. Ягоныя палотны мне найбольш блізкія. А з айчынных — Шкаруба.

**— Магчыма, мы неўзабаве ўбачым вашую выставу?**

— Мабыць, не. Ведаеце, я займаюся выяўленчым мастацтвам не толькі таму, што душа просіць творчасці, але і таму, што сямейны бюджэт патрабуе грошай. Даводзіцца браць у рукі пэндзаль або вырабляць ювелірныя ўпрыгожанні, чым я і займаюся ў апошні час.

**— Ці цікавіць вас замежнае кіно?**

— Не вельмі. Мяне больш закранае тое, што адбываецца ў нас. Часам незразумела, чаму на старонках прэсы шмат увагі надаецца замежным акцёрам, а на сваіх нібыта забываюцца. Але ж ім, каб зрабіцца "зоркамі", патрэбная "раскрутка", і толькі потым можна зарабляць на іхнім таленце грошы.

**— А калі б вам прапанавалі "раскрутку"?**

— Я б пагутарыў з прадзюсерам і, калі прапанова аказалася б слушнай, згадзіўся б. Сёння неразумна адмаўляцца ад працы.

**— Уявім сабе, што вас паклікалі ў Маскву. Ці паехалі б вы?**

— Не.

**— Дакладна?**

— Так. У Мінску мне спакойна і ўтульна.

**— Як вы бавіце свой вольны час?**

— Не магу пахваліцца частымі візітамі ў тэатры. Я бачу, калі спектакль недароблены, недапрацаваны. Люблю хадзіць у свой тэатр, часам наведваю маскоўскія тэатры "Сатирикон" і "Современник".

**— Раскажыце, калі ласка, пра сваіх блізкіх.**

— Мая жонка — Святлана Бароўская, скончыла тэатральны інстытут. Так здарылася, што лёс звязаў яе больш з тэлебачаннем, чым з тэатрам. Святлана — тэлевядучая на БТ. Старэйшаму сыну Валодзю — 9 гадоў, а Кліму споўнілася паўгода.

**— А як Валодзя ставіцца да таго, што ягоны бацька — вядомы акцёр?**

— Ганарыцца, напэўна. А наогул, прызвычаіўся, для яго гэта — справа натуральная. Фільмы з маім удзелам ён любіць. Праўда, акцёрам быць не хоча. Але яму падабаецца здымацца разам са мной у рэкламе.

**— Лепшы час прысвяціць сябе сям'і — адпачынак. Якому адпачынку аддаяце перавагу?**

— З прычыны сваёй прафесіі я не ведаю, што такое адпачываць. Калі выдаецца вольны час, выязджаю з сям'ёй на Паўночны Каўказ, на мора. А ўвогуле, люблю спакойны адпачынак з вогнішчам, рыбалкай, калі вакол толькі прырода і цішыня. Мне хацелася б мець загарадны дом, але пакуль гэта толькі мара. Нягледзячы на імклівы тэмп майго жыцця, яно мяне задавальняе. Мая прафесія дазваляе адчуваць сябе вольным.

**— А што яшчэ цэніце ў чалавеку і ў акцёры?**

— Цаню ўменне быць шчырым, не хлусіць. Ёсць моманты, калі трэба сказаць: "Усё. Хопіць. Я больш так не магу. Гэта — хлусня". А яшчэ цаню акцёрскую цярплівасць. Паводле гараскопа я — Шалі: у маім характары ёсць і мёд, і дзёгаць.

**— Вы — мэтанакіраваны чалавек?**

— Так. Нягледзячы на ўсе слабасці, мяркую, у мяне ёсць унутраны стрыжань.

**— Ці ўсё ў вашай кар'еры адбылося згодна з нейкім планам, альбо — незалежна ад вас?**

— Усё адбывалася неяк стыхійна. Але вынікі падводзіць яшчэ рана. Веру, што ўсё яшчэ толькі пачынаецца.

**— А ў якога рэжысёра хацелася б "пачаць"?**

— У добрага.

**Ганна ВАШЧЫЛА,**
**Іна РАДЗЬКО**
**Фота Віктара ЗАЙКОЎСКАГА**

# АД ЛЕГЕНДАРНАГА РУРЫКА

Эдуард Падбярэзскі нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Прасвет Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці. Патрапіў у Вільню фактычна дзякуючы бацьку, які пасля Вялікай Айчыннай вайны многа пераязджаў і, ў рэшце рэшт, ажаніўся і застаўся жыць у гарадскім пасёлку Відзы Віцебскай вобласці. А гэта — тры кіламетры ад літоўскай мяжы. Таму, калі Эдуард адслужыў у войску, ён паехаў вучыцца не ў Мінскую, а ў Віленскую мастацкую вучэльню, бо гэта было нашмат бліжэй. Сёння ў літоўскіх мастацкіх колах, ды і ў беларускіх таксама, ён лічыцца фігурай аўтарытэтнай. Гэта пры тым, што ў яго няма вышэйшай мастацкай адукацыі. Напэўна, ягоная самая буйная праца захоўваецца ў віленскім касцёле святой Марыі і называецца "12 апосталаў". Кампазіцыя змяшчае аж 23 скульптуры, зробленыя са штучнага мармура. Па словах ягонай жонкі, ён не вельмі любіць выязджаць, таму і мала выстаўляе свае працы. Тым не менш, Падбярэзскі — удзельнік дзевяці калектыўных выстаў у Літве і аднойчы выстаўляўся ў Санкт-Пецярбургу. Ягоныя працы знаходзяцца ў прыватных калекцыях ЗША, Англіі, Швецыі, Францыі, Германіі, Японіі і іншых краін. Цяпер ён займаецца помнікам, які мяркуецца ўсталяваць да 2000-годдзя хрысціянства. Выява Ісуса Хрыста вышынёй 6 метраў 20 сантыметраў будзе зробленая з жалезабетону. Што цікава, робячы ўсё жыццё гэткія фенаменальныя рэчы, сам спадар Эдуард лічыць сябе ў першую чаргу акварэлістам.

**— Як магло так стацца, што ўсё жыццё вы займаецеся скульптурай, а больш любіце акварэль?**

— Вядома, што ўвесь час хочацца займацца выключна творчасцю. Але ж нічога не паробіш, жыццё дыктуе свае ўмовы, таму даводзіцца многа часу аддаваць скульптуры, якая для мяне, як нейкая баявая гаспадарка. Так штодня і ваюю — махаю мячом. А вось калі закатваецца сонейка і нараджаецца ноч, тады і стараюся збегчы ў другую майстэрню, дзе магу прысвяціць сябе цалкам акварэлі. Скульптура для мяне — не творчасць.

**— Але ж людзі так не лічаць...**

— Яны лічаць акварэль дзяцінствам. Мая акварэль робіцца пад уплывам усходняй філасофіі. Тут адчуванне поўнай еднасці прыроды і чалавека — гэта метафізіка. У хвіліны творчасці я адчуваю сябе ў гармоніі са светам.

**— А якія ёсць у вас праблемы, акрамя нястачы часу?**

— З матэрыялам асаблівых праблем няма. А вось хацелася б мець больш цікавых прапаноў. Патрэбны праекты. Напрыклад, гэткія, што ажыццяўляе цяпер скульптар Цэрэтэлі.

**— Наколькі я ведаю, за вашымі скульптурамі едуць з розных краін, нягледзячы на вашае стаўленне да гэтага віду творчасці.**

— Так, людзі знаходзяць мяне самі. Гэта нейкая містыка.

**— І былі нейкія цікавыя прапановы?**

— У 1992 годзе прыязджалі з Мінска і прапаноўвалі пераехаць жыць на Беларусь. Давалі беспрацэнтны аванс, транспарт з грузчыкамі. Прапаноўвалі кватэру ў любым раёне Мінска, абы пагадзіўся. Меркавалася, што я буду займацца скульптурамі для беларускіх касцёлаў. І быццам бы ўжо мільгацела думка... Але ж адзін знаёмы габрэй адгаварыў. Ён сказаў коратка і зразумела: "Вось бачыш свой чаравік з віленскім брудам? Бачыш? Будзеш яго пасля цалаваць". Важкі аргумент. А для дзяцей было толькі адно галоўнае пытанне, ці ёсць там цырк?

**— У савецкія часы было проста займацца скульптурамі для касцёлаў?**

— Не. Тады было ўсё інакш. Я нават не мог уступіць у Саюз мастакоў, бо ўвесь час працаваў у касцёле, на тыя часы заканадаўствам было прадугледжана сем гадоў турмы за прапаганду рэлігіі. Па законах тых часоў сёння мне, напэўна, маглі б даць пажыццёвую турму, бо скульптуры знаходзяцца ў шмат якіх касцёлах — у Ашмянах, Гальшанах, Армянах, Вілейцы, Маладзечне, Удзіла, Пасар. А ў Мінску — на кафедральным касцёле скульптура дзевы Марыі.

**— А ёсць цікавыя выпадкі, звязаныя з творчасцю?**

— Былі сны, дзе сніў свой алтар "12 апосталаў". Бачыў дасканала, як ён выглядае. І гэты праект я ажыццявіў роўна праз пяць гадоў пасля сну. Было аднойчы, што памёр у начы. Па-сапраўднаму — не ў сне. Адчуваў сябе шарам. Мабыць, быў нейкі астральны выхад з цела. Пасля гэтага я зразумеў, што душа не мае смерці. І стала зусім інакш пасля жыць на гэтым свеце. Асабліва працаваць са скульптурай. Трохметровы манумент зрабіў за два тыдні. Быў яшчэ цікавы выпадак, калі мяне ў 1979 годзе арыштавалі. Некалькі дзён трымалі ў КПЗ. Прычым гэта было звязана з апошнімі працамі. Я тады вырабіў некалькі мемарыяльных каталіцкіх крыжоў са скульптурамі у Пасвальскім і Біржайскім раёнах. Выратавалі мяне рэпартажы, што прагучалі па Радыё Свабода і Радыё Ватыкан.



*Праект помніка да 2000-годдзяхрысціянства.*

**Зміцер ВІШНЁЎ**
*Мінск — Вільнюс — Мінск*

**P.S.** Дарэчы, па бацькавай лініі спадар Падбярэзскі паходзіць ад знакамітых беларускіх князёў Падбярэзскіх або Друцкіх, што маюць карані генеалагічнага дрэва ад легендарнага Рурыка.

**З.В.**

# РУТА Ў ЖЫЦЦІ АДАМА МІЦКЕВІЧА

Паміж Карэлічамі і Навагрудкам, прыкладна на аднолькавай адлегласці, ляжыць вёска Рута. З ёю, а дакладней, з маёнткам Рута, які знаходзіўся некалі недалёка ад аднайменнай вёскі, звязаны імёны людзей, вядомых ва ўсім свеце. У 1574 годзе тут нарадзіўся беларускі пісьменнік, уніяцкі мітрапаліт Іосіф Вельямін Руцкі.

А ў пачатку XIX ст. у Руце шмат разоў бываў Адам Міцкевіч. У 1812 годзе, калі памёр бацька паэта, Адаму ішоў 14-ы год, ён быў вучнем Навагрудскай дамініканскай школы. А паколькі ў сям'і ў гэты час былі матэрыяльныя цяжкасці, Адам стаў рэпетытарам вучняў малодшых класаў. З гэтай пары шмат часу ён праводзіў у свайго апекуна, суддзі Медарда Растоцкага ў маёнтку Рута. Бывалі там і іншыя члены сям'і Міцкевічаў. Пазней паэт прыязджаў сюды ў час канікулаў і на святы.

Звернемся да перапіскі Адама Міцкевіча, каб упэўніцца ў тым, што Рута неаднаразова ўзгадваецца ў лістах паэта і блізкіх яму людзей. Пасля заканчэння Віленскага універсітэта Адам Міцкевіч стаў выкладчыкам Ковенскай гімназіі і, адарваны ад сяброў-філаматаў, вёў з імі ажыўленую перапіску.

У кастрычніку 1819 года паэт пісаў свайму сябру Ю.Яжоўскаму, што правёў 5 дзён у вёсцы, дзе сёе-тое напісаў. Даследчыкі творчасці Адама Міцкевіча мяркуюць, што месцам яго пяцідзённага знаходжання была менавіта Рута.

А ў лісце паэта да Яна Чачота ад 10 лютага (2 сакавіка) 1820 года чытаем: "Розныя абставіны справы філаматаў ледзь далі мне магчымасць адказаць на твой апошні ліст. А цяпер трэба яшчэ напісаць у Навагрудак і Руту".

Брат паэта, Аляксандр, у траўні 1820 года пісаў яму з Вільні аб тым, што іх брат Францішак прыехаў у Руту і там захварэў.

Зімой 1821 года (каля 25 студзеня/ 6 лютага) Ігнат Дамейка паведамляў паэту з Вільні: "Пазнаёміўся з тым, у каго ты праводзіш канікулы, здаецца, Растоцкім. Доўга гутарылі пра цябе, ён сказаў табе кланяцца, а таксама кланяюцца яшчэ некалькі асоб".

Тут, у Руце, Адам Міцкевіч бываў у самыя цяжкія для яго дні, пасля смерці маці, а пазней пасля таго, як развітаўся назаўсёды са сваёй каханай Марыляй Верашчака. Доўга не мог апамятацца паэт пасля апошняга наведвання Навагрудка летам 1821 года, бо ніхто не сустрэў яго, як раней, і не сказаў яму цёплых слоў. Моцная туга ахапіла сэрца паэта. У лісце да Яна Чачота, напісаным у гэты час (каля 25 ліпеня / 6 жніўня 1821 года), знаходзім радкі: "Збег у Руту, тут (у Навагрудку) не вытрымаць ні дня".

Тады ж, у канцы ліпеня 1821 года, Адам Міцкевіч наведаў Туганавічы, аб чым паведаміў Яну Чачоту: "З Руты паехаў у Туганавічы, у варотах сустрэў экіпаж і адразу ж пазнаў, а хутчэй адчуў, што там была Марыля. Не ведаю, што са мной зрабілася".

У Э.Хлапіцкага ёсць апісанне маёнтка Рута: "Руцянскі двор, абсаджаны ўздоўж дарогі прыгожымі таполямі, знаходзіўся на адным з лясных узгоркаў. Бор за ім, ручай унізе і сад з векавымі грушамі вакол яго рабілі гэты куточак надзвычай прывабным".

Пазней, у Парыжы, за некалькі гадоў да смерці, любуючыся цудоўнымі лясамі Фантэнбло, Міцкевіч параўноўваў іх з прыродай Руты, прычым параўнанне гэта было на карысць Руты.

Калі нават у апошнія гады жыцця паэт так захапляўся прыродай Руты, дык зразумела, што ў той час, калі ён пачаў работу над паэмай "Пан Тадэвуш" (1823 г.), родныя краявіды паўставалі перад ім ва ўспамінах яшчэ больш ярка, і гэта не магло не знайсці адлюстравання ў творы.


POEZYE

ADAMA MICKIEWICZA.

TOM PIERWSZY.

WILNO

Першае выданне "Паэзіі" Адама Міцкевіча.

Адам Міцкевіч не толькі шчыра захапляўся прыгажосцю Руты і быў моцна прывязаны да Медарда Растоцкага, якога называў "сваім любімым апекуном", ён увекавечыў Руту ў сваёй першай баладзе "Люблю я", напісанай у 1819 годзе, і ва ўступным да яе вершы пад назвай "Да сяброў".

Напалоханы хваробай Яна Чачота, 20 снежня 1819 года (1 студзеня 1820 г.) паэт пісаў яму з Коўна, што, убачыўшы дрэнны сон, доўга не мог заснуць і ў тую ноч напісаў дзве караценькія балады, абяцаючы адну з іх дапрацаваць і прачытаць сябрам. Вядома, што ўпершыню Адам Міцкевіч прачытаў баладу "Люблю я" ў Вільні 27 снежня 1819 г. (8 студзеня 1820 г.) на пасяджэнні "Саюза сяброў."

Балада мае форму расказа, звернутага да каханай:

*Бачыш, Марыля, ля самага гаю*
*Вербы ўзнялі свае шаты,*
*Рэчка віецца далінаю з краю,*
*Мосцік над рэчкай гарбаты.*

Дзеянне адбываецца ў Руце, каля старой царквы на могілках, дзе ў паэта зламалася брычка.

*Ехаў да Руты аднойчы я позна,*
*Коні спыніліся штосьці,*
*Фурман дарэмна крычыць на іх грозна,*
*Ляскае пугай на мосце.*

Засмучаны тым, што давядзецца начаваць у такім жахлівым месцы, паэт усклікнуў: "To lubię!" ("Люблю я!"), у сэнсе: вось гэта мне падабаецца! Пасля гэтых слоў перад ім з'явілася здань і падзякавала за тое, што ён пазбавіў яе пакут пекла словамі "люблю я!". А прычынай пакут было тое, што некалі дзяўчына, абыякавая да слёз і адчаю чалавека, які яе моцна кахаў, загубіла яго жыццё.

Ствараючы гэтую баладу, паэт, душа якога ўвесь час знаходзілася паміж надзеяй і адчаем, нібы прадбачыў тыя пакуты, якія прынясе яму каханне да Марылі Верашчака.

Вядома, што балада была спачатку напісана для нейкай Іагасі, шляхцянкі, якая была першым юнацкім каханнем Міцкевіча, але потым паэт зняў прысвячэнне Іагасі, і ў вершы "Да сяброў" з'явілася імя Марылі.

Цікава тут успомніць пра адзін выпадак з жыцця Адама Міцкевіча, які мае дачыненне да гэтай балады. Аднойчы летам у Руце, не знайшоўшы раніцай свайго адзення, паэт апрануў белае адзенне пана Растоцкага і ў такім выглядзе рушыў у поле. Калі ён быў на мосціку, што апісваецца ў баладзе, то ўбачыў сына мясцовага святара. Схаваўшыся пад мосцік, Адам Міцкевіч так напалохаў хлопца, што той нават страціў прытомнасць, бо яму здалося, што перад ім з'явілася здань. Пазней гэты выпадак, а таксама народныя паданні далі штуршок для стварэння цудоўнай балады. (Гэты эпізод прыгадаў у сваёй кнізе Л.Падгорскі-Аколаў.)

Але не толькі ў баладзе "Люблю я" паэт успамінаў Руту. Той жа даследчык лічыць, што апякун паэта Медард Растоцкі паслужыў прататыпам вобраза Суддзі ў паэме "Пан Тадэвуш", а судовы працэс, які адбываўся з апекуном А.Міцкевіча, лёг у аснову працэсу, пра які гаворыцца ў паэме.

Справа ў тым, што Медард Растоцкі валодаў маёнткам Рута незаконна і вымушаны быў на працягу многіх гадоў судзіцца за яго, бываць у сувязі з гэтай справай у Пецярбургу. Міцкевіч чуў расказы апекуна пра гэты горад, ведаў пра судовы працэс Растоцкага, і ўсё гэта настолькі глыбока адклалася ў яго памяці, што так ці інакш павінна было знайсці адлюстраванне ў яго творчасці.

У Гродзенскім гістарычным архіве мне ўдалося адшукаць дакументы, якія дазволілі прасачыць гісторыю судовага працэсу Медарда Растоцкага. Як сведчаць дакументы, маёнтак гэты з 1789 года належаў мітрапаліту Феадосію Растоцкаму, які купіў яго ў ліфляндскага скарбніка Іпаліта Дамейкі за 28 тысяч злотых. Медард Растоцкі, пляменнік мітрапаліта, стаў гаспадаром Руты ў 1803 годзе па падложнай даравальнай. У 1816 годзе ў маёнтку, які новы гаспадар назваў "зялёнаю Рутай", налічвалася 79 душ мужчынскага полу і 76 — жаночага.

Даведаўшыся пра ўчынак пляменніка, сапраўдны гаспадар Руты, які ўвесь час жыў у Санкт-Пецярбургу, падаў у суд скаргу і ў 1804 годзе склаў завяшчанне, згодна з якім перадаваў Руту ў спадчыну свайму роднаму брату, маёру Раману Растоцкаму. Апошні ў той час знаходзіўся на ваеннай службе ў Саксоніі і не мог супрацьстаяць дзеянням Медарда Растоцкага, аднак перад смерцю завяшчаў маёнтак чатыром сваім сёстрам.

Судовая справа наконт валодання маёнткам распачалася ў 1803 годзе і цягнулася каля 30 гадоў. У 1829 годзе было вынесена рашэнне адабраць маёнтак у Медарда Растоцкага, тым не менш справа працягвалася. У рэшце рэшт, у 1834 годзе Сенат прапанаваў перадаць чацвёртую частку маёнтка аднаму з сапраўдных спадчыннікаў — памешчыку Корчыцу ("Справа аб спрэчцы паміж памешчыкам Корчыцам, Пржацлаўскім і Растоцкім аб м.Рута і Бабнева" ад 22 чэрвеня 1834 г. — 28 лютага 1835 г.) (Ф.2, воп.21, спр.201).

Справа гэтая датуецца 1835 годам, а з ліста А.Адынца да Францішка Міцкевіча ад 2 верасня 1836 года даведваемся, што Растоцкі памёр. "Ведаю ад Адама, — пісаў Адынец, — наколькі Растоцкі быў дарагі для ўсіх вас".

Застаецца дадаць, што дом, у якім жыў Медард Растоцкі і ў якім часта бываў Адам Міцкевіч, не захаваўся. Апошнія яго ўладальнікі, паны Пашкоўскія, загінулі ў 1939 годзе, а ў 40 —50-я гады, пасля вайны, будынак разабралі на будаўніцтва жылля вяскоўцы.

На месцы гэтага дома на ўзгорку расце цяпер адзінокі клён, побач разрасліся кусты шыпшыны. Сціплыя яе кветачкі цвітуць кожны год, ствараючы своеасаблівы прыродны помнік паэту, крылы якога раслі і мацнелі менавіта ў гэтых мясцінах. А ў вёсцы Рута адна пажылая жанчына, паказаўшы ў бок выгану, сказала мне: "Вось там некалі былі могілкі, каля якіх у Міцкевіча зламалася брычка". Слядоў гэтых могілак таксама не засталося.

Але засталася цудоўная балада Міцкевіча, у якой ён увекавечыў Руту назаўсёды.

**Святлана КОШУР, старшы навуковы супрацоўнік Карэліцкага краязнаўчага музея "Зямля і людзі".**

# ШТО Б СКАЗАЎ СЁННЯ ГАЛУБОК?

Мы пісалі ўжо пра Уладзіслава Галубка, што ён вучыўся дзе толькі можна як мастак-пейзажыст і як артыст, калі наездамі бываў у Маскве ці Ленінградзе. Яму не падабаўся Меерхольд тым, што ён як рэжысёр спрошчваў сэнс п'есаў Астроўскага, даводзячы іх да абсурду.

У п'есе "Лес" не было ніякіх дэкарацый, ніякіх падвесных заднікаў. Сцэна стаяла пустая, як шалупайка ад яйка. Між тым, на фанернай скрыні з прыступкамі сядзелі Аркашка ды Нешчаслівцаў — лавілі рыбу. Ні вудаў, ні іншых прыналежнасцей у гэтых рыбакоў не было. Адной толькі мімікай ды жэстамі дасягалася ўражанне лоўлі. Быццам бы жывы вялікі лешч трапятаўся ў руках Аркашкі. Трымалася п'еса толькі таму, што выканаўцамі ролей былі знакамітыя артысты, якія быццам трымалі экзамен перад журы ў тэатральным інстытуце, дзе без ніякіх прыладаў трэба "сыграць ролю" заўзятага рыбака. Калі мы глядзелі гэты спектакль з Галубком, ён увесь час ірваўся пакінуць глядзельную залу і бегчы дадому, гаворачы: "Што гэта за відовішча, калі глядзець няма чаго?".

У той час існавала шмат якіх тэатральных гурткоў. Былі "Сіняя блуза", "Трам" — тэатр рабочай моладзі. Тады ж узніклі канцэртныя ансамблі, групы эстрадных і цыркавых артыстаў. Усё гэтае рушыла з цэнтра на ўскраіны, не мінаючы шматлікіх мястэчкаў. Нейкія куплетысты, чачотачнікі, асілкі, гіпнатызёры і фокуснікі выступалі перад пачаткам кінафільмаў. Тое самае было і ў літаратуры. З'явіліся розныя імажыністы, акмеісты, на Беларусі таксама ўзніклі "Узвышша" і "Маладняк".

Гэтыя літаратурныя згуртаванні не толькі адстойвалі свае пазіцыі, але яшчэ і вялі барацьбу з тымі згуртаваннямі ці асобнымі пісьменнікамі, якія не спавядалі ідэі сваіх супрацоўнікаў.

Так было і з Галубком, якога "крытыкавалі" за меладрамнасць, адсутнасць у ягонай драматургіі наватарства, быццам бы ён не разумеў сучаснасці і цягнуў назад, губляў рэвалюцыйнасць у кожным сваім творы.

Неяк пад ціскам маладнякоўцаў ён, прыйшоўшы дамоў са сходу, ускрыкнуў: "Маладняк, каб ты ня ўзрос!" А між тым, праз нейкі час ён падаў заяву, каб яго прынялі ў гэтае літаратурнае згуртаванне: "У Мінскую філію Усебеларускага літаратурнага згуртавання Маладняк. Заява Галубка Уладзіслава Іосіфавіча. Лічыў бы за вялікі гонар быць маладнякоўцам — прашу залічыць мяне ў склад сяброў гэтага згуртавання. 1.10.1926 г. У.Галубок".

Што прынудзіла Галубка ў свае 44 гады зрабіцца маладнякоўцам, цяжка здагадацца, ён жа ўсё роўна быў рэвалюцыянерам у сваёй творчасці. Але трэба было, каб і вонкава ён лічыўся ў шэрагу наватараў, каб усім было бачна, што ён падзяляе свае думкі з маладнякоўцамі і таму крочыць разам з імі ў шарэнгах згуртавання.

У выяўленчым мастацтве тых часоў было тое самае, што і ў літаратуры. Кубізм і супрэматызм разам з натуралізмам. Розныя групоўкі накшталт "Макавец" у Маскве, АХР і ОМАХР, розныя нацыянальныя згуртаванні, а ў Беларусі — РОМБ. Што гэта было паказальнікам вольнасці мастацтва, ніхто не аспрэчваў, наадварот, мы зараз дзівімся, што ў Беларусі былі Пэн і Шагал, Рушчыц і Сергіевіч, Дучыц і Сеўрук, Малевіч і Юдовін, Мінін і Фогт, Волкаў і Эндэ і шмат іншых, хто быў на процілеглых пазіцыях. Але гэтая шматлікая палітра фарбаў толькі садзейнічала развіццю мастацтва хараства, пошукаў выразнасці ў нацыянальных мастацтвах.

Вядома, што такі стан мастацтва ў краіне ніяк не задавальняў партыю бальшавікоў. Патрэбна было кіраваць ідэалогіяй, а калі яе няма, дык трэба разагнаць існуючыя вольныя саюзы, згуртаванні, групоўкі і стварыць адзін Саюз савецкіх мастакоў як ідэалагічную арганізацыю. Савецкія мастакі павінны былі забыцца, што кожны з іх належыць да сваёй нацыі. Рэалізм павінен быў стаць сацыялістычным, а яшчэ лепей, каб ён быў да таго і партыйным.

Так у 1932 г. заклаўся падмурак Саюза савецкіх мастакоў. Праз мастацтва ішоў уплыў на стварэнне новай ідэалогіі. Гвалтоўна навязвалася творцам нешта такое, што не мела ніякага дачынення да асобы мастака. Усім мастакам, розным па сваёй сутнасці, прапаноўвалася нейкая адзіная тэорыя, якая на практыцы не сумяшчалася з творчасцю, але добра кантралявалася зверху. Словам, "хто не з намі, той супраць нас".


У.Галубок. 1924 г.

Сацыялістычны рэалізм тлумачыўся, быццам бы, проста. "Нацыянальнае па форме, сацыялістычнае па змесце" мастацтва забяспечвае ўвогуле ўсю канцэпцыю ў тэорыі, а таксама і ў практыцы. Мастацтва павінна быць ваяўнічым, стаяць на баку інтарэсаў пралетарыята за сацыяльную справядлівасць. А што датычылася формы, дык тут цяжка было зразумець, у чым павінна выяўляцца нацыянальнасць гэтай духоўнай пазіцыі. Гэтая катэгорыя адносіцца да пачуццяў, якіх так многа, як многа мастакоў, якія маюць свой густ, свой светапогляд. Што ж атрымалася? Дый тое, што застаўся толькі "сацыялістычны" змест без самога мастацтва. Сродкі выяўлення засталіся слабымі, не здольнымі данесці да гледача сутнасць хараства.

Такім чынам, форма ёсць галоўнае ў мастацтве. Той мастак, які валодае формай, валодае майстэрствам, таму падпарадкоўваецца і змест сам па сабе. Вось чаму творы мастака-"фармаліста", які распрацоўвае форму, глядзяцца і без назвы. Адно спалучэнне фарбаў ёсць ужо і змест, які выклікае ў гледача пачуцці далёкага мінулага дзяцінства ці нейкіх перажытых (гледачом) падзеяў.

Цікава было б паглядзець, як меркаваў бы Уладзіслаў Галубок аб стане выяўленчага мастацтва сёння, калі мы адмовіліся ад сацрэалізму, ад партыйнасці ў мастацтве?

**Яўген ЦІХАНОВІЧ, мастак**

ЯН ТАПАРОЎСКІ

# СПРАВА АБ ЗАБОЙСТВЕ ІЕГУДЫ ПЭНА

*(Працяг. Пачатак у "Культуры" ад 10.10 98 г., № 39.)*

**ІНТЭРВ'Ю СА СПАДАРЫНЯЙ S**

**— Што вы ведаеце аб "справе"?**

— Мой бацька родам з Віцебска, наколькі мне вядома, жылі там некалькі пакаленняў гэтай сям'і. Калі ён скончыў школу, то паехаў вучыцца ў Мінскі універсітэт, і там ён вучыўся на журналістыцы і прыязджаў на канікулы ў Віцебск да бацькоў. Там ён сустракаўся з гэтай дзяўчынай, пляменніцай Пэна, і калі яна яго ўблытала ў гэтую справу, яго арыштавалі. Ён быў студэнтам. Калі яго вызвалілі, ён вярнуўся ў Мінск, але адносіны былі, наколькі я разумею, нядобрыя да яго, і ён перавёўся ў Ленінградскі універсітэт. І там ён пазнаёміўся з мамай. Яна таксама была з Беларусі, і яны...

**— Потым ваша мама паехала нараджаць да яго бацькоў?**

— Так, да яго. Чаму не да сваіх, я не ведаю. Паехала на роды з Кіева. Калі ён скончыў універсітэт, яго прызвалі ў армію і яго часць была... Ён быў у Кіеўскай ваеннай акрузе. У доме журналістаў яны жылі... Я там, калі была па рабоце, гады тры-чатыры таму, паехала на гэтую вуліцу паглядзець, адкуль мама ўцякала са мной ад немцаў.

Калі мама паехала нараджаць, яна — не ведаю, колькі яна там была, у мяне метрыкі з Віцебска — яна вярнулася ў Кіеў, мы жылі ў Кіеве, у доме журналістаў, і ён працаваў у газеце.

Ён пісаў у часопіс, ёсць адзін верш пра фінскую вайну.

**— Што ён расказваў маці з нагоды гэтай гісторыі?**

— Фактычна яшчэ два гады таму я асабіста нічога не ведала. Толькі ведала, што ён прапаў без вестак. Мы не ведалі нічога. Ён знік. На працягу ўсёй вайны — ніводнага ліста. У канцы вайны ёй паведамілі, што — ці ён прапаў без вестак, ці загінуў — не памятаю...

Ён нас праводзіў у Кіеве, калі ён...

Я ведаю ад мамы, яна шмат мне гаварыла пра суд, што быў цэлы сшытак дома, і яна так шкадуе, што калі чамаданчык збіралі, гэта пакінула, сшытак з яго запісамі падчас суда. Але самае галоўнае — там была яго заключная прамова, бо адваката ён не ўзяў: ён сам сабе быў адвакатам, і ўсе гаварылі пра гэтую прамову...

**— Вы сказалі мне па тэлефоне, што, калі мама вас нарадзіла, здарылася нешта, звязанае са "справай Пэна". Паўтарыце свой расказ больш падрабязна.**

— Прыбеглі ў той дзень, калі яна нарадзіла, ці на другі-трэці дзень. Прыйшлі нейкія людзі ноччу, пастукаліся і сказалі, што ваша нявестка пры смерці — і пабеглі ноччу мая бабуля і цётка — маміна сястра ў бальніцу і ўзнялі шум: дзе і што? Вядома, было ўсё ў парадку, і тады забаранілі прымаць перадачы маме — ні ад каго. Гэта мама помніць — і не ведаю, ці перавялі яе — не помню. Сталіназіраць за ёй, таму што, відаць, можа, тады і разабраліся, чаму і што, але было ясна, прайшоў толькі год ці паўтара, сваякоў Пэна было вельмі многа. Ён іх фактычна выдаў, ці не выдаў — але, відаць, вялікую ролю адыграў у тым, каб іх... Ён быў галоўны сведка — галоўны не галоўны, не ведаю, але тое, што я зараз бачу, — і хацелі атруціць. Гэта мама да сённяшняй пары... Ужо ёй 80 гадоў, такая ўжо памяць у яе. Але ёсць рэчы, якія яна памятае. Гэтую гісторыю яна мне распавяла і зараз паўтарыла. Калі я сказала, што яе хацелі атруціць, яе і, відаць, мяне. Адпомсіць яму за гэта. Вось і ўсё.

**— А ваш бацька ніякіх падрабязнасцей, апрача сшытка, які застаўся, маме не расказваў? Напрыклад, як яго ўцягнулі ў гэтую гісторыю?**

— Я паспрабую, зараз я буду там. Ага, хто яшчэ можа інфармацыю даць — гэта яго брат — дзядзька Ізя, які знаходзіцца ў Чкалаве.

**— Як вы да гэтай гісторыі ставіцеся? Вы верыце, што сваякі Пэна вырашылі яго забіць за грошай?**

— Трэба быць аб'ектыўнай. Я не вельмі магу быць аб'ектыўнай — па-першае, па дзвюх прычынах, не таму, што ў мяне пачуццё віны, што мой бацька — ён, нібыта — можа, гэта было не так, і ён даў паказанне, што... Ясна, што ён сказаў праўду. Брат бацькі гаворыць, што ён з усіх быў ягоны любімец. І жанчына Хая. Я званіла ёй. Яна кажа, што яго не толькі ў судзе вынеслі, як яна піша, — яна гаворыць, што яго вельмі паважалі і любілі...

**— Ён быў вядомы як журналіст?**

— Так, як журналіст, як чалавек. Ён пісаў вершы. Ён быў любімы. Вось яго брат — ён хімік, а мой бацька, відаць, быў вельмі красамоўны. Таму што вось тое, што мама гаварыла, не толькі яго прамова, усе гаварылі пра яго прамову, не ў сэнсе фактаў, што ён паведаміў, а ў сэнсе красамоўнасці, самой прамовы, разумнай і ўсё. Ён быў прыгажун, ён быў улюбёнец, сярод яўрэяў. Яго шмат хто ведаў. Тое, што ён бачыў пальчаткі, дык я тут не...

Другі пункт гледжання — чаму я не магу быць аб'ектыўнай, працуючы ў (назва арганізацыі. — **Я.Т.**) столькі гадоў, атрымоўваючы дакументы, я ведаю гісторыю Расіі і ведаю ўсе гэтыя гады Ягоды і яжоўшчыны і тое, што было з яўрэямі.



І. Пэн. "Стары салдат".

**КАМЕНТАРЫЙ СПЕЦЫЯЛІСТА**

**Леа Словін**, адвакат, Іерусалім:

*"Калі б мы мелі ўсе дакументы, звязаныя са "справай Пэна", то можна было б зрабіць пэўныя высновы. Але ўсіх дакументаў няма. І таму можна толькі выказаць свае ўражанні. Размова ідзе пра 1937 год, пра вядомага мастака-яўрэя Іегуду Пэна, значная частка работ якога прысвечана яўрэйскай тэме. Зразумела, ні яго папулярнасць, ні яго яўрэйская тэма не маглі задавальняць улады.*

*У апублікаваных дакументах кідаецца ў вочы ўдзел НКВД у крымінальнай справе, якой па палажэнні павінна займацца пракуратура. Звяртае на сябе ўвагу і экстрэмальнасць абвінаваўчай версіі, па якой забойцай з'яўляецца 18-гадовая дзяўчына, якая надзявае пальчаткі, "каб не было відаць, што рукі ў крыві". Гэта настолькі экстрэмальная версія, што яна тут жа выклікае лагічнае і псіхалагічнае сумненне. Але гэта ўсё эмацыйныя ацэнкі. Калі гаварыць аб прафесійнай ацэнцы, то, як я ўжо вам сказаў, для гэтага трэба бачыць усе матэрыялы справы.*

*Цяпер наконт апублікаваных дакументаў. Мова паказанняў на вочных стаўках ніякім чынам не можа быць мовай сведкі, або абвінавачанага, або падазраваемага, ні ў якім выпадку. Гэта клішыраваная мова следчага. І таму не выклікае ніякіх сумненняў: тое, што на вочнай стаўцы гавораць падазраваемыя, асабліва брат Абрам, — усё гэта гаворыцца пад дыктоўку. Ці то гэта напісана следчымі — і падазраваемы падпісаў, ці то падазраваемага прымусілі загадзя гэта вывучыць — але гэта, канешне, не яго мова і не яго паказанні. Гэта зразумела.*

*Ды галоўнае — гэта не тое, што ёсць, а тое, чаго няма ў дакуменце. Напрыклад, усе сцены дома былі абвешаны карцінамі. Калі б яны былі зняты са сцяны, то на сцяне заставаўся б след, што там вісела карціна: цвік або цёмны простакутнік, пакінуты карцінай. Але пра гэта ў пратаколе не згадваецца. Значыць, няма ніякіх падставаў лічыць, што хаця б адна карціна была знята або ўкрадзена. Апрача гэтага — камісія ж зрабіла спіс яго карцін. Тады першае, што робяць, — гэта карціны, якія былі выяўлены пасля забойства, звяраюць з пералікам. Але ў пратаколе пра гэта ні слова. У дакументах ёсць незразумелыя рэчы: напрыклад, Неха гаворыць, што яе "брат расправіў шалік на шыі Пэна і, адгарнуўшы каўнер кашулі, перарэзаў нажом горла", а на трупе выяўлены шалік, завязаны вузлом. У мяне ствараецца вельмі цяжкае ўражанне, узнікае сур'ёзнае падазрэнне, што гэта сфабрыкаваная справа.*



І. Фейгін і І. Пэн (справа).

**ЗВАНОК У РЭДАКЦЫЮ**

**Элізабет Перлін**, мастачка:

*"Справа ў тым, што я мастачка. Я займалася ў свой час у вучня Пэна. Быў такі віцебскі мастак Ісаак Бароўскі. Ён памёр у 1990 годзе. Ён шмат што распавядаў пра "справу Пэна". Але самае галоўнае — ён, Бароўскі, прысутнічаў на пахаванні Іегуды Пэна. Бароўскі быў адным з ягоных лепшых вучняў. Ён гаварыў, што Іегуду Пэна забіў КДБ (НКВД. — **Я.Т.**). Мала ж хто ведаў, што ў Пэна, як распавядаў Бароўскі, вочы былі выкалаты, увесь твар быў забінтаваны — на пахаванні Бароўскі стаяў каля труны свайго настаўніка. Бароўскі гаварыў, што толькі кончык носа не быў забінтаваны. Усё астатняе было пакрыта бінтамі — яго поўнасцю знявечылі. А ўсе — сваякі — гэта падстаўное. Гэта ж быў 1937 год, гаварыў Бароўскі, і Пэна трэба было забіць. Так, ён распавядаў, што Марк Шагал вельмі дапамагаў свайму настаўніку Пэну. Марк Шагал нават прысылаў яму грошы.*

## Тайны 37-га года

*У 1937 годзе Шагал прыслаў ліст. Але ў абкам партыі, у якім прасіў аказаць дапамогу Іегудзе Пэну: "Гэта вельмі добры мастак". А Пэна, натуральна, і прыбралі на той свет.*

*Яшчэ я хачу вам сказаць, што ведаю чалавека, які сустракаўся з Нехай — той самай пляменніцай, якую абвінавацілі ў забойстве, і ўзяў у яе інтэрв'ю..."*

*(Працяг будзе.)*



**З гэтых велізарных палотнаў на нас глядзяць адны і тыя ж чырвоныя, зялёныя, сінія персанажы, падобныя да жудасных зданяў. Яны палохаючыя і безабаронныя. На іх пысах адначасова пакута і змірэнне, нецярпімасць і інфантыльнасць, агрэсіўнасць і паслухмянасць, агіднасць і невынішчальная ўпэўненасць ва ўласнай магутнасці. Моцныя шыі, расплюшчаныя баксёрскія насы, нізкія лбы, цяжкія падбародкі; фанатыкі, якія, разявіўшы пашчы з рэшткамі напаўгнілых зубоў, ці то захоплена крычаць, ці то спяваюць...**
**Хто яны? Ахвяры сістэмы? Маўклівыя шрубкі яе механізма? Вязні невядомых ГУЛАГаў альбо іхнія цэрберы? Ці нейкія іншапланецяне, закліканыя замяніць чалавецтва, якое духоўна вымірае?**
**Што ж гэта за племя такое, нібыта народжанае са смярдзючых куч бруду? І хто ж іх спарадзіў?**

# Алег ЦАЛКОЎ:
# “ПРЫМАЮ ЗЛО ЯК НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ”

## Знакаміты ў свеце мастак вучыўся ў беларуса Віталя Цвіркі

А спарадзіў усе гэтыя вобразы, усіх гэтых Паліграфаў Паліграфавічаў Шарыкавых не які-небудзь прафесар Праабражэнскі, а “руска-французскі” жывапісец Алег Цалкоў, які, паводле выказвання Яўгена Еўтушэнкі, “стварыў асаблівы міфалагічны тып персанажаў з тварамі, расплюшчанымі часам, страхам задумацца пра саміх сябе...”

Мастак нібы і грэбуе імі, і любуецца іхняй крыху жудаснай сілай. У аснове такой дваістасці — філасофія непрымання чалавека і чалавецтва і — адначасова — прызнанне непазбежнасці яго існавання.

Алег Цалкоў эмігрыраваў у Францыю дваццаць гадоў таму. Менавіта тады Барыс Слуцкі сказаў, што ён — “магчыма, будучы геній”. Неўзабаве італьянцы, вырашыўшы, што геній ужо “адбыўся”, выдалі ў выдавецтве “Фабры” альбом пра Цалкова ў серыі “Вялікія манаграфіі”.

Ва ўзросце 20 гадоў Алег Цалкоў вызначыў мэтай свайго жыцця займацца толькі жывапісам і больш нічым. У 49-м паступіў у Маскоўскую сярэднюю мастацкую школу. Але хутка выказаў сваю некіруемасць і ўпартае жаданне “быць не такім, як усе”. Ад выключэння яго ўратавала абсалютная дзіцячая наіўнасць, што даходзіла да інфантыльнасці, і тое, што ягоны бацька, дыспетчар авіязавода, быў перакананым партыйцам, які бязмежна верыў у праўду таварыша Сталіна.

**Алег Цалкоў:** *“У Сурыкаўскі мастацкі інстытут мяне не прынялі, як “непажаданы” элемент, тады я паступіў у Мінскі тэатральны інстытут, які толькі што адкрылі. З мясцовага ЦК прыйшла нейкая камісія і, убачыўшы мае карціны, — а яны страшэнна адрозніваліся ад усяго таго, што рабілі іншыя, — учынілі жудасны скандал. Мяне выгналі...”*

У іншым месцы: *“Адзін год пасля заканчэння мастацкай школы я вучыўся ў Мастацкім інстытуце Мінска. Пасля заканчэння навучальнага года нашы студэнцкія работы глядзіць нейкі мясцовы партыйны рэвізор. Мае работы выклікаюць у яго неўразуменне. Мяне гоняць прэч”.*

**Леанід Шчамялёў:** “Я пазнаёміўся з Алегам улетку 53-га года. Мы разам здавалі ўступныя іспыты ў БДТМІ. Гэта быў першы набор на мастацкі факультэт інстытута. Разам з намі іспыты здавалі тады Міша Казанскі (цяпер — у Маскве), Віктар Грамыка, Толя Анікейчык, Федзя Бараноўскі, Барыс Аракчэеў, Коля Залозны. Алег быў вельмі адораным чалавекам. Памятаю, як ён выдатна напісаў жоўтым колерам гарбуз, выклікаўшы ў тых, хто не сябраваў з каларытам, сапраўднае абурэнне. Праўда, педагогі Іван Ахрэмчык, Віталь Цвірка, Аскар Марыкс ставіліся да яго добразычліва. Але ж у Алега была добрая рэкамендацыя ад самога Іагансона!

Усе дысцыпліны Цалкоў здаў на “выдатна”, асабліва бліскуча ведаў гісторыю СССР. Быў ён камунікабельны, талерантны, асабліва блізка пасябраваў з Анікейчыкам: яны нават наймалі ўдваіх прыватны пакой у раёне Круглай плошчы.

Падчас студэнцкай практыкі, якой кіравалі Цвірка і Волкаў, ён шмат пісаў з натуры, як і ўсе мы. Аднак натуру ён разумеў па-свойму, больш глядзеў на яе нібыта “з нагоды”, а не як на рэальны прадмет. Гэта не зусім задавальняла Волкава, і аднойчы Валянцін Віктаравіч папрасіў Алега намаляваць чалавечае вока. Той імгненна выканаў. Прычым — цудоўна! Волкаў разгубіўся: “Ну вось, малады чалавек, значыць, можаце?” Алег хуценька выразаў нажніцамі гэтае вока і, усміхаючыся, працягнуў педагогу: “Калі падабаецца — дару на памяць...”

Аднойчы, гуляючы па лесе, Алег сказаў мне: “Ведаеш, Лёня, хачу неўзабаве паехаць. Адчуваю, што працягваць навучанне тут не змагу. Мая мастакоўская “праграма”, якую я заклаў унутры сябе, вычарпана...” І, сапраўды, скончыўшы курс, ён паехаў у Ленінград, дзе паступіў у Акадэмію мастацтваў... Але сувязяў з намі не перарываў, іншы раз дасылаў лісты, фатаграфіі. Скардзіўся, што яму нялёгка, што яго там “не разумеюць”. Але гэта і зразумела — жывапіс Цалкова ішоў абсалютна насуперак усёй тагачаснай акадэмічнай руціне...

А што да ягоных больш позніх успамінаў пра “нейкую камісію ЦК”, пра “жудасны скандал” з нагоды ягоных “студэнцкіх прац”, пра тое, што яго “выгналі” з БДТМІ, — гэта, мякка кажучы, не адпавядае рэчаіснасці. У часы педагагічнай дзейнасці Віталя Канстанцінавіча Цвіркі ніводная парткамісія, ніводны партыйны чыноўнік не “інспектаваў” нашыя студэнцкія творы. Магчыма, Алег забыўся на гэта, альбо гэта спатрэбілася яму ў свой час для падтрымкі і ўмацавання іміджа мастака-дысідэнта, якога вечна гоняць...”

Такі чынам, увосень 1954 года Цалкаў зрабіўся студэнтам Ленінградскага інстытута жывапісу, архітэктуры і скульптуры імя І.Рэпіна. Жыў у інтэрнаце і там, патаемна ад усіх, нікому не паказваючы, пісаў свае опусы.

**А.Цалкоў:** *“Але аднойчы іх убачылі студэнты-кітайцы і напісалі скаргу ў рэктарат. Яны не хацелі бачыць у “старэйшага брата” такую “агіднасць”, якую яны ў сябе выкаранілі, калі яна трапіла ў Кітай з імперыялістычнай Японіі. Мяне назвалі фармалістам і хутка выключылі...”*


А.Цалкоў. “Аўтапартрэт”. 1969.

Пасля пэўных нягод Цалкова ўзяў да сябе Мікалай Акімаў на тэатральна-пастановачны факультэт Ленінградскага інстытута тэатра і кіно. Так што Алег усё ж дыплом атрымаў. Па спецыяльнасці “мастак-тэхнолаг сцэны”. А затым і ўступіў у сябры Саюза мастакоў СССР. Хаця лічыў сябе “самавукам чысцейшай вады”. Калі ў яго пыталіся, адкуль ён усё ж такі “ўзнік”, называў Казіміра Малевіча фігуратыўнага перыяду, прымітывіста Анры Русо і Ван Гога.


А.Цалкоў. “Перавязаны твар”. 1979.

У 1956 годзе два нацюрморты Цалкова з’явіліся на маладзёжнай выставе. Іх убачыў Пабла Неруда і даслаў мастаку ліст, у якім былі такія словы: “Ваш мастакоўскі шлях шукае сапраўдную рэальнасць з уласнымі сродкамі выказвання і паэзіі. Брава!”

З 1961 года — Цалкоў у Маскве, дзе яму давялося зведаць і горыч забароненых выстаў, і безграшоўе, і міліцэйскі нагляд, і запоі, якія прыводзілі яго ў хваравіты стан “маніі пераследу”. Вытрываць і не страціць веру ў сябе дапамагло Цалкову збліжэнне з Еўтушэнкам, Ахмадулінай, Вазнясенскім, Рабіным, Глезерам, якія ацанілі ягоны арыгінальны талент. Творы Цалкова пачалі набываць. У той час нават існаваў такі жарт, што Алег “ацэньваў кожны сантыметр сваёй карціны ў тры рублі”.

Як ён жыў у Парыжы? Як усе рускія эмігранты, пачынаў цяжка, хаця ў пэўнай ступені быў ужо вядомым мастаком. Але неўзабаве дальнабачны амерыканскі галерэйшчык Нямкін, які раней “раскруціў” Шэмякіна і Неізвеснага, “паклаў вока” на Цалкова і прапанаваў за ягоную карціну велізарную суму.

Так пачыналася ягонае супрацоўніцтва з амерыканскім бізнесам. Хаця і тут спачатку не ўсё было добра.

**Алег Цалкоў:** *“Я не вельмі ўпісваюся ў сённяшняе мастацтва. Я пішу тое, што выклікае падазрэнне. Я пра сябе б сказаў так: “крыху чужы” паўсюль, у тым ліку і ў амерыканскім мастацтве. Прадаць мяне цяжка, калекцыянеры часта палохаюцца. Адзін рускі сказаў мне: “Ведаеш, калі на палатно прымацаваць кавалак дзярма, а да яго прыладзіць цагліну, дык усё гэта не будзе такім дзіўным, як твая карціна...”*

А.Цалкоў. “Чатырохгаловы з цвіком”. 1981.

Дык што ж такое жывапіс Цалкова? Сваіх дзіўных персанажаў ён знайшоў недзе на пачатку 60-х. Вобраз, безумоўна, змяняўся — ён рабіўся ці то больш гладкім, ці то шурпатым, ці то размытым. Гэты персанаж, паводле задумы мастака, уяўляе з сябе новую чалавечую расу. Ён адначасова і гуманіст і антыгуманіст, і два гэтыя пачаткі непадзельныя. Гэта значыць, ён — не добры і не благі. Падобныя тыпы, па словах Цалкова, ён знайшоў у абліччах Буды, кхмерскіх багоў, у вобразах мастацтва старажытнага Егіпта, масках Афрыкі. Менавіта ў тых эпохах, калі чалавек яшчэ не паспеў размежаваць дабро і зло, аддзяліць іх адно ад другога.

Аднак, на мой погляд, расшыфроўка вобраза і для самога Цалкова часта незразумелая. Вось што ён кажа з гэтай нагоды: “У карцінах савецкага перыяду мой герой, якога трымаюць за горла, агрэсіўны з прычыны сваёй несвабоды. Ён і пакутнік, і бязлітасны. На Захадзе ён страціў гэтую агрэсіўнасць. Ягоныя рысы зрабіліся размытымі. Але стрыжань таго, што я раблю ў Парыжы, застаўся ранейшым. У маіх тутэйшых палотнах не паболела гуманізму, дабрыні і любові. Мае персанажы не кідаюцца на некага з нажом альбо пісталетам, але сутнасць іх не змянілася. Там, у СССР, я сядзеў у сваім куце і пісаў, нібыта Пімен у келлі, пра жыццё вакол сябе. І тут я займаюся тым жа, я — той жа Пімен. А наогул, я спадзяюся, што маё мастацтва шырэйшае за нейкія формулы”.

Інакш кажучы, Цалкоў у СССР думаў, што стварае партрэт новай асобы, новай расы, новага чалавека, народжанага сацыялізмам. І ён нібыта змірыўся з існаваннем зла. Узвёў яго ў норму. Але ў Парыжы ён зразумеў, што зло існуе не толькі пры сацыялізме, што гэтая тэма вечная, проста на радзіме надта вялікая канцэнтрацыя зла штурхнула яго на распрацоўку гэтай тэмы; у Парыжы, злёгку трансфармаваўшы яе і пазбавіўшы першапачатковай экспрэсіі, — працягнуў свой адвечны цыкл.

Кажуць, сёння вобразна-пластычная сістэма мастака зрабілася крыху іншай. Пысы-маскі засталіся, але раты ўжо закрытыя, ілбы менш скошаныя, погляды не такія фанатычныя. І каларыт зрабіўся мякчэйшым, і фарбы — больш разнастайнымі, знікла кантраснасць, з’явілася лёгкасць. І зло, закладзенае ў гэтых масках-партрэтах, жоўтых, зялёных, блакітных, ліловых, — нібы згубіла ўсепераможную хаду, непазбежнасць і нястрымнасць.

Можа, гэта і так. Не ведаю. Карцін Цалкова французскага перыяду я не бачыў. Толькі некаторыя рэпрадукцыі. І прынцыповая сутнасць творчасці мастака не змянілася. І ў гэтым сэнсе жывапіс Цалкова для мяне ўяўляе цікавасць больш як факт еўрапейскага мастацтва XX стагоддзя, чым крыніца майго асабістага, душэўнага суперажывання.

Мне больш блізкае тэарэтычнае крэда Алега Цалкова: “Каб “Я” ператваралася з апошняй літары ў першую і каб вакол гэтага “Я” круцілася дзяржава, грамадства, суд. Чалавек і ёсць “Я”, і яго па магчымасці трэба абараняць, каб кожны мог жыць як умее, каб ніхто не мог сказаць: вось мне хтосьці перашкодзіў”.

**Барыс КРЭПАК**

Культура
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Людміла КРУШЫНСКАЯ



Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон/факс: (017) 276-94-66

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3237.

Падпісана ў свет 26.11.98. у 18.30.

Замова 6888.

Друкарня выдавецтва “Беларускі Дом друку”.
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.